Цана 25 к. Індэкс 74824



















ISSN 0234—1387

# Крыніца

КРАСАВІК 1989

**МЫ РАСЦЕМ?**



Пабла Пікаса — 1932 год.

# СЕЗАМ, АДЧЫНІСЯ!

## РОЗДУМ ПАСЛЯ ВЫСТАВЫ

ВЕРНІСАЖ



Хуан Грыс — 1913 год.

«Мадэрнізм — новае знаёмства», — пад такім дэвізам прайшла ў Трацьцякоўскай галерэі выстава жывапісных работ са збору Г. Г. Тысена-Барнеміса. Дакладней было б сказаць «новы погляд» — бо ж яшчэ зусім нядаўна нас перасцерагалі: «Мадэрнізм не толькі падманны па сваёй сутнасці, але і вельмі небяспечны».

Набяромся смеласці і ўвойдзем у залу, дзе швейцарскі калекцыянер даў нам мажлівасць на ўласныя вочы ўбачыць палотны самых розных напрамкаў і паспрабаваць разабрацца, ці такі страшны чорт, як яго малююць.

Для шырокага гледача гэтая выстава — буквар для вывучэння азоў мадэрнізму — нябачанага дагэтуль, шматгалосага, яскравага свету, створанага пошукамі некалькіх пакаленняў заходніх і айчынных мастакоў, якія рашуча адмовіліся ад класічнае традыцыі. Яны адкрывалі новыя формы і спосабы выказвання.

Найбольш шматлікая і найменш вядомая нашаму гледачу група на выставе — сюррэалісты. З галоўнай постаццю гэтае плыні іспанцам Сальвадорам Далі нас пазнаёміў французскі выдавец П'ер Аржыле, які паказаў у маі мінулага года графіку мастака. Сваю выставу Аржыле параўноўваў з прыадчыненымі дзвярыма, якія мусяць расчыніцца яшчэ шырэй. Так і здарылася. Цяпер мы знаёмімся з жывапісам Далі, трапляючы ў ягоны свет «канкрэтнае ірацыянальнасці», дзе лагічныя сувязі паміж будзённымі прадметамі, напісанымі з фатаграфічнай дакладнасцю, заменены паэтычнымі асацыяцыямі. «Мы ў сне ці ў глыбінях душы там, дзе пануе сама любоў і нетутэйшы вецер гучыць аддаленай музыкай,— пісаў у 1928 годзе пра карціны свайго сябра Федэрыка Гарсія Лорка ў «Скетчы пра сучасны жывапіс».— Трэба вызваліцца ад вонкавай рэальнасці, каб прыйсці да рэальнасці сапраўднай, пластычнай. Шукаць



Анры Мацiс — 1940 год.

не фізічныя ўласцівасці, а жывапісныя эквіваленты. Не ўніклівае падабенства прадмета, а ягонае жывапіснае ўвасабленне, геаметрыю і лірыку рэчы, яе пластычную адпаведнасць... Пяць стагоддзяў — і аніводнага зруху. Цяпер жывапіс разам бярэ новы курс, жывапіс, верны ўласнай логіцы, слухмяны духу творчасці».

Другі каталонец, мастацтва якога мела дачыненне да сюррэалізму, — Хуан Міро. На сумежжы паэзіі і дзіцячых мрояў ён ствараў уласны «мікрасвет», населены сімвалічнымі фігуркамі, якія нагадваюць жывыя істоты; у ім мастак адлюстраваў спрадвечную прыроду бясконца малога, пярвічнага атама. Міро ўцякаў ад рэчаіснасці ў прыроду, якая, як ён лічыў, адначасна раз'ядноўвае і яднае сонца і зямлю, рэальнасць і мары.

«Я не стаўлю знак роўнасці паміж жывапісам і паэзіяй», — заяўляў Міро, які першы ўвасобіў «слова» на сваіх карцінах. Калі ён пісаў карыду, рукі гледачоў, што апладзіравалі, маглі стаць на ягоных палотнах крыламі голуба, бандэрыллі — стракозамі, рогі быка — паўмесяцам.

Бельгіец Рэнэ Магрыт — прадстаўнік «прадметнага» сюррэалізму. Ягоныя карціны няпростыя, мастацкая манера неарыгінальная — гэта «цвярозы акадэмізм». Палотны мастака — пратакол немагчымага: акамянелыя плады, акуратныя, у кацялках, клеркі, што ляцяць у паветры, скалы, якія аблокамі плывуць у небе... Магрыт марыў, каб людзі зірнулі на свет з непасрэд-

Заканчэнне на стар. 20

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

КРЫНІЦА

№ 4 1989

ШТОМЕСЯЧНЫ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС ЦК ЛКСМБ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Мінск, «Полымя»
Выдаецца са студзеня 1988 года



Выдаецца на рускай і беларускай мовах

Рэдакцыя прымае матэрыялы, аб'ём якіх не перавышае 25 старонак машынапісу праз два інтэрвалы. Рукапісы рэдакцыя па пошце аўтарам не вяртае.

ПІШЫЦЕ: 220807
г. Мінск, ГСП
вул. Кісялёва, 11
ЗВАНІЦЕ: 36-60-71, 36-61-13, 36-61-42

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю
Здадзена ў набор 16.02.89.
Падпісана да друку 23.03.89.
АТ 05196.
Фармат 60×90 1/8.
Афсетны друк.
Ум.-друк. арк. 5,5.
Ум. фарб.-адб. 16.
Ул.-выд. арк. 9,7.
Тыраж 49 530.
Зак. 77. Цана 25 к.
Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Адрас: 220041, г. Мінск, Ленінскі праспект, 79

1-я стар. вокладкі. Фота-плакат Уладзіміра КАЦАПАВА

## Двудушнасць і двайная мараль

Тэма, пра якую я пішу вам, думаецца, неабыякавая маладым людзям. Я маю на ўвазе «інтэрв'ю на вечную тэму» («Крыніца», 1988) і ўвогуле тэму кахання.

Галоснасць ускалыхнула нашы душы. Цяпер многія людзі сталі задумвацца пра жыццё. У розных пакаленняў — розныя думкі: у пажылых — аб пражытым жыцці, аб прычынах няўдач і перамог, у маладых — аб будучым. Задумаўся і я. Цяпер у мяне ёсць трохі вольнага часу, каб пастаянна сачыць за прэсаю ў нашай тэхнікумаўскай бібліятэцы. У многіх часопісах і газетах друкуюцца лісты маіх равеснікаў, у якіх у той ці іншай форме выказваюцца погляды на каханне. У многіх, і такіх большасць, — няўдачы ці расчараванні.



Дык што ж такое каханне! Пачуццё, якое ўсе лічаць лепшым і найцудоўнейшым у свеце, якое апяваюць паэты! А ніхто дакладна не ведае. У большасці лістоў думка такая, што каханне ў наш час увогуле не існуе. Сапраўды, калі каму-небудзь і сустрэлася непадробнае каханне, то ім можна пазайздросціць. Зламаныя лёсы, знявечаныя ідэалы... Вынік: «Дапамажыце знайсці сябра...», «Я вельмі адзінокая...», «Не магу больш так жыць...» і г. д., ну, вы не горш за мяне ведаеце.

Прычын гэтаму шмат. І перш за ўсё — бацькі! Я звяртаюся да вас, дарослыя: што вы зрабілі дзеля таго, каб вашыя дзеці былі шчаслівыя ў жыцці! Хіба ваша роля абмежаваная толькі тым, каб карміць і адзяваць дзяцей, даць ім адукацыю! Вашыя намаганні, а іншы раз і звышнамаганні, накшталт пільнага кантролю за дзецьмі: «не палажана», «рана табе яшчэ...» — прыгнятаюць у іх тыя парасткі чалавечнасці і дабрыні, якія маглі б прарасці ў юных душах. Што можа быць горшае за бацькоўскае неразуменне! Я гэта адчуваю цяпер. Тое ж самае, думаю, адчуваюць і мае равеснікі. Дарослыя, пастаўце сябе на месца вашых дзяцей! Скіньце маску высакамернасці. Перад вамі — Чалавек (я звяртаю на гэта ўвагу), а не ваша асабістая ўласнасць, як лічаць многія бацькі. А раз маё — што хачу, тое і раблю. Дзеці сталеюць цяпер раней, у іх з'яўляюцца свае погляды на жыццё, і мы не будзем жыць, як вы. Кожнае наступнае пакаленне чымсьці адрозніваецца ад папярэдніх, і вы гэта павінны зразумець, зразумець душы вашых дзяцей, дапамагчы ім хутчэй зразумець жыццё. Валюнтарызм тут недапушчальны.

Вядома, ханжаства і пурытанства тут заўсёды хапала. Я не псіхолаг, не біёлаг, але лічу, што чалавек павінен жыць і рабіць тыя ці іншыя ўчынкі зусім натуральна, у ім усё павінна быць натуральна, як і ён сам. І каханне таксама натуральнае, асабліва ў маладосці. Дарослыя ж лічаць, што калі з'явілася каханне ў 16 — 18 гадоў, значыцца, не чакай нічога добрага: яно будзе замінаць майму сыночку (дочачцы) у вучобе і г. д., а значыцца, трэба тут навесці парадак. Накладваецца забарона. Замест таго, каб проста, душэўна, тактоўна пагаварыць з чалавекам, растлумачыць, што і як. Забарона — не метад выхавання! І адміністратыўна-камандныя метады ніколі не прыносілі пажаданых вынікаў! Ці ж мала фактаў перыяду застою!

Толькі і чуеш: «Ах, гэтая моладзь зусім сумленне страціла. Мы былі не такія!» А як яму захавацца, гэтаму сумленню! Яно не можа матэрыялізавацца з нічога.

Каханне — з'ява унікальная, індывідуальная для кожнага чалавека, асабліва першае, калі, як кажуць, светаўспрыняцце асабліва абвостранае. І яно не павінна аблытвацца ўсякімі надуманымі тайнамі, гэтым вы заблытваеце нас і заблытваеце саміх сябе.

Далей, наконт «полавага выхавання». Якіх «грандыёзных» поспехаў мы дасягнулі на гэтай ніве! Чалавек не ведае свайго арганізма, не ведае, што і як з ім адбываецца. А ўсе выступаюць за здаровы побыт. А калі ўзяць статыстыку! Колькі ў краіне разводаў з-за няправільнага сексуальнага і полавага выхавання! З-за незадаволенасці полавым жыццём працаздольнасць у мужчын падае на 25 працэнтаў, у жанчын — на 70. Гэта ўжо эканамічныя паказчыкі! Сёння яшчэ сустракаюцца людзі, якія пры слове «секс» сарамліва апускаюць вочы ці неяк па-дурному смяюцца. Я згодны, што гэта справа індывідуальная, асабістая. Гэта правільна. Так і павінна быць. А на ўроках «Этыкі і псіхалогіі сямейнага жыцця» выкладчыкі ўсё гавораць і гавораць пра каханне і г. д., але пра «гэта» — аніводнага слова. Дзесяцікласнікі сядзяць і ўхмыляюцца: маўляў, «скажы нам, цётачка...». Яны ўжо многае ведаюць. А кампетэнтныя міністэрствы ўсё яшчэ ніяк не дамовяцца паміж сабою. Вось і прыходзіцца пра ўсё гэта даведвацца ў выпадковых людзей. Чуткі, як вядома, з'яўляюцца ад недахопу інфармацыі. Дык няўжо такая небяспечная гэтая інфармацыя! Урэшце, усе мы людзі і хочам жыць так, як нам завяшчала прырода, не абражаючы пачуццяў іншага чалавека. Прашу не думаць, што я гуляка, проста я не магу зразумець тых, хто, параспаўшы з адною, перабіраецца да другой і г. д. Калі б я глыбока і шчыра кахаў дзяўчыну, дык не стаў бы прыніжаць яе і сябе. Я так не магу.

Усе дарослыя жадаюць нам шчасця на словах, а што атрымліваецца на справе! Двудушша і двайная мараль. Нас вучаць, што такое дабро і зло, як іх разумець, але як будаваць асабістае жыццё, нас ніхто не вучыць. Вось і выходзіць, што праз адсутнасць тактоўнасці і выхаванасці ў бацькоў пакутуюць іхнія дзеці.

Прапаную адкрыць на старонках «Крыніцы» дыскусію на гэтую тэму.

М.Т.
г. Брэст

## А САПРАЎДНЫХ ЖА НЯМА...

Піша вам шаснаццацігадовая дзяўчына. Пішу, вядома, не ад добрага жыцця. Мне здаецца, што толькі з цяжарам у душы і можна пісаць лісты ў рэдакцыі. А радасцю ж лепш падзяліцца з роднымі, сябрамі.

Хачу пагаварыць пра каханне і ўвогуле пра жыццё. Пачну адразу катэгарычна: кахання не існуе. Яго няма! Няма! Няма! Я гатовая паўтараць гэта незлічоную колькасць разоў! Нехта з «вялікіх» сказаў, што каханне — гэта жыццё. А раз няма кахання, выходзіць, няма і жыцця! Вось бачыце, я ж сваю думку абвяргаю і гэтае ж абвяржэнне гэтаксама ж будзе мною абвергнута. Але як быць далей, калі я з 13 гадоў пакутую так, што нават не веру ў самое жыццё!

Першае каханне было (як і ў кожнага), калі ўжо споўнілася 15 гадоў. Пакахала чыста, пяшчотна, з дзіцячай наіўнасцю. Але нічога добрага з гэтага «кахання» не атрымалася. Ён мяне кінуў, напаследак мяне ж ва ўсім абвінавацілўшы. Як жа крыўдна было, да слёз. Але з часам усё прайшло, забылася. Хаця пры ўспаміне аб ім усярэдзіне нешта пераварочваецца, сціскаецца.

Але што значаць сённяшнія хлопцы! Асабліва непаўналетнія! Ніводны з іх не варты ні нашых дзявочых слёз, ні павагі. Яны нічога не значаць — нуль, пустое месца. У галаве ва ўсіх (даруйце за рэзкасць) — куды б каго зацягнуць, дзе б выпіць і г. д. А тое, што нават самай «кончанай» дзяўчыне ў рэшце рэшт хочацца пяшчоты, ласкі, узаемаразумення, нават, як амаль усе кажуць, кахання, ім не зразумець.

Выбачайце за падрабязнасць, але я пачала жыць з хлопцамі з 14 гадоў. Так што на асабістым вопыце ўсё ведаю... Мне сумна, бо бязладнае жыццё абрыдла. Але не падумайце, што я якая-небудзь «адпетая». Не, люблю чытаць, вязаць, іграю на музычных інструментах, вельмі люблю філасофію, вершы пра каханне, палітычна (але, і так!) падкаваная. Карацей, паводле знешняга выгляду характарыстыка прыкладна гучыць так: добрая, кантактная, трохі грубаватая (як кажуць, любы чалавек мае недахоп), кемлівая, але здольнасці выяўляе не ва ўсім ці не там, дзе яны (здольнасці) патрэбныя. Цяпер вучуся ў тэхнікуме.

Запаветная мара — знайсці добрага спадарожніка жыцця, знайсці спакой на ўсё астатняе жыццё. Але каб было спакойна, трэба, каб у душы не было страху за сваё жыццё. Бо цяпер жа як! — ні з кім немагчыма пазнаёміцца! Не дагодзіш аднаму, другому — і лічы, што добрага жыцця ў родным горадзе не відаць.

Добрых хлопцаў цяпер вельмі мала, прыкладна адзін са ста. А як хочацца, каб было якраз наадварот. Але прызадумацца, а тым больш адумацца нікога з іх не прымусіш.

Не хачу гаварыць прыгожыя словы пра рыцараў — пра гэта і так усе ведаюць. Але няўжо так будзе заўсёды!

Тэма атрымліваецца не закрытая, пісаць пра яе можна бясконца, бо канца гэтай тэме няма. Напісала вам, каб выгаварыцца. Але дапамогі ні ў кога не прашу.

Н.,
г. Полацк

## НАСТАЎ ЧОРНЫ ДЗЕНЬ...

Заўсёды з вялікім нецярпеннем чакаю «Крыніцу». І ў першую чаргу чытаю «Кола знаёмстваў». Я адчуваю сябе жудасна адзінокай. Мне ўсяго толькі 15 гадоў, а я страціла веру ў людзей. І ў мяне ёсць на гэта прычыны. Раней у мяне было шмат розных прыяцеляў і сяброўка была. Але я пакахала чалавека, старэйшага за мяне на 5 гадоў. Падабаўся ён многім дзяўчынкам. А мне спачатку — зусім нават і не. Але, як кажуць, да добрага чалавека каханне само прыходзіць. Так атрымалася і ў мяне. І вось пачалося. Мяне пастаянна пачалі папракаць ім. І ўсё ад зайздрасці...А я берагла сваё пачуццё як магла. Гэта маё першае каханне, я сама не ведаю, як так атрымалася. Але ён заўсёды мяне разумеў, я бачыла ў ім сапраўдную апору. Я бачыла, я адчувала ягонае каханне.

Але... настаў і для мяне чорны дзень. Мы сябравалі ўвесь год. І раптам — пра гэта даведаліся бацькі. І тут усчаўся такі гвалт, такі скандал, што ледзь на крайнасці не пайшла. Мне зусім не хацелася жыць. Знік усялякі інтарэс да вучобы, да любімых заняткаў. Бацькі забаранялі нам сустракацца, баяліся, што ён старэйшы за мяне нашмат і «як бы з гэтага чаго-небудзь не выйшла». А мне моташна было слухаць. Ён паважае мяне, цэніць і беражэ. І я бачу гэта ў кожным руху, у кожным ягоным позірку. Я не магла слухаць такія пошласці. Спрабавала пагаварыць з бацькамі, з мамай, але чула адно: «Мы нічога не хочам слухаць і разумець!..» А мы працягвалі сустракацца. Мы проста дыхалі адно адным. Нам было заўсёды добра і цікава разам. І вучылася я яшчэ лепей, чым да знаёмства з ім. І чаго, здавалася, не хапае!! А бацькі шалелі. І ў адзін «цудоўны» дзень паставілі пытанне рубам: «Ці ты перастанеш сустракацца з ім, ці мы пазбавім яго дыплома». Справа ў тым, што ён — мой педагог у музычнай школе. І бацькі ўсё палохаюць: «Адно наша слова — і яго выганяць за спакушэнне непаўналетняй».

Мы не сустракаемся ўжо другі месяц. Вучобу я завалiла. Думкі далёка не пра падручнікі і ўрокі. Ён спрабаваў пару разоў сустрэцца са мной, але я яму гэта забараніла. Забараніла, бо я сваіх бацькоў ведаю. Сказалі — дык зробяць!

Дапамажыце, я прашу вас. Я не магу болей. Мне дрэнна і цяжка. Я адчуваю сябе такой адзінокай, што мне часам жыць не хочацца. Нават у гэтыя хвіліны, калі пішу гэты ліст.

А са мною ніхто цяпер не хоча звязвацца, бо ўсе гавораць, што дзеля яго я ўсіх кінула. Не!.. Я нікога не кідала. Усе, каго я больш-менш добра ведала, адвярнуліся ад мяне з зайздрасці да майго шчасця. А гэта ж вёска, тут нічога не схаваеш, тут усе ўсіх ведаюць.

Я не ведаю, чаму я вырашыла напісаць гэты ліст. Мне проста патрэбная хоць чыясьці добрая парада. Хачу даверыцца людзям яшчэ адзін раз. А раптам — дапаможа. Парайце мне хоць што-небудзь! Лепш памерці, чым жыць так, як я цяпер жыву. А калі пачуццё маё затопчуць — дык гэта назаўсёды. Я ніколі больш нікога не пакахаю. Так кахаць можна толькі раз. І не трэба мяне ўгаворваць і пераконваць, не дапаможа. Я хачу, каб мы былі разам. Чаму, чаму ніхто не хоча верыць, што нашыя пачуцці ні да чаго благога не прывядуць!!

Ангеліна С.
Гродзенская вобл.



## ЛЮСТРАНАЯ ЗАЛА

ЯШЧЭ РАЗ ПРА КАХАННЕ

**Наталля МАРОЗАВА**



# ЗНАЁМЦЕСЯ: Уладзімір Ільіч ЛЕНІН

Малады настаўнік гісторыі, звычайна бадзёры, дасціпны, энергічны, сёння ўвайшоў у настаўніцкую пануры і раздражнёны.

— Вось, палюбуйцеся,— праз зубы працадзіў ён. Я «палюбавалася», заглянула ў сшытак, з якім Сяргей Антонавіч хадзіў на семінар класных кіраўнікоў, і прачытала: «Выхаванне моладзі на прыкладзе жыцця і дзейнасці У. І. Леніна».

— Ну і што? — спыталася я. І вось тут ён літаральна выбухнуў:

— Колькі можна! Хопіць! Абрыдла! Усюды — Ленін. Куды ні зойдзеш: у лазню, у магазін, на пошту, у сталовую — усюды яго партрэты, усюды яго выказванні. Ды што ж гэта такое, мы ўжо і абедаць, і стрыгчыся павінны абавязкова паводле Леніна? А што я буду казаць вучням? «Дзеткі, вучыцеся добра, бярыце прыклад з Валодзі Ульянава, у яго ў дзённіку былі адны пяцёркі»? Ды плявалі яны на пяцёркі, не хочуць яны ні з кога браць прыкладу, дайце ім, нарэшце, магчымасць быць самім сабой!

Трэба сказаць, што Сяргей Антонавіч — класны кіраўнік у 10 класе. Моладзь у яго задзірыстая, нічога не бярэ на веру, з тых, што словам не запазычыцца. Яны могуць дараваць настаўніку недахоп вопыту і нават ведаў, але ніколі не даруюць аніякага фальшу. Так што мне зразумелае настаўнікава абурэнне: чалавек спрабуе знайсці кантакт з такой яршыстай публікай, а тут яму па завядзёнцы спускаюць зверху заштампаваныя фармулёўкі, якія даўно ўжо ўсім косці праелі.

Гаворка ў нас выйшла тады доўгая. Пачалася яна ў настаўніцкай, а канчалася ўжо пасля ўрокаў, у бібіліятэцы. У нечым я яго пераканала, у нечым ён мяне. Прынамсі, шмат на што ён прымусіў мяне зірнуць свежым вокам, а калі дакладней — зірнуць на праблему з улікам думкі моладзі.

— Ну скажыце,— насядаў Сяргей Антонавіч,— ці можна сёння чакаць ад моладзі шчырай цікавасці да Леніна? Паглядзіце, што з ім зрабіла наша мілая прапаганда — нешта нуднае, афіцыйнае, прымусовае... А колькі хлусні навакол, колькі подлых кар'ерыстаў, а то і проста прахвостаў грэе рукі на яго імені!

— Чакайце, чакайце, — ледзьве ўтачылася я ў палымяны маналог.— Чаго ж вы хочаце, каб мы адмовіліся ад каштоўнасцей толькі на той падставе, што іх мацаюць брудныя рукі? Можа, нам трэба скасаваць з духоўнага жыцця вялікую Дзевятую сімфонію Бетховена,— яе ж любіў слухаць... Гітлер? Альбо выкінуць на сметнік паняцце гуманнасці толькі таму, што «гуманнай» сёй-той называў... нейтронную бомбу? Бачыце, забівае, ягадка, адразу, напавал, без мукі...

Сапраўды, трэба прызнаць: чаго толькі ні рабілі нібыта пад сцягам ленінізму, якіх толькі брыдкіх, агідных спраў ні прыкрывалі яго імем, яго цытатамі, яго партрэтамі... Дык што ж цяпер, адкідаючы ўсю дэмагогію, наліплую на яго імя, нам і наогул адмовіцца ад ленінізму?

— Ды не, чаму — ад ленінізму? Сёння, у гады перабудовы, ленінізм якраз вельмі патрэбен, гэта якраз усім ясна. Але ж калі мы заклікаем школьнікаў браць прыклад з Леніна, мы ж маем на ўвазе не ленінізм, не вучэнне Леніна, а яго чыста чалавечыя рысы характару. А хіба ж чалавечае аблічча Леніна таксама не знявечана?

— Яшчэ як знявечана! Зрабілі з Леніна нейкага сентыментальнага, добранькага дзядка...

— Во-во, а я пра што! Яшчэ Маякоўскі асцерагаў: «Не залили б приторным елеем ленинскую простоту».

— Па-мойму, не толькі прастату, але і ўсяго яго ялеем залілі.

— Я вось, напрыклад, вельмі люблю Ясеніна, але яго вершы пра Леніна мяне проста калоцяць! Ну што гэта такое, паглядзіце:

А он с сопливой детворой
Зимой катался на салазках.

Гэта ж бо трэба, такая мілата! Альбо вось гэта:

И не носил он тех волос,
Что льют успех на женщин томных...

Ну, хоць ты слёзкамі заліся, як за душу бярэ жывую! Нібыта яно ад яго залежала — насіць альбо не насіць... Ды ў яго проста не было «тых валасоў». У Карла Маркса, як вядома, была раскошная грыва, дык што ж, яму трэба было пагаліцца нагала, каб даспадобіцца пеюнам сціпласці?!



— Ну Карл Маркс з іншай краіны, у нас адносіны да яго традыцыйна склаліся толькі як да мысліцеля. А шкада: і ў яго лёсе, і ў яго чалавечым вобразе шмат цікавага, павучальнага. Але мы да крыўды мала ведаем пра яго як пра чалавека. Затое вось пра Леніна ведаем быццам усё чыста. А на самай справе ў нашых ведах столькі блытаніны, мешаніны... Ну і вядома ж, як вы слушна сказалі, на яго вобраз наліпла столькі саладжавасці і сентыментальшчыны. Памятаеце? То Ленін дорыць рукавіцы паставому, то незнаёмай бабульцы без ніякіх там дакументаў назначае пенсію, то другой бабульцы пасабляе ў лесе галля назбіраць... Усё гэта нагадвае нейкія лубачныя маляванкі ў падручніку па дабрачыннасці, а то і наогул — ікону.

— Правільна! А пасля гэтага кажуць: «Бярыце прыклад». З каго? З бога, з іконы? Нам дык яшчэ не ішло не ехала, за доўгія гады наспасобіліся прыкідвацца: слухаюся, бач, і пад казырок бяру, вазьму прыклад з каго скажаце. Сёння маладыя не такія. Яны пазубасцелі, яны калі чаго не прымаюць, дык так і рубяць з пляча. І вось ім, такім, я павінен казаць: «Дзеткі, бярыце прыклад з Уладзіміра Ільіча»?

— Ну навошта ж так прымітыўна! Можна ж сказаць і інакш: вучыцца ў Леніна, браць у яго ўрокі. Вось на тое, як мне здаецца, нам і трэба вывучаць ленінскі характар.

— Добра, уявім — вывучылі. Да апошняй драбінкі, ачысціўшы ад ялейшчыны і спрошчвання. І вось ён стаў перад намі ва ўсёй велічы свайго высокамаральнага вобраза. Прычым, маральная вышыня яго, як вы добра ведаеце, настолькі вялікая, што нават наблізіцца да яе няма чаго і марыць. Дык навошта ж нам панукваць маладога чалавека, каб узіраўся ў гэты феномен маральнай дасканаласці? Каб чалавек, гледзячы на яго, мацней адчуў сваю мізэрнасць?

— Ну і пытанне... Але вось скажыце, калі, напрыклад, вы глядзіце на цяжкавагавіка, які падымае штангу, вы што, адчуваеце сваю фізічную немач ці ўсё ж любуецеся чалавечай сілай у яе найпрыгажэйшым выяўленні? А інакш, навошта тады нам наогул патрэбны вяршыні ў мастацтве, у спорце, ды і ў любой прафесійнай справе? Мне здаецца, што сутнасць рэкордаў — у дэманстрацыі магчымасцей чалавека. Яны даюць нам магчымасць адчуць гонар за чалавека наогул: вось, бачыце, выяўляецца, чаго можна дасягнуць працаю над сабой.

А тут перад намі таксама своеасаблівы «рэкорд»: у вобразе Уладзіміра Ільіча мы маем незвычайна высокую ступень маральнага развіцця. Дацягнуцца да гэтай планкі — сілы не хопіць, але ведаць пра гэтую вышыню, ведаць, што, у прынцыпе, яна магчымая,— хіба гэта не мацуе ў нас веру ў чалавечую сілу, у тым ліку і ў сваю сілу?

— Ваш прыклад з рэкордамі мяне амаль пераканаў. І ўсё ж... Хай мы будзем ставіцца да вобраза Уладзіміра Ільіча як да ідэалу, да якога павінны імкнуцца. Згодзен. Але скажыце, дзе з гэтым ідэалам можа пазнаёміцца моладзь? Як мы ўжо з вамі казалі, у кнігах поўна сусальшчыны, многія з кінафільмаў стракацяць штампамі...

— Ну чаму ж, ёсць і добрыя кнігі. Чытайце з вучнямі п'есы Шатрова, тэтралогію Марыэты Шагінян «Сям'я Ульянавых», асабліва апошнюю частку «Чатыры ўрокі ў Леніна».

— Лёгка сказаць: чытайце. Ды не хочуць яны чытаць, кепскія кнігі адбілі ахвоту і ад добрых. Яны проста ўжо не вераць, што пра Леніна могуць быць цікавыя кнігі, і ставяцца да іх як да прымусоўкі. Дарэчы, вам вядома, што шмат якія бібліятэкары навязваюць дзецям кнігі пра Леніна, а некаторыя нават дадумаліся даваць іх у нагрузку да прыгодніцкай літаратуры?

— Божа, які кашмар! Проста, як жудасны сон.

— На жаль, не сон, а даволі рэальнае жыццё. Ужо і не ведаю, чаму, можа, дзякуючы сямейным традыцыям, але мне ўдалося захаваць у сабе чыстыя, нават нейкія рамантычныя адносіны да Леніна. А вось з дзецьмі цяжка. Проста нязносна цяжка адольваць скепсіс, прадзірацца праз навязаныя ім штампы...

— Я вас разумею. Я таксама прайшла праз гэта. Хочаце, падзялюся з вамі сваімі знаходкамі на гэтай дарозе?

— І не пытайцеся!

— Дык вось. Памятаю, арганізавала я ў школе ленінскі гурток. Але неўзабаве, гэтаксама, як вы, адчула скептычныя адносіны гурткоўцаў да кніг пра Леніна. І тады сказала ім: давайце на час адкінем усякіх пасрэднікаў, і дрэнных і добрых, і пойдзем да самога Леніна. І ведаеце, ход гэты быў не проста правільны, а адзіна правільны: мы пачалі чытаць *самога* Леніна! З таго часу я ўжо да канца ўпэўнілася, што гэта самы надзейны, хоць і нялёгкі шлях. Чытаць Леніна як мага болей, лепей усяго, у Поўным зборы твораў.

— Дазвольце, дазвольце, вы не абмовіліся? Я, вядома, разумею, што *ленінізм* лепш за ўсё можна спазнаць, чытаючы самога Леніна. Падкрэсліваю — ленінізм, гэта значыць вучэнне Леніна. Але ж мы з вамі гутарым пра яго характар, пра чыста чалавечыя рысы.

— Не, не, я не абмовілася. Вядома, што чалавек найярчэй выяўляе свае чалавечыя якасці ў справе. Прычым, найпаўнейшае самавыяўленне бывае тады, калі чалавек займаецца ўлюбёнай справай, галоўнай справай свайго жыцця. А галоўная справа жыцця Леніна якраз — у яго Поўным зборы твораў.

— Але ўсё ж, згадзіцеся, ёсць такія якасці чалавека, якія выяўляюцца толькі сярод сяброў, у побыце, а не ў палітычнай дзейнасці.

— Не згаджуся. Па-першае, ленінскія тамы ўключаюць у сябе і такія, прыватныя, адносіны — гэта дзесяць тамоў, з 46-га па 55-ты, з пісьмамі. А па-другое, Уладзімір Ільіч наогул меў рэдкі дар быць самім сабою. У яго проста, у прынцыпе, не магло быць ніякага раздваення, ён быў такі самы і ў палітычнай сферы, і сярод блізкіх, сяброў.

— Ну добра. Тэарэтычна вы мяне пераканалі. Але вось як гэта будзе выглядаць на практыцы? Першы шлях, знаёмства з Леніным па кнігах пра яго, нам вядомы. Добра ці блага, але гэта мы «праходзілі». У такіх кнігах ленінскія рысы названы непасрэдна, як кажуць, адкрытым тэкстам. Вось, напрыклад, расказваюць, што ва Уладзіміра Ільіча быў адзін гарнітур і што хадзіў ён у старых чаравіках, харчаваўся дрэнна,— і што ўсё гэта называецца *сціпласцю*. Тут усё ясна. А вось як гэтую самую сціпласць убачыць у творах?

— Вось ужо праўда дык праўда, па творах нельга даведацца, у старым ці ў новым гарнітуры ён іх пісаў і ці добра перад гэтым паснедаў. Але ці так яно гэта важна? Дарэчы, асабіста я не ўжывала б слова «сціпласць», убачыўшы, што чалавеку не хапае патрэбных рэчаў і бытавога камфорту. Па-мойму, тут дарэчы вымавіць слова «беднасць»...

— ??

— А чаго вы дзівіцеся? Жывучы за мяжою, Уладзімір Ільіч і Надзея Канстанцінаўна стараліся не карыстацца партыйнай касай, жылі толькі на ганарары. Ды вось пачытайце ва ўспамінах Фрэдрыка Строма «Ленін у Стакгольме» пра тое, як Уладзімір Ільіч пазычаў грошы на дарогу ў Расію. Дарэчы, Стром так проста і піша пра Леніна: «Ён быў бедны чалавек». А мы чамусьці яго беднасцю захапляемся, замілоўваемся. Калі ўжо і захапляцца, дык не тым, што ў яго быў стары гарнітур, а тым, што ён не хацеў уладкоўваць свой быт за чужы кошт, не лічыў для сябе магчымым у атмасферы ўсеагульнай беднасці, спустошанасці прэтэндаваць на нейкія матэрыяльныя прывілеі, у прынцыпе, належныя яму паводле пасады. Але я не называла б гэта сціпласцю, а бадай — прыстойнасцю. Гэта было ўласціва і іншым бальшавікам, згадаем, як нарком харчавання (!) Цюрупа аднойчы самлеў ад голаду.

Дарэчы, што б вы сказалі на тое, калі б сёння нашы кіраўнікі партыі і дзяржавы хадзілі ў нядэшлых пінжачках і стаптаных чаравіках?

— Ну... гэта было б проста смешна. Нешта накшталт пазёрства, напаказ...

— Вось-вось! Менавіта — напаказ. А Уладзімір Ільіч ніколі нічога напаказ не рабіў. Я проста ўпэўнена, што, каб ён і Надзея Канстанцінаўна дажылі да нашых дзён, наўрад ці яны адмовіліся б ад добрай кватэры, ад дачы, ад камфартабельнай мэблі і дыхтоўнай вопраткі... Але пры гэтым, абсалютна перакананая, яны заставаліся б людзьмі сціплымі. Бачыце, якое няпростае гэта слова — «сціпласць».

— А яно і праўда, мы неяк не так, відаць, яго разумеем. Ведаеце, на самым пачатку свайго класнага кіраўніцтва я прапанаваў вучням: давайце, кажу, пагутарым пра сціпласць. Што тут пачалося! «Не хапала! Гэта каб быць ціхонямі і не «рыпацца»?». «Мы, бач, людзі маленькія, ад нас нічога не залежыць». «Рабі, што кажа настаўнік, і ніякай філасофіі». «Карацей,— не высоў-

вайся, так?» Я не паспяваў галаву паварочваць, яны мяне проста задзяўблі.

— А яны ж па-свойму мелі рацыю. У нас як толькі хоць трошкі нестандартна думае ці робіць, дык на яго і навешваюць ярлык «нясціплы». Таму моладзь такая падазроная да заклікаў да сціпласці. Дарэчы, калі вам яшчэ раз захочацца падыскуціраваць са сваімі вучнямі пра сціпласць, спытайцеся ў іх: як жа гэта так выходзіць, Леніна ўсе ў адзін голас называюць сціплым, а хіба ж ён быў ціхоня, з тых, што «не высоўваюцца»? Думаю, яны самі згадаюць і вядомую заяву Леніна «ёсць такая партыя», і гісторыю з Брэсцкім мірам, калі Ленін спачатку пайшоў адзін супраць усіх...

— Ну вось, гаварылі-гаварылі, а прыйшлі да таго, што ў Леніна амаль наогул не было ніякай сціпласці! Я б нават, перафразіраваўшы словы Станіслаўскага, сказаў так: сціплы чалавек любіць справу ў сабе, а не сябе ў справе. Прасцей кажучы, гэта чалавек без славалюбства. Вось калі мы дамовімся разумець слова «сціпласць» менавіта ў такім сэнсе, дык толькі тады і зразумеем, які сціплы чалавек быў Ленін! І калі, чытаючы ленінскія тамы, мы будзем сачыць не толькі за палітычнай думкай аўтара, а яшчэ і паспрабуем зразумець яго як чалавека, дык, проста пачынаючы з першага тома, адразу ж адчуем ленінскую апантанасць справай, якой ён служыў.

Здымем, напрыклад з паліцы 9—12 тамы. У іх — 1905 год. Пачатак першай рускай рэвалюцыі, як вы ведаеце, застаў Леніна ў Швейцарыі, у Жэневе. Ён, хто так многа зрабіў для абуджэння палітычнай свядомасці рабочых, цяпер не спяшаецца заявіць усяму свету — бачыце, гэта я ўсё арганізаваў, паглядзіце, усё ідзе як я прадказваў, усё ідзе па-мойму! Не, Уладзімір Ільіч пільна ўзіраецца ў падзеі, вывучае іх, аналізуе, сам вучыцца ў жыцця, у народа. Словам, вядзе штодзённую карпатлівую работу на рэвалюцыю. За адзін толькі 1905 год ён напісаў столькі артыкулаў, пісьмаў, нататак, што яны займаюць сёння амаль чатыры тамы!

А праз дзевяць месяцаў, напярэдадні Снежаньскага паўстання ў Маскве, ён зноў паўторыць: «Перад намі захапляючыя сцэны адной з самых вялікіх грамадзянскіх войнаў, войнаў за свабоду, якія калі-небудзь перажывала чалавецтва, і трэба спяшацца жыць, каб аддаць усе свае сілы гэтай вайне».

— Ух ты! Ды гэта ж проста словы Паўла Карчагіна! Хоць наўрад ці Мікалай Астроўскі мог дзе-небудзь прачытаць гэты артыкул Леніна.

— Ды ўжо ж такі, артыкул быў апублікаваны ў 1905 годзе ў газеце «Пролетарий», калі Астроўскі быў яшчэ малое дзіця. Зрэшты, не так яно і важна, чытаў ці не чытаў Астроўскі гэты артыкул. Важна іншае: Ленін і Астроўскі — людзі аднаго складу, людзі, якія дзеля любімай ідэі гатовыя пакласці жыццё. І — кладуць. І — не патрабуюць нічога ўзамен. Для іх найлепшая ўзнагарода — гэта перамога іх ідэі.

— А вам не здаецца, што мы з вамі адступіліся ад абмеркавання паняцця «сціпласць»? Мы ж гаворым ужо пра такія якасці, як самаадданасць, альтруізм, адданасць ідэі...

— Яно так, але сапраўдная сціпласць пачынаецца якраз з бязмежнай адданасці ідэі. Калі ідэя на першым месцы, дык чалавеку ўжо і ў галаву не прыходзіць падлічваць, хто больш для гэтай ідэі зрабіў, хто менш. Ён радуецца за справу незалежна ад таго, сам ён яе рухае ці хто іншы.

Разгарніце 9 том на 207 старонцы, чытайце.

— Та-ак. Артыкул «Што адбываецца ў Расіі?». Напісаны ў сярэдзіне студзеня. Пачынаецца так: «Бунт альбо рэвалюцыя? Такое пытанне, якое ставяць сабе еўрапейскія журналісты і рэпарцёры...»

— А Ленін сам як лічыць: бунт ці рэвалюцыя?

— Ён якраз думае, што рэвалюцыя. Вось, глядзіце: «Паваротны пункт у гісторыі Расіі настаў»...

— Чытайце артыкул да канца. Можа, вы знойдзеце, што, глядзіце, у Расіі адбываецца якраз тое, пра што я зусім яшчэ нядаўна папярэджваў... Хоць... На такую заяву ў Леніна былі ўсе падставы. Пагартаем 9 том назад, пад канец 1904 года. Глядзіце, як дакладна Ленін не толькі назваў усе палітычныя групоўкі рэвалюцыі, але нават і ўсе тонкасці, адценні паводзін кожнай групоўкі асобна. Проста дзіва, як усё дакладна збылося, быццам Ленін пабыў у будучыні! Але не знойдзем у яго анізвання самалюбавання, пахвальбы сваёй відушчасцю. Спраўдзілася яго прадказванне — і добра, цяпер трэба ісці далей, трэба думаць пра тое, якой працай заняцца вось цяпер, каб быць як мага больш карысным справе рэвалюцыі.

Чытаючы ленінскія тамы, мы бачым: галоўнае, чым займаўся ў гэты час Ленін, гэта — аналіз падзей у Расіі, гэта асэнсаванне іх, іх урокі. Кіраваць у простым сэнсе гэтага слова можна толькі тады, калі кіраўнік — наперадзе падзей, наперадзе мас. А Уладзімір Ільіч якраз і непакоіўся, як бы не адстаць. Вернемся яшчэ раз да артыкула «Што адбываецца ў Расіі?». Чытаем: «Зразумела, што нам тут, у Жэневе, з нашага праклятага далёкага, робіцца нязмерна цяжэй паспяваць за падзеямі. Але пакуль мы асуджаны яшчэ пакутаваць у гэтым праклятым далёкім, мы павінны намагацца паспяваць за імі, падводзіць вынікі, чэрпаць з вопыту сённяшняй гісторыі ўрокі, якія спатрэбяцца заўтра...»

Я вось таксама нядаўна чытала кнігу пра 1905 год, і, шчыра кажучы, мяне абражалі словы тыпу «кіраваў», «даваў указанні», «інструктаваў»... Ды не ж бо, не! Ён менавіта аналізаваў, разважаў, раіў. Часам нават вельмі асцярожна, з агаворкамі, непакоячыся, каб яго думка ні ў якім разе не была зразумета як дырэктыва. Уладзімір Ільіч ужо збіраўся ехаць у Расію, калі атрымаў вестку пра нараджэнне ў Расіі Саветаў. Яны былі створаны самімі рабочымі, па іхняй жа ініцыятыве, без ніякіх «спушчаных» правадырамі дэкрэтаў. Ленін адразу ж адчуў важнасць падзеі.

— А многія ж дагэтуль упэўненыя, што Саветы — гэта выдумка Леніна, выдумка бальшавікоў.

— Ну, гэта зразумела. Яшчэ са школы ўсім вядома, што гэта менавіта Ленін абвясціў у 1917 годзе лозунг «Уся ўлада Саветам!». Усе ведаюць, як ваяваў Ленін за здзяйсненне гэтага лозунга, таму, натуральна, што і стварэнне саміх Саветаў многія прыпісваюць Леніну. Але цвёрдае разуменне ролі Саветаў — гэта было потым, як я ўжо сказала, у 1917 годзе. А тады, у 1905 годзе, атрымаўшы вестку пра нараджэнне Саветаў, Уладзімір Ільіч яшчэ баяўся катэгарычных выказванняў. Глядзіце, як асцярожна ён пісаў тады: «Магчыма, я памыляюся, але мне (паводле няпоўных і «папяровых» толькі звестак, якія ў мяне ёсць) здаецца, што ў палітычных адносінах Савет рабочых дэпутатаў трэба разглядаць як зародак **часовага рэвалюцыйнага ўрада**»,

«Магчыма», «здаецца»... Я нават не ведаю, чаго тут болей: ці то Ільіч залішняй радасцю як бы баіцца спудзіць дзіва, якое толькі што нарадзілася, ці то ён і праўда яшчэ не разабраўся ў пытанні...

— А можа, гэта і ёсць тая самая сціпласць, пра якую мы казалі? Ленін жа ведаў, якім аўтарытэтам ён карыстаўся ў партыі, і ў гэтым выпадку ён, відаць, не хацеў, каб яго думка была прынята як канчатковая, тым болей што ён сам лічыў сябе недастаткова дасведчаным.

— Ваша праўда.

— Сапраўды, як усё гэта не падобна на пахвальбу некаторых «усяведных» правадыроў! Але што ж гэта выходзіць: а выходзіць, што Ленін у 1905 годзе выконваў ролю толькі летапісца падзей? Ну яшчэ — іх тлумачальніка, каментатара. А ў саміх падзеях ён быццам бы і не ўдзельнічаў?

— Ленін у гэтыя месяцы правёў шмат сустрэч з сацыял-дэмакратамі, вёў перапіску з партыйнымі арганізацыямі Расіі і, зразумела, не толькі дзеля таго, каб ад іх нешта выведаць, але і даць нейкую параду, дапамагчы разабрацца ў складаных пытаннях рэвалюцыйнай тактыкі. Значыць, пэўная арганізацыйная работа ў 1905 годзе Леніным, вядома, праводзілася. Але ўсё ж разумеў, што ва ўмовах эміграцыі ён не заўсёды можа зрабіць нешта гэтак жа хораша, як той, хто ў гэты час быў у Расіі, у гушчыні падзей.

— Ведаеце, я ў інстытуце пісаў дыпломную працу пра ацэнку Кастрычніцкай рэвалюцыі заходнімі саветолагамі. Пакуль збіраў матэрыял, чаго толькі ні начытаўся пра Леніна: і пра яго «валюнтарызм», і пра «жорсткасць», і «крыважэрнасць», і нават пра «дэманізм». Так-так, некаторыя саветолагі прыпісваюць Леніну і ўвогуле сувязь з сіламі таго свету.

— Гэта натуральна. Калі не «дэман», а проста чалавек, чым жа тады растлумачыць яго папулярнасць, чым растлумачыць, што людзі ішлі за ім? Калі не «дэман», тады трэба прызнаць, што ішлі — за ідэямі, а гэтага ім прызнаваць вой як не хочацца. Дарэчы, па адносінах чалавека да сваёй папулярнасці таксама можна меркаваць пра яго сціпласць. Бывалі ж у нашай гісторыі лідэры, якія ўсё, зробленае партыяй і народам, усё, дасягнутае мысліцелямі мінулага, прыпісвалі сабе — сваёй мудрасці, выключнасці, незаменнасці.

— Ну а як жа ставіўся да сваёй папулярнасці Ленін?

— А вось здыміце з паліцы 32 том. Так, разгарніце на старонцы 309. Чытайце.

— НАТАТКА

З «Нового Времени» ад 6 чэрвеня:

«Чаму ў дні свабоды працягнулася аднекуль гэтая чорная рука і рухае марыянеткамі расійскай дэмакратыі? Ленін!.. Але імя яму легіён. На кожным скрыжаванні выскоквае Ленін. І робіцца відавочна, што тут сіла не ў самім Леніне, а ва ўспрымальнасці глебы да насення анархіі і шаленства».

Здарова! Я ўпершыню чытаю гэты матэрыял. Сапраўды, з якой годнасцю адказаў. А галоўнае — проста, наглядна, адчувальна праступае прынцып — не сябе любіць у справе, а справу ў сабе.

— Калі ўжо мы з вамі «пераскочылі» да 1917 года, дык здыміце з паліцы 34 том. Гэты том, запомніце яго, Сяргей Антонавіч,— незвычайны. Пастаўце побач з ім наступны, 35 том. Што паміж імі, ведаеце? МЯЖА. Паміж дзвюма эпохамі. 34 том канчаецца славутай фразай: «Марудлівасць у выступленні смерці падобная». А 35 том пачынаецца так: «Часовы ўрад звергнуты. Дзяржаўная ўлада перайшла ў рукі органа Петраградскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў...» Угледзімся ў трыццаць чацвёрты. У яго вокладкі уціснуты самы гарачы кавалак гісторыі — ад палітычнага крызісу 4 ліпеня — да самага пярэдадня, 24 кастрычніка.

Але і ў тыя гарачыя дні, калі Ільіч літаральна трымаў у руках штурвальнае кола гісторыі, калі аднаасобнасць была проста гістарычнай неабходнасцю, нават і тады Ленін не дазваляў сабе ўпадаць у эйфарыю непагрэшнасці. Бачыце артыкул «Пра герояў падлогу і пра памылкі бальшавікоў». Так, вось так проста пісаў тады Ленін пра памылкі. Гэта толькі потым, пасля Леніна, пачаў насаджацца стэрэатып пра непагрэшнасць бальшавікоў. Ну дык пачытаем. Глядзіце, Ільіч з горкім жалем піша пра тое, што бальшавікі прынялі ўдзел у так званай Дэмакратычнай нарадзе. Ён лічыць яе «камедыяй», «гаварыльняй», якая адцягвае народ ад сур'ёзнай падрыхтоўкі да рэвалюцыі.

Цяпер глядзім наступны матэрыял: «З дзённіка публіцыста. Памылкі нашай партыі». Відаць, Ленін вельмі вялікую ўвагу надаваў аналізу гэтай памылкі, што, ледзь толькі закончыўшы першы артыкул, адразу ўзяўся за наступны. Вось, на старонцы 262 чытайце: «Трэба было байкатаваць Дэмакратычную нараду, мы ўсе памыліліся, не зрабіўшы гэтага...» Потым, глядзіце, у гэтым самым матэрыяле на другі дзень Леніным зроблены новы запіс: «Троцкі быў за байкот. Брава, таварыш Троцкі!» Ён, Ленін, не здолеў у час папярэдзіць пра памылку, а вось Троцкі папярэджваў. Якая ж гэта выдатная якасць — радавацца, калі нехта здолеў зрабіць тое, чаго ты сам не зрабіў! Як нам часам не хапае гэтай якасці, колькі каштоўных адкрыццяў і вынаходстваў дзесяцігоддзямі не ўкараняліся толькі таму, што ў некаторых высокапастаўленых, тытулаваных асоб амбіцыі бралі верх над інтарэсамі справы.

Ленін добра ўсведамляў, якая небяспека навісла над яго жыццём. Як мы цяпер ведаем, небяспека была больш чым рэальная: Часовы ўрад абяцаў за яго галаву 200 тысяч рублёў золатам, на яго след быў пушчаны славуты сабака Трэф, а 50 афіцэраў ударнага батальёна прысягнулі альбо знайсці Леніна, альбо памерці!

Думкі пра рэвалюцыю ва Уладзіміра Ільіча сягалі намнога далей, чым думкі пра тэрміны свайго жыцця.

— Мне не раз даводзілася чуць пытанні, у тым ліку і ад маіх вучняў: а ці не была гэтая палымянасць нечым накшталт фанатызму, бачыце, рэвалюцыя любой цаной, рэвалюцыя чаго б гэта ні каштавала? Дарэчы, у многіх кнігах пра Леніна часта прыводзяцца словы меншавіка Дана пра тое, што вось Ленін усе 24 гадзіны ў суткі думаў толькі пра рэвалюцыю. Гэта ж і праўда падобна на фанатызм.

— Ну але, асабліва калі ўлічыць, што прыведзенае выказванне належыць заклятаму ворагу Леніна. Ва ўспамінах можна прачытаць пра тое, што гэты самы Дан ненавідзеў Леніна, зычыў яму смерці. Натуральна, што ён хацеў паказаць Уладзіміра Ільіча ў скарыкатураным выглядзе... Зразумела, ніякім фанатыкам Ленін не быў і не мог ім быць. Бо што такое фанатык? Гэта чалавек, які не бачыць нічога, акрамя прадмета свайго пакланення. Ленін жа любіў рэвалюцыю не дзеля яе самой, а як сродак знішчэння эксплуатацыі, як сродак дасягнення годнага жыцця для народа.

Мы прывыклі чытаць у Леніна толькі тое, што нам указана ў праграмах, літаральна па старонках, ад «ад» і «да». А пачытайце 34 том цалкам, і вы ўбачыце, як настойліва змагаўся Ленін за мірны спосаб развіцця рэвалюцыі, прычым не толькі да 4 ліпеня, пра што вядома ўсім, але і пасля. «Так было б найлягчэй, найвыгадней для народа,— пісаў ён.— Такі шлях быў бы самы небалючы, і таму за яго трэба было найбольш энергічна змагацца». Нават 1 кастрычніка, усяго за 24 дні да паўстання, Ленін яшчэ спрабаваў выкарыстаць шанц на мірнае развіццё рэвалюцыі.

— Я прыгадаў, як здзівілі мяне ў свой час словы Крупскай, сказаныя ёю на жалобным пасяджэнні: «Сэрца яго білася гарачай любоўю да ўсіх працоўных, да ўсіх прыгнечаных». Мяне гэтыя словы пры першым чытанні проста шакіравалі: як жа яно так, жонка, самы блізкі чалавек, а замест таго, каб няўцешна галасіць, гаворыць нейкімі прывычнымі лозунгамі...

— А вы прыгадайце яшчэ і тыя словы Надзеі Канстанцінаўны, якія папярэднічаюць працытаваным вамі. Не памятаеце? Я вам нагадаю, вось што яна тады сказала: «Таварышы, за гэтыя дні, калі я стаяла каля труны Уладзіміра Ільіча, я перадумвала ўсё яго жыццё...» Што прыгадалася ёй, таварышу па рэвалюцыйнай працы, нявесце, жонцы, сябру і паплечніку? Мусіць, і тое, як вязень адзіночнай камеры Пецярбургскай турмы Валодзя прасіў Надзю прыйсці ў пэўны час на рог Шпалернай вуліцы і пастаяць там: раптам пашанцуе і яго ў гэты час павядуць на допыт, і ён у шчылінку ўбачыць — яе! А можа, і тое, як яна атрымала з Шушанскага пісьмо ад Ільіча, а ў ім — просьба стаць жонкай. Альбо сцэну вянчання ў Шушанскай царкве, альбо велізарны ахапак кветак, які муж нарваў Надзюшы ў лугах Швейцарыі...

Вядома ж, як і ўсякай жанчыне, якая кахае і якую кахаюць, Надзеі Канстанцінаўне перш за ўсё прыгадаліся многія знакі любові і пяшчоты яе мужа. Але, як не многія іншыя жанчыны, яна ведала шчасце і больш высокага парадку: шчасце сумеснай барацьбы за агульныя ідэалы. Яна ведала Ільіча як ніхто іншы, і не толькі разумела, ШТО ў ім галоўнае, але і САМА лічыла галоўным гэта ж самае. Вось у чым сутнасць! Вось чаму тыя словы, якія ў вуснах якой-небудзь іншай жанчыны гучалі б казённа, з яе вуснаў вылíліся так натуральна, проста з сэрца.

— Вы ведаеце, я даволі шмат чытаў твораў Леніна. Але я проста не ўяўляў сабе, што яго ТАК можна чытаць. Раней я проста шукаў у яго адказаў на палітычныя, гістарычныя, філасофскія пытанні...

— А цяпер што ж, не будзеце іх шукаць? Па гэтыя адказы мы і ідзём да Ільіча. Але калі падыходзіш да яго не толькі як да аўтара, але і як да жывога чалавека, згадзіцеся, і адказы лягчэй знайсці. А знайшоўшы, лягчэй зразумець, засвоіць. Бо калі паміж настаўнікам і вучнем узнікае эмацыянальнае поле, усё ўспрымаецца жывей, выразней, хіба не так? Хіба вы на сваім настаўніцкім вопыце не пераконваецеся ў гэтым?

...Ільіч хворы. Цяжка хворы. У яго ўжо было некалькі ўдараў, ужо і правая рука паралізавана, і ён не можа пісаць. Страшэнны боль галавы, бяссонніца... Урачы забараняюць працаваць, а ён просіць, умольвае, каб яму дазволілі дыктаваць роздум пра шляхі развіцця сацыялізму — хоць бы па 10—20 хвілін у дзень. А потым ставіць ультыматум: альбо яму дазваляюць дыктаваць, альбо ён адмаўляецца ад лячэння! А здароўе ўсё горшае, удары ўсё часцейшыя.

А цяпер разгарніце 45 том на 356 старонцы. Чытайце.

— «Я, здаецца, дужа вінаваты перад рабочымі Расіі за тое, што не ўмяшаўся даволі энергічна і даволі рэзка ў славутае пытанне пра аўтанамізацыю...»

— Вось. А раней жа, мусіць, вы і не заўважалі гэтых слоў, прабягалі іх, спяшаючыся прачытаць пра сутнасць рознагалосся па нацыянальным пытанні. А што і казаць: дужа быў «вінаваты» Ільіч. Што, не шкадуючы сябе, «спяшаўся жыць». Што недасыпаў, недаядаў, бадзяўся па гарышчах і буданах... Што літаральна гарэў, працуючы на рэвалюцыю. І вось цяпер, стоячы ўжо адной нагою ў магіле, ён па-ранейшаму лічыць сябе даўжніком перад людзьмі.

Часцей бы нам перачытваць гэтыя словы! Хіба не грызе нас часам жаданне паквітацца з жыццём, бач, ці ўсё мы ад яго атрымалі і ці не атрымаў хто болей... А на паверку выходзіць, што багатым застаўся той, хто аддаваў, аддаваў, аддаваў...

## НАСТАЎНІК ПЯТРА I

# Ілья КАПІЕВІЧ

У летку 1697 года ў Амстэрдам прыбыло першае рускае Вялікае пасольства на чале з Пятром I. Малады рускі цар прыехаў вывучаць Еўропу і вучыцца ў еўрапейцаў. На спецыяльнай сургучнай пячатцы, якую Пётр ставіў на сваіх пісьмах у час гэтай паездкі за мяжу, быў надпіс: «Я вучань і шукаю сабе настаўнікаў». Адным з яго настаўнікаў стаў беларус Ілья Фёдаравіч Капіевіч.

У Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі напісана, што Ілья Капіевіч нарадзіўся на Мсціслаўшчыне. Думаецца, больш правільна было б сцвярджаць, што ягоная радзіма — Берасцейшчына. Сам вучоны паведамляе, што ў час вайны паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай 1654—1667 гг. яго, дзевяцігадовага, «украл и завез с собою ... боярский сын с Беженицкия пятины».

«Беженицкая пятина» — частка Ноўгарада, якою валодаў баярын І. А. Хаванскі. У час вайны з Рэччу Паспалітай ён быў ваяводам. Вядома, што яго войска дзейнічала на Берасцейшчыне, што ў 1660 г. ён штурмаваў Ляхавічы. Верагодна, тады і трапіў наш зямляк у так званы «литовский полон».

Трэба дадаць, што прозвішча Капіевіч было распаўсюджана на заходніх землях сучаснай Беларусі. Праўда, І. Капіевіч падпісваўся яшчэ і як Капіеўскі. Аднак у лацінскай і рускай граматыках, некаторых іншых сваіх выданнях ён выступае як Капіевіч. Капіевічам называў гэтага чалавека і Пётр Першы.

Вайна паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай працягвалася амаль трынаццаць гадоў. Рэч Паспалітая, а больш дакладна Польшча, хацела вярнуць сабе Левабярэжную Украіну, якая адышла пад руку цара ў выніку вызваленчай вайны ўкраінскага народа ў 1648—1654 гг. пад кіраўніцтвам Багдана Хмяльніцкага. Цар жа быў не супраць забраць астатнія ўкраінскія землі ды яшчэ Беларусь і Літву. Менавіта ў гэты час Аляксей Міхайлавіч, бацька Пятра Першага, стаў называць сябе царом Вялікай, Малой і Белай Русі. У час вайны баяры выводзілі з тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага шмат сялян, рамеснікаў, дробнай шляхты — «литовский полон». Як бачым, бралі ў палон і дзяцей.

Абодва бакі пераацанілі свае сілы. У 1667 г. цар Аляксей Міхайлавіч, кароль польскі і вялікі князь літоўскі Ян Казімір вымушаны былі пайсці на мірныя перамовы. Да Расіі адышлі Смаленск, Левабярэжная Украіна, Кіеў. Адной з умоў перамір'я, заключанага на трынаццаць з палавінаю гадоў, было вяртанне «літоўскага палону». Вярнуўся ў родныя мясціны і шляхецкі сын Капіевіч.

Што ён убачыў на радзіме! Пустыя гарады і спаленыя вёскі. Падзеі 1648 — 1667 гг. забралі кожнага другога жыхара Беларусі. Людзі гінулі не толькі ў баях і бітвах — шмат іх памерла ад эпідэмій і голаду. Прыход царскага войска народ успрыняў як сігнал да барацьбы супраць паноў. Але вызваленне беларускіх сялян не ўваходзіла ў намеры цара, які нядаўна — у 1649 годзе — зацвердзіў Саборнае ўлажэнне і тым самым канчаткова запрыгоніў рускіх мужыкоў. Таму ўзбунтаваных беларускіх сялян зброяй уціхамірвалі не толькі шляхта, але і царскія стральцы. Людзі ўцякалі ў лясы, на балоты, найбольш адчайныя і рашучыя сталі разбойнікамі. Гэта таксама павялічвала колькасць ахвяр.

У вайну найбольш пацярпела Вялікае княства Літоўскае (Беларусь і Літва), а таксама ўкраінскія землі, якія былі пад юрысдыкцыяй Кароны (Польшчы). Гэткі стан нашых зямель быў на карысць польскім феадалам. Яны ўмацоўвалі свой палітычны ўплыў у Вялікім княстве Літоўскім. Беларуская і літоўская шляхта амаль цалкам апалячылася, што дало магчымасць у канцы XVII ст. правесці пастанову, паводле якое ўсе новыя законы Вялікага княства павінны былі складацца і публікавацца не на старабеларускай, а на польскай мове. Такім чынам, польская мова стала ў Вялікім княстве дзяржаўнаю. Што праўда, беларуская мова не забаранялася, як гэта спрабуюць давесці некаторыя нашы гісторыкі.

Умацоўвала свае пазіцыі і каталіцкая царква. Менавіта на гэты час прыпадае пік Контррэфармацыі, на чале якое стаяў ордэн езуітаў.

З езуітамі давялося сутыкнуцца маладому І. Капіеўскаму. Вярнуўшыся на радзіму, ён хацеў быў вярнуць сабе маёнтак. Але на вёску, якою валодалі Капіевічы, прагна пазіралі езуіты. Карыстаючыся тым, што Капіевіч быў некатолік, езуіты, як піша сам Капіевіч, здолелі пераканаць караля, што малады шляхціц — «еретик, изменник, предался великому (маскоўскаму.— І. С.) государю», і «сею же лестию упросиша деревню мою с мужиками у короля».

Застаўшыся без вёскі і сродкаў на існаванне, Ілья Капіевіч вымушаны быў пакінуць Берасцейшчыну і паступіць не пазней як у 1667 годзе ў Слуцкае вучылішча.

Што гэта было за вучылішча!

У 1617 годзе яго заснаваў слуцкі князь Януш Радзівіл. Гэта была, па сутнасці, першая гімназія на ўсходнеславянскіх землях. Вучылішча не падпарадкоўвалася каталіцкай царкве, бо слуцкія Радзівілы былі кальвініссамі. Метады і формы навучання ў гэтай установе шмат у чым апярэдзілі формы і метады, прапанаваныя вялікім педагогам Янам Амосам Коменскім у яго «Вялікай дыдактыцы». З гэтага вучылішча (гімназіі) выйшлі выдатныя дзеячы беларускай, літоўскай, польскай і рускай культуры, навукі, літаратуры і мастацтва. Выпускнікі гэтай гімназіі сталі прафесарамі заходнееўрапейскіх універсітэтаў.

Пры Слуцкім вучылішчы быў адчынены алюмнат, які з'яўляўся своеасаблівай школай-інтэрнатам для дзяцей бедных бацькоў. У алюмнаце яны карысталіся бясплатным харчаваннем і жыллём. Вучылішча рыхтавала духоўных асоб і настаўнікаў. Яго выпускнікі выносілі досыць грунтоўныя для таго часу веды, якіх было зусім дастаткова для паступлення ў любы еўрапейскі універсітэт.

Капіевіч выявіў вялікія здольнасці да гуманітарных навук і дасягнуў значных поспехаў у вывучэнні моў. Будучы яшчэ вучнем, ён у 1674 годзе пэўны час замяняў настаўніка малодшых класаў.

Пасля заканчэння вучылішча Капіевіч на грошы Радзівілаў прадоўжыў вучобу за мяжой. Лёс прывёў яго ў Амстэрдам. Тут па пратэкцыі амстэрдамскага бургамістра Мікалая Вітзента — вядомага вучонага, які ведаў рускую мову, пэўны час пражыў у Расіі і напісаў аб ёй кнігу,— Капіевіч паступіў у рэфармацкую духоўную школу, а пасля яе заканчэння заняў пасаду кандыдат-пастара Амстэрдамскага сабора. Як відаць з гэтага, Капіевіч, як і яго апекуны, слуцкія Радзівілы, быў пратэстантам. У Амстэрдаме ён пазнаёміўся з галандскім купцом Янам Тэсінгам, у доме якога і адбылася сустрэча Пятра I з Капіевічам.

Пётр I высока ацаніў веды Капіевіча. Цару імпанавала імкненне гэтага чалавека садзейнічаць развіццю асветы ў Расіі. Капіевіч быў запрошаны ў якасці настаўніка замежных моў і некаторых іншых навук для самога Пятра I і іншых членаў пасольства. Ён становіцца актыўным прыхільнікам пятроўскіх радыкальных рэформ пераўтварэння Расіі, якія ламалі старыя руцінныя формы грамадскага жыцця. Праціўнік каталіцызму, езуітаў, якія забралі ў яго маёнтак, Капіевіч вітаў узмацненне Расіі і быў прыхільнікам аб'яднання беларускага і ўкраінскага народаў пад уладай рускага цара. Як і Пётр I, ён разумеў, што ў паваротны момант Расіі асабліва важна было ў найкарацейшы тэрмін асвоіць галоўныя дасягненні Захаду ў навуцы, тэхніцы, прамысловасці. Для гэтага перш за ўсё патрэбны былі кнігі — важнейшыя праваднікі новых ведаў, новай культуры. Такія кнігі нельга было пакуль што надрукаваць у Расіі. Таму Пётр I вырашыў распачаць гэтую вялікую справу за межамі сваёй дзяржавы і даручыў яе Капіевічу.

Капіевіч марыў прывіць народу любоў да ведаў, данесці да людзей саму думку аб велізарнай важнасці і неабходнасці адукацыі. «Ничто же полезнейшее есть в сем житии, как познание и умелость письмен,— піша ён у адной са сваіх прадмоў.— Сие приношает величество и славу, сие неизреченную красоту воздает, сие государства великия укрепляет и расширяет, прославляет — всякому человеку по всякому чину полезно. Письмена разум исправляют и обучают, и утешают...»

Прыкладам для Капіевіча стаў усходнеславянскі першадрукар Францыск Скарына, кнігі якога былі ў Капіевіча і ў многім дапамаглі яму ў стварэнні ўласнага шрыфта. Спачатку Капіевіч супрацоўнічаў з Я. Тэсінгам, які фінансаваў друкаванне кніг, а пасля смерці Я. Тэсінга ў 1701 годзе ўзяў усю справу ў свае рукі.

За перыяд з 1699 па 1706 гг. Капіевічам было перакладзена, складзена, надрукавана або падрыхтавана да друку больш за 20 кніг. Сярод іх «Введение краткое во всякую историю» (1699), «Краткое и полезное руководение в арифметику» (1699), «Краткое собрание Лва Миротворца...» (1700), «Грамматика латинская» (1700), «Номенклятор на русском, латинском и немецком языке» (1700) і іншыя. Многае рабілася ўпершыню. Так, арыфметыка Капіевіча была першай рускай друкаванай арыфметыкай. Першымі былі і вучэбныя дапаможнікі па замежных мовах, а «Притчи Эссоповы» сталі першым перакладам на рускую мову баек Эзопа. Вельмі карыснай на той час з'явілася праца Капіевіча па астраноміі «Уготование и толкование и зело изрядное красно образного поверстания кругов небесных». Гэта была першая руская карта зорнага неба з падрабязным апісаннем, як ёю карыстацца. Яна, а таксама «Книга, учащая морского плавания» прызначаліся для навігацыйнай школы, адкрытай Пятром I у 1701 годзе ў Маскве. У сваёй карце зорнага неба Капіевіч у некаторых выпадках адыходзіў ад міфалагічнага тлумачэння назваў сузор'яў і даваў свае назвы і тлумачэнні, імкнучыся наблізіць іх да народных. Не ўсе яны прыжыліся ў астранамічнай літаратуры. Аднак такія, як Арыён, Блізняты, Воўк, Дзева, Лебедзь, Рак, Стралец, ужываюцца і ў наш час у астраноміі, геаграфіі. Капіевічу належыць таксама заслуга ўвядзення такіх навуковых тэрмінаў, як вертыкаль, гарызонт, глобус, градус, компас, паралель, полюс, экватар, экліптыка.



Капіевіч стаяў ля вытокаў усходнеславянскага друкаванага календара. Як вядома, распачаў гэтую справу Францыск Скарына. У заключнай частцы «Малой падарожнай кніжыцы» — «Пасхаліі» — ён змясціў першы ўсходнеславянскі друкаваны царкоўна-астранамічны каляндар. Пасля Скарыны ў Вялікім княстве Літоўскім календары выходзілі на польскай мове. Капіевіч з'яўляецца аўтарам першага рускага друкаванага календара. Ён быў выдадзены ў 1702 годзе.

У тым жа 1702 годзе Капіевіч вёў перагаворы з Каралеўскім таварыствам навук у Берліне аб тым, каб перавесці сваю друкарню на тэрыторыю Германіі, бліжэй да радзімы. Аднак гэтыя перагаворы не далі ніякіх вынікаў. З вялікімі цяжкасцямі Капіевічу ўдалося трапіць у Гданьск (Данцыг). Сюды ж ён перавозіць і сваю друкарню і выдае апошнюю сваю кнігу — «Руковедение в грамматику». У прадмове аўтар падкрэслівае вялікае значэнне рознабаковай адукацыі: так, матэматыка вельмі карысная ў марской справе, у падарожжах, горнабудаўніцтве, тут «вникший в математические книги помощь обрете»; астраномія дапамагае ў навігацыі, гісторыя — у пазнанні грамадскага жыцця і чалавека. Але асаблівае значэнне Капіевіч надае граматыцы, паколькі «тщетный ест всяк труд без грамматики».

Пачатак XVIII ст. быў не вельмі спрыяльны для навуковай, перакладчыцкай і выдавецкай дзейнасці: пачалася Паўночная вайна. У вайну была ўцягнута і Рэч Паспалітая, бо кароль польскі, вялікі князь літоўскі і курфюрст саксонскі Аўгуст Дужы быў сябрам Пятра Першага. Карл XII вырашыў скінуць яго і пасадзіць на трон паслухмянага Станіслава Ляшчынскага. Вялікае княства новага караля не прызнала і засталося на баку Аўгуста.

У канцы 1706 ці пачатку 1707 года Капіевіч прадоўжыў свой шлях на радзіму. Аднак у Гданьску яго друкарню перахапілі шведы. Самому Капіевічу ўдалося пазбегнуць палону. У 1708 годзе ён быў ужо пры рускіх войсках у Варшаве. Апошнія гады жыцця Капіевіч правёў у Маскве. Тут у якасці перакладчыка пры Пасольскім прыказе ён працаваў да сваёй смерці ў 1714 годзе.

**Іван САЦУТА**

# Нямота

Яўген
ЛЕЦКА

Многія з вас, бадай, ужо забыліся пра матэрыял з анкетай, што пад рубрыкай «Шчыра» друкаваўся ў восьмым нумары часопіса за мінулы год. Той жа, хто даслаў свае допісы з адказамі на пытанні анкеты, падзяліўся развагамі па ўзнятых намі праблемах, напэўна, зачакаўся, а мо нават і зняверыўся ўбачыць свае нататкі апублікаванымі альбо ў той ці іншай форме скарыстанымі ў аглядзе рэдакцыйнай пошты. Так, напрыклад, наш чытач з Масквы Краўчук І. М. вельмі хутка даслаў адказ і прасіў яму прыслаць дзевяты нумар, спадзеючыся, што там будуць змешчаны вынікі анкетавання. Запэўніваем вас, што так імгненна наладжваць зваротную сувязь пакуль што не навучыўся ні адзін часопіс у свеце. Што датычыць нас, то атрымалася відавочная затрымка, за што мы і просім у чытачоў і карэспандэнтаў прабачэння. Але, паверце, былі на тое аб'ектыўныя прычыны.

Нечакана шчодрай атрымалася рэдакцыйная пошта. Факт гэты радасны і ўсцешны, але аказаўся крыху абцяжараны тым, што водгукі дасылаліся на працягу добрых двух месяцаў. Мяркуем — вось з якой прычыны: восьмы нумар «Крыніцы» выйшаў летам, у пару, калі моладзь (наш асноўны актыў, хоць сярод яго трапляюцца і людзі пажылага ўзросту) была на канікулах, працавала ў будатрадах, бавіла час у турпаходах і на экскурсіях. Дарогі маладых, карацей кажучы, пралягалі не толькі па роднай Беларусі, але і вялі далёка за яе межы. Ці не з гэтай прычыны да многіх падпісчыкаў часопіс трапіў з пэўным спазненнем?

Моладзь, а таксама асобныя чытачы сталага ўзросту не фармальна, не дзеля адпіскі адказвалі на пытанні анкеты, а самі імкнуліся разабрацца ў той няпростай сітуацыі, у якой апынуліся нашы духоўныя каштоўнасці (мова, мастацтва, літаратура, архітэктура, кіно, школа), і знайсці з яе выйсце. Пры гэтым многія ў сваіх разгорнутых на некалькі аркушаў карэспандэнцыях міжволі выходзілі за межы абазначаных намі праблем і пытанняў. Так, напрыклад, чытачы прапаноўваюць надаць беларускай мове статус дзяржаўнай, пра што, нагадаем, у нашым матэрыяле гаворка не вялася.

Паказальна і вось яшчэ што: калі раней, усяго некалькі гадоў назад, праблемы, пра якія мы тут разважаем, хвалявалі амаль выключна пісьменнікаў, дый то далёка не ўсіх, досыць вузкае кола мастакоў ды сяго-таго з прадстаўнікоў гуманітарнай інтэлігенцыі іншага профілю, то сёння лёс народа і яго духоўных каштоўнасцей пачынае, прашу прабачэння за пэўную таўталогію, узрушваць сам народ у асобе тэхнічнай інтэлігенцыі, рабочага класа, людзей, занятых у самых розных сферах вытворчасці і абслугоўвання.

І, скажам шчыра, нас не можа не радаваць вось такая актыўнасць моладзі, тое, што яе лепшая частка пачынае сур'ёзна задумвацца над праблемамі духоўнага жыцця нацыі. Гэта сведчыць аб дабратворным уплыве ідэі і практыкі перабудовы, галоснасці і дэмакратыі на свядомасць і жыццёвую арыентацыю людзей, якія пазбаўляюцца інертнасці і абыякавасці, актыўна ўключаюцца ў грамадскае жыццё. У светапоглядзе, у псіхалогіі і маралі сучасніка адбываюцца па-сапраўднаму рэвалюцыйныя зрухі, змены і перамены.

Ды наіўна было б думаць, што ўся моладзь за гэтыя некалькі гадоў перайначылася толькі ў лепшы бок, што стыхійная, інертная да ўсяго грамадскага маса пачала весці духоўна ўсвядомленае жыццё, што назаўсёды скампраментаваў сябе і знік так званы балдзёжны стыль існавання, а разам з ім п'янства, наркаманія, таксікаманія, распуста, бойкі паміж рознымі групамі і раёнамі невядома за што і ў імя чаго. Усё гэта ёсць і павінна глыбока хвалявацць грамадства, у першую чаргу камсамол, абмяркоўвацца на старонках друку.

Аднак сёй-той гатоў заплюшчыць вочы на наяўнасць маральнага разлажэння пэўнай часткі нацыі, на тое, што ў згаданых намі фактах існуе небяспека не толькі для сённяшняга, але і для будучыні народа, для яго фізічнага і маральнага здароўя. Мы часта маўчым там, дзе трэба прамаўляць на поўны голас, і падымаем гвалт тады, калі куды разумней абысціся без яго, а спакойным і разважлівым тонам паразмаўляць з моладдзю пра тое, у чым яна памыляецца, чаго ёй бракуе. Замест сталай разважлівай гаворкі на нас літаральна абрушваліся разносныя кампаніі супраць так званых нефармальных маладзёжных згуртаванняў, у першую чаргу супраць «Талакі» і «Тутэйшых». Аднабаковай, прадузятай уяўляецца таксама дыскусія па пытанні нацыянальнай сімволікі. Часта органы друку падключалі да яе некампетэнтных людзей, і тое, што яны выступалі іншым разам не столькі самі па сабе, колькі «ад імя і па даручэнні», доказнасці і пераканаўчасці іх словам не дадало.

Што засмуціла, пэўным чынам устурбавала і насцярожыла — дык гэта адсутнасць сярод нашых карэспандэнтаў (а іх больш за дзвесце) камсамольскіх работнікаў, якія працуюць з моладдзю і, па логіцы рэчаў, павінны хвалявацца і цікавіцца тымі ж праблемамі, што і іх «падапечныя». Вядома, на падставе прыватных фактаў рызыкоўна рабіць занадта шырокія высновы і абагульненні, але ці не падцвярджаюць яны вусна і ў друку неаднаразова выказаную думку аб адрыве камсамола ад актуальных праблем часу, ад таго, чым жыве сучасная моладзь, аб

Заканчэнне на стар. 38







Кастусь
ТАРАСАЎ

# ЗАЛАТАЯ ГОРКА



## І. СКАРГА

Калі паказаліся двары Ляхаўкі [1] і пад коламі цягніка гулка застагнаў мост цераз Свіслач, Скарга, які чакаў гэтай хвіліны, азадачыў свайго смаленскага спадарожніка нечаканым для таго рашэннем: «Выходзім!» — «Нашто?» — разгубіўся Клім. Скарга бачыў у ягоных вачах недавер. Ён адказаў супакойліва: «Баюся перона»,— узяў сакваяж і выйшаў з купэ. Клім нібыта паверыў, аспрэчыць прапанову ён не мог. У тамбуры дужы дзяцюк у памятым гарнітуры вучыўся выпускаць колцамі тытунёвы дым. Ён з'явіўся ў Оршы і, мусіць, змарнаваў на сваю забаўку не адзін пачак цыгарэтаў. Скарга не меў сумніву, што гэта філёр, і што ад Смаленска да Оршы ён спаў, а ў Оршы змяніў калегу, які адстаяў тут начныя гадзіны. Той у Скаргавых святцах атрымаў мянушку Першы, гэты, адпаведна, стаў Другім. Учэпісты яго позірк слізгануў па Скаргу, адзначыў сакваяж у руцэ, ацаніў Кліма і, задаволены аглядам, рассеяўся, стаў пусты, як у сляпца.

Яны прайшлі ў хваставы вагон і праціснуліся да дзвярэй. Паказаўся вакзал. Цягнік пачаў прытарможваць. Скарга сступіў на ніжнюю прыступку і, трымаючыся за поручань, скочыў. Услед неадкладна скочыў Клім. Яны нырнулі ў прыстанцыйны скверык і панесліся на плошчу да стаянкі. Дзень быў будзённы, свабодныя рамізнікі з'язджаліся да цягніка. Яны селі ў каляску, і Скарга загадаў ехаць на Суражскую. Там жыў Валодзя Пан — самы надзейны чалавек з ягонай баявой групы. Скарга ў думках трыумфаваў, што вырваўся з пасткі, што атрымае прыстанак і верне даўгі. Вознік павёз іх па Пецярбургскай [2]. Прамінаючы жандарскае ўпраўленне [3], Скарга падумаў, што і філёры, і пераапранутыя афіцэры, зараз густа рассыпаныя па пероне, добра ўспудзяцца, калі ў чацвёртым вагоне, і наогул у цягніку не выявіцца шуканы імі збеглы эсэр. Пакуль абмяркуюць сітуацыю, прымуць рашэнне, пакуль разляцяцца па вуліцах агенты, ён паспее сёе-тое зрабіць. Магчыма, лепшым рашэннем было б пакінуць Кліма ў цягніку, сказаўшы цалкам пераканаўчае: «Сцеражонага бог сцеражэ. Выйдзем паасобку, сустрэнемся там і там удзень». Але такі разумны крок мог выклікаць ці стварыць непрадбачаныя перашкоды. Клім, які сядзеў побач, усё ж страхаваў яго ад прамога віжавання. Гадзіну часу трэба прысвяціць яму. Скарга разлічваў, што гэткая нібы даверлівасць дасць яму свабоду прынамсі да вечара, а ўвечары ён знікне. Дурыць галаву насцярожанаму і, падобна, вопытнаму чалавеку яўнымі выдумкамі Скарга палічыў непрымальным. Клім адразу адчуе імправізацыю, немудрагелістасць падману. Але і знаёміць Кліма з Панам было нельга. Скарга ехаў на Суражскую з пераканансцю, што Валодзя ў гэты час на працы, а на дзвярах відавочным доказам няўдачы абранага маршруту будзе вісець замок. Тады яны накіруюцца да Антона, якога таксама не застануць, бо ён да трох гадзін заняты ў гімназіі. І ўжо пасля гэтых дзвюх ездак набудзе поўную верагоднасць ягонае жаданне пасяліць Кліма ў гасцініцу для адпачынку і бяспечнага чакання пасылкі.

Калі пралётка звярнула на Суражскую, Скаргу здалося, што смалянін ведае, дзе стаіць патрэбны ім дом. Ведаць адрас Пана, назву вуліцы, месца дома ў вулічнай забудове Клім ніякім чынам не мог, размова пра гэта не ўзнікала, і Клім, па яго словах, упершыню быў у Мінску. Але Скаргу здалося, што Клім ведае гэты маршрут і зараз задаволены сваімі назіраннямі. Двор Пана быў трэці ад канца; насуперак разлікам, замок на дзвярах не

вісеў і самі дзверы, шырока расчыненыя, быццам запрашалі ўвайсці. Скарга супакоіў сябе думкай, што ў хаце гаспадарыць цётка, якая жыла недалёка і прыходзіла шторанку да адзінокага пляменніка, каб згатаваць яму абед і вячэру. Скарга сказаў рамізніку пачакаць і ўзяў Кліма з сабой. Яны зайшлі ў цесныя сені. На стук ніхто не адгукнуўся. Тады Скарга штурхануў абабітыя дзверы, пераступіў парожак і ўбачыў Пана — той, здалося Скаргу, спаў за сталом, але ў нейкай вельмі нязручнай позе. Ён сядзеў на стуле, але цела нахілілася ўлева і левая рука звісала, кранаючы пальцамі падлогу, галава і правая рука ляжалі на абрусе. «П'яны!» — падумаў Скарга. Яшчэ праз імгненне ён здранцвеў — на стале, прыкрыты рукой, ляжаў наган, па вялікай цёмна-бурай пляме вакол галавы павольна поўзала муха, і Скарга зразумеў, што яна поўзае па засохлай крыві, а над правай скроняй у Пана цямнеў кружочак, памерам з грош. Тое, што Скарга бачыў і разглядваў, было для яго настолькі немагчымым, абсурдным, што ён не верыў сабе; думка пра мёртвага Валодзю не ўмяшчалася ў галаве. Скарга бездапаможна азірнуўся на Кліма. Той глядзеў на незнаёмага яму самазабойца з прымхлівай жудасцю. Потым Клім перахрысціўся і абышоў вакол стала, Скарга таксама абышоў вакол стала. Яго ўразілі раскрытыя вочы Пана. Ён правёў пальцамі па павеках таварыша. «Пайшлі!» — пачуў ён цвярозы голас Кліма. Яны пакінулі хату, селі ў каляску, і Скарга даў напрамак: «На Нямецкую!»

Ехалі моўчкі. За ўвесь шлях Скарга сказаў адзіную фразу. Калі праязджалі пад жалезным мостам на Маскоўскай, ён сказаў у лад сваім тужлівым успамінам: «У Харкаве ў нашым корпусе за тыдзень павесіліся трое». Клім прамаўчаў, і гэта Скаргу спадабалася. Ці варта пытацца аб людзях, якіх ужо няма. Ды і сказаць пра іх няма чаго. Бачыў на прагулках — вось і ўсе веды. І якая розніца, што павесіліся два бундаўцы і адзін эсдэк [4] з рабочых. Учора сустракаў на прагулцы, назаўтра — не; нехта шапнуў — павесіліся. Уначы няцяжка павесіцца. Уначы застаешся сам-насам з уласнай верай.

На Нова-Маскоўскай [5] пераехалі па мастку канал, у якім струменілася абмяльчэлая Няміга, і пакацілі па Нямецкай [6], у далёкі яе канец. Хутка ўбачылі пераезд з узнятым шлагбаўмам. За ім высілася купа таполяў — Пратэстанцкія могілкі [7]. Тут горад заканчваўся, далей па ўзгорках выспачкамі стаялі лясы. Вуліца была бязлюдная. Толькі тачыльшчык тырчаў пры чыіхсьці варотах, і хрыплы звон сякеры, якую вастрылі на грубым камені, трывожна прарэзваў цішыню. Антонаў двор аддзяляўся ад вуліцы невысокім штыкетнікам. Скарга прагна разглядаў знаёмы дом. Ля парога драмаў кульгавы дварняк Анёл. На падаконніках стаялі кактусы, на адным пунцавела кветка. У хаце, як Скарга і чакаў, нікога не было: замок сведчыў пра гэта.

— Не шанцуе,— заклапочана сказаў Скарга.— Напэўна, на працы. Я ўжо адвык, што людзі працуюць.

Хто і дзе робіць, Кім распытваць не стаў, гэта яго не датычыла.

Яны вярталіся ранейшай дарогай. Скарга адчуў, што наспеў час пазбавіцца ад спадарожніка. Пры паваротцы на Захар'еўскую [8], за чыгуначнай царквой [9], ён сказаў: «Зробім, Клім, так. Тут вось гасцініца «Лібава». Спыніся, калі няма ахвоты сноўдацца па горадзе. Сустрэнемся а трэцяй на Нямізе ля сінагогі». Клім згодна кіўнуў і саскочыў з пралёткі.

Скарга папрасіў рамізніка ехаць хутчэй. Каля касцёльнай будоўлі [10] візнік рэзка прытрымаў каня — вуліцу перабягалі каржакаваты мужчына ў чусучовым гарнітуры і поўная, да пары яму, дама. На злы вокрык возніка мужчына азірнуўся, і Скарга адчуў, як замерла і ліхаманкава забілася сэрца — перад ім на адлегласці прыцэльнага стрэлу стаяў наглядчык Астровіч. Пара скіравала ўглыб Трубнай вуліцы [11]. Шырокая спіна Астровіча маячыла за сорак крокаў, як мішэнь. Скарга загадаў рамізніку ехаць за ім. Муж і жонка звярнулі ў Турэмны завулак [12]. Тады Скарга адпусціў пралётку і пайшоў за наглядчыкам. Брамка, у якую ўвайшла пара, была афарбавана ў сіні колер. Скрозь шчыліны ў штыкетніку Скарга падсачыў, што Астровіч спяшаецца за павець, а жанчына адчыняе дом. Не затрымліваючыся, Скарга прайшоў у канец завулка, да адхону, на якім узвышаўся турэмны замак. Тут ён пастаяў, разглядаючы забраныя кратамі вокны, дзе восем месяцаў таму Астровіч таптаў яго ботамі і катаваў Вольгу. Успамін выклікаў у Скаргі лютасць. Ён вырашыў, што пакарае Астровіча смерцю тут, побач з турмой. Кару можна было выканаць у гэтую хвіліну, але Скарга адужаў спакусу. Ён помніў, што неабходна забіць яшчэ дваіх: наглядчыка з прозвішчам Новак і жандарскага афіцэра Жывінскага, які дазволіў гвалт. Але смяротны вырок мог быць вынесены выключна камітэтам. Самасуд ставіў Скаргу па-за партыяй. Для палітычнага забойства два турэмныя наглядчыкі — занадта малыя асобы. Антон з яго цвярозым, халодным розумам запярэчыць, што такое забойства болей падобнае на асабістую помсту і толькі пашкодзіць аўтарытэту П. С.-Р [13]. Але гэтыя людзі не маюць правоў на жыццё. Скарга не ведаў, як разважыць такую супярэчнасць. Ён вырашыў разважыць яе ўвечары. Зараз жа была патрэба сустрэцца са сваімі, узяць грошы і перадаць іх камітэту. Згадка пра гэты абавязак вярнула яму пачуццё асцярожнасці. Пратаптанай сцежкай ён спусціўся з адхону на Раманаўскую [14], прамінуў пажарнае дэпо [15], за варотамі якога ржалі коні, і дварамі выйшаў на Багаяўленскую [16].

Кніжная крамка пана Вінцэся выпусціла пакупніцу; Скаргу ахапіла жаданне ўбачыць старога, але і гэтую сустрэчу ён адклаў на пазней. Самая блізкая яўка знаходзілася за рогам, на Захар'еўскай, у фатаграфічным салоне. Трымаў яўку Белы, адносіны з ім у Скаргі былі напружаныя, але выбіраць цяпер не прыходзілася. Скарга вырашыў рызыкнуць. На дзвярах вісела




шыльдачка: «Прыносім публіцы прабачэнні — ідзе праяўка пласцін». Скарга штурхнуў дзверы. Бразнуў званочак, выклікаючы майстра. На сярэдзіне залы стаяла на трыножку фотаскрыня, нацэленая аб'ектывам на дэкарацыю. З праявачнай выйшаў Белы.

— Здарова! — Скарга працягнуў руку для прывітання.

Поціск рукі Белага быў моцны, але вельмі жаданай таварыскай радасці на твары Белага ён не прыкмеціў. Здзіўленне — і ўслед абыякавасць.

— Ёсць хто ў цябе? — спытаў Скарга.

— Толькі ты,— пажартаваў Белы.— Святы, праўда, забягаў. Пяць хвілін як пайшоў.

— Шкада, што размінуліся,— засмуціўся Скарга.

— Калі ёсць патрэба — знойдзем,— сказаў Белы.

Ён зачыніў дзверы на засаўку, і яны ўладкаваліся ў праявачнай, дзе гарэў чырвоны ліхтар.

— Уцёк? — спытаўся Белы, але спытаўся неяк без цікавасці і спачування, быццам дзеля ветлівасці. Скарга не пакрыўдзіўся, ён ведаў, які грэх Белы ніколі яму не даруе.

— Прабач, што зайшоў,— адказаў ён.— Але такі час — усе на працы. А ў мяне абставіны...

— Разумею,— сказаў Белы.— Чым дапамагчы?

— Трэба пераапрануцца,— Скарга дастаў партманет і адлічыў дзесяць рублёў.— Што-небудзь простае, пад майстравога.

— Гэта няцяжка,— кіўнуў Белы, узяў грошы і раптам пацікавіўся, гледзячы Скаргу ў вочы: — Скажы, як табе пашанцавала ўцячы?

У пытанні Скарга адчуў налёт недаверу.

— Цудам! — адказаў ён і нявесела ўсміхнуўся: — Без усякага перабольшвання — цудам. Увечары раскажу. А як у вас?

— Ніяк! — вычарпальна сказаў Белы.

Скарга падумаў, што Белы асцерагаецца, але адразу ж у яго мільганула думка, што гэты аднаслоўны адказ адлюстроўвае непрыемную праўду: зацiхлі, зарыліся ў попел, супакоіліся. Напэўна, і сапраўды ніяк, калі Валодзя Пан стрэліў сабе ў скроню. Было б добра распавесці ці распытаць пра Пана, але Скарга раздумаў — даверу з боку Белага такі аповяд не пабольшыць. Не пытаючыся пра Пана, ён, аднак, задаў пытанне, якое кроіла яго і было пакутлівым для Белага.

— Як Вольга? — спытаў Скарга.

— Сам разумееш — дрэнна,— з дакорам адказваў Белы, і Скаргу працяў сорам.— Зараз яна ў Валожыне, у цёткі. Маці завезла. Два месяцы пратрымалі ў Траецкім шпіталі [17]. Знямела. Ну, можа гаварыць, але маўчыць.

Белы кахаў Вольгу, лічыў яе сваёй нявестай, і зараз Скаргу чулася ў ягоных словах перакананае абвінавачванне: ты — віноўнік ейнай бяды, разбуральнік нашага шчасця.

— Яна труцілася,— казаў Белы.— Выпіла эсенцыі. Ледзь адкачалі... Скажы, Скарга,— Белы дапытліва ўзіраўся яму ў твар,— што яны зрабілі там, у турме, з Вольгай?..

— Здекваліся,— сказаў Скарга.

— Хто?

— Два наглядчыкі.

— Білі?

— Так.

— Згвалцілі? — Белы баяўся, і Скарга яго пашкадаваў.

— Не,— сказаў ён.

— Але, Скарга, адкажы,— Белы ўжо не мог стрымліваць непрыязнасць,— нашто ты ўзяў Вольгу з сабой, калі нёс у дэпо адозвы?

— Памылка,— сказаў Скарга.— Толькі ведай: схапілі мяне не ў дэпо, а перад варотамі. Падышлі ўтраіх, назвалі маё прозвішча і павіслі на руках. Я намагаўся адбіцца, Вольга ўмяшалася...

— Я разумею: павіслі, не адарвешся. Але як ты мог узяць яе з сабой?

— Не трэба лезці ў душу,— змрочна папрасіў Скарга.— Хочаш — дапамажы, не хочаш — адмоўся, не пакрыўджуся. Калі зараз нас схопяць, цябе таксама будуць біць.

Белы хацеў нешта запярэчыць, але раздумаў.

— Добра, Скарга, прабач,— ён падняўся.— Што яшчэ акрамя вопраткі?

— Яшчэ перадаць Антону, што буду чакаць у дзве гадзіны там, дзе звычайна.




— Перадам,— кіўнуў Белы.— Усё?

— І галоўнае,— сказаў Скарга.— У Смаленску я трапіў на праваленую яўку. Такое ў мяне адчуванне. Магчыма, я памыляюся. Мяне не схапілі, дапамаглі з пашпартам, далі кур'ера з баевікоў. Мусіць, гэта агент паліцыі. Мяркую, што яны вырашылі выйсці на нашу касу. У тры гадзіны я сустракаюся з гэтым чалавекам на Ніжнім Рынку. Няхай Святы ці Сініца прасочаць яго «хвасты».

— Сініца адкалоўся,— паведаміў Белы.— Ён зараз з грамадаўцамі, адраджэнец [18]. Але каго-небудзь знайду...

Белы пайшоў. Скарга адчыніў саквояж, дзе пад зменай бялізны ляжаў наган, прытуліўся спіной да сцяны і заплюшчыў вочы. Чырвонае святло яго раздражняла. Заплюшчыўшы вочы, ён убачыў Валодзю Панкевіча, але не з дзірачкай над скронню, а на леташняй маёўцы. Пан быў у чырвонай кашулі. Нехта прынёс віно. Пілі за будучыню. Святы іграў на гітары. Падышоў Антон з жонкай. Вольга смяялася. Белы яшчэ не адчуваў да яго варожасці. Было гэта на беразе Свіслачы ў Серабранцы. А зараз Пана няма, Вольга — звар'яцелая, ён — збеглы і хутчэй гатовы памерці, чым зноў трапіць у камеру. Уцячы другі раз не пашанцуе. Пашчасціла. Бог сваіх цудаў не паўтарае. Пашчасціла, бо аднойчы ўначы крымінальнікі, суседзі па камеры, пачалі спрачацца на забаўную тэму — ці можна выпіліць аконныя краты хірургічнай пілой. Такая піла ляжала ў шкляной шафе ў кабінеце турэмнага доктара. Іх фантазіі запалілі ў ім надзею. Потым з штодзённых назіранняў ён вывеў, што апоўдні вароты турмы адчыняюцца і ўязджае хлебны фургон. У гэты час двор пусты, усіх арыштантаў вяртаюць з прагулкі ў камеры. Фургон цягне старая чучка, на козлах сядзіць стары, вартавы стаіць ля правай палавінкі варот. І калі нейкім чынам аказацца на двары, дык ёсць шлях на волю. Пасля разгрузкі вартавы правярае фургон — ці не ўціснуўся туды бягляк — і стары выязджае прэч, каб з'явіцца заўтра. І ў нейкую ноч склаўся план уцёку з харкаўскай турмы, дзе наглядчыкі з асаблівай стараннасцю даймалі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Ім далі гэта адчуць на прыёмцы, калі іх, партыю новапрыбыўшых, падзялілі на крымінальных і палітычных. Крымінальнікі, якіх павялі ў лазню першымі, зласліва прадказвалі: «Зараз вас прымуць!» Наглядчыкаў было дзесяткі тры, яны выстраіліся ў дзве шарэнгі, і па гэтым калідоры з мардаваротаў кожны мусіў прайсці да дзвярэй. Голым, што было агідна і павялічвала безабароннасць. Таго, хто прыспешваў крокі ці абараняўся, збівалі з ног і таптала ботамі, а патаптанага перакідвалі ад аднаго да другога, павольна пасоўваючы да мыльні, куды арыштанта выштурхвалі ледзь жывога. Кожны ўдар суправаджала помслівае тлумачэнне: «Вы ў нас пастраляеце, сволачы!» Два кіеўскія эсэры пасля гэтай прыёмкі памерлі. Доктар, які агледзеў іх у камеры, назваў прычынай смерці прыроджаны сардэчны парок. Наглядчыкам у другім корпусе, дзе сядзеў Скарга, быў шасціпудовы граміла Сцепанчук. Некалі ён служыў у Сямёнаўскім палку. Палкавы камандзір здаваўся яму не ніжэй нябеснага заступніка. І раптам такі вялікі чалавек, генерал Мін, камандзір лейб-гвардыі Сямёнаўскага палка, лёг у дамавіну з куляй у сэрцы, пакараны сацыялістамі-рэвалюцыянерамі за масавыя забойствы рабочых у Маскве. Яшчэ ён помсціў за Гапона, павешанага баевікамі, і за забітага лятучым атрадам эсэраў паліцэйскага прыстава Жданава.

Два тыдні Скаргу давялося стагнаць па начах, курчыцца ў няшчырых пакутах днём, але ўсё-ж настаў час, калі Сцепанчук прывёў яго ў першы корпус на першы паверх, дзе ў канцы калідора змяшчаўся ў двух пакоях турэмны доктар. Гэты доктар, з прозвішчам Каваленкаў, атэставаны сярод арыштантаў мянушкай «Чарвяк», будзе помніць яго да магілы. Скарга ўвайшоў у кабінет каля адзінаццаці, а падчас вячэры па ўсіх тэлеграфных лініях разносіліся дэпешы аб вышуку збеглага эсэра-баевіка Булевіча Кірылы Іванавіча, ураджэнца Мінска, 1882 года нараджэння, рост сярэдні, вочы карыя, асаблівыя прыкметы — шрам на грудзях ад штыхавога ранення. Узброены, у сувязі з чым пажадана застрэліць...

Белы прынёс ад старызніка карычневы пінжак, касаваротку, картуз і картовыя, з лапікамі на каленях штаны. Скарга пераапрануўся. Яго прыстойны гарнітур і капялюш Белы схаваў у шафу, дзе захоўваліся бутэлькі з рэактывамі. Доктараў пісталет Скарга пераклаў у кішэню пінжака.

— Куды цяпер? — спытаў Белы.

— Па грошы.

Дзе схаваны грошы, якія група экспрапрыявала восем месяцаў таму ў Дзяржаўным банку, Белы распытваць не стаў. Такія справы яго не тычыліся, ён адказваў за адозвы.

— Даўно бачыў Пана? — пацікавіўся Скарга.

— Тыдні два таму. Што, знайсці?

— Не трэба. Сам знайду.

Адшукае Валодзю Пана ягоная цётка, падумаў Скарга. А ёй пад семдзесят гадоў, і смерць пляменніка яе даканае. Такая смерць!..

— Ну, бывай,— Скарга ўзяў саквояж.

— Да сустрэчы,— сказаў Белы.

Скарга пакінуў салон праз чорны ход.

Цяпер неабходна было зрабіць самае галоўнае — пабачыць

**Заканчэнне на стар. 29**

АСАБЛІВЫ ВЫПАДАК

# СПРАВА ТКАЧОВА?..

Я шчэ нядаўна Ткачоў бачыў сваіх студэнтаў - геадэзістаў кожны дзень, але былі яны недаступна далёкія. І вось, адбыўшы ў армію, за тысячы кіламетраў, якія ж блізкія сталі...

**«Паважаны Васіль Мітрафанавіч! Мы ўзрушаныя і абураныя, але галоўнае — крыўдна, сорамна. Ды былога не вярнуць. Застаецца нам кусаць локці...»** — пісалі яму ягоныя выхаванцы.

Політэхнікум — зусім побач, праз тры аўтобусныя прыпынкі. Але не дайсці, не даехаць. Ад хлопцаў Ткачоў адлучаны, з тэхнікума звольнены.

4 студзеня да яго са слязьмі на вачах прыйшла маці Уладзі Кульшы. «Дапамажыце, вы ж класны кіраўнік. Месяц да выпускных экзаменаў, а сын не займаецца, днямі і начамі ў Трусава і Проніна». Ткачоў азірнуўся: Трусаў!

— Сяргей, ану пакліч Проніна.

— Гэта з якой нагоды?

— Кульша экзамены можа заваліць.

— Вы класны кіраўнік, вы і разбірайцеся.

Магчыма, словы гучалі не зусім такія — размова працягвалася без сведкаў, у тамбуры спартзалы. Убачыўшы, што хлопец збіраецца ўцячы, Ткачоў паспрабаваў утрымаць яго за каўнер кашулі: «Ды ты разумееш, што сябру твайму дапамагчы трэба?» Адляцеў гузік...

Неўзабаве Сяргей Трусаў напісаў заяву, у якой абвінавачваў выкладчыка ў збіванні. Сведкі ўмомант знайшліся.

Разбірацельства было нядоўгае — і закончылася загадам аб звальненні. Праўда, спачатку прафком не даў на гэта згоды. Сумненні былі: ці то пабіў, ці то не? Ці то сведкі «самі ўсё бачылі», ці то «гвалт з-за дзвярэй пачулі». Але знайшліся і іншыя заявы. Маўляў, пару гадоў назад той самы Ткачоў за каўнер вышпурнуў на вуліцу хлопца. Другога акунаў галавою ў бачок з вадою.

Невыпадковы, выходзіць, учынак, не раптоўная слабасць, а заганная сістэма выхавання. «Антыпедагагічная практыка». На паўторным пасяджэнні прафком санкцыяніраваў звальненне.

«Каб Васіль Мітрафанавіч пабіў Трусава? Не можа быць». Новы класны кіраўнік не мог утаймаваць групу: «Разбяруцца!» Але Васіль Мітрафанавіч вучыў нас ва ўсім разбірацца самім».

Навучэнцы адправіліся да дырэктара М. Галаганюка: патрабуем правесці сход. Але дырэктар сход... забараніў. Нагадаў: хутка выпускныя экзамены. Лепш паберагчы сілы. Тады ў групе тэрмінова правялі нечарговы камсамольскі сход. Трусаў на яго не з'явіўся.

А Барысаўскі раённы суд, куды Ткачоў звярнуўся, даводзячы, што ён «нікога не біў! не вышпурваў! не акунаў у ваду!»,— таксама быў нядоўгі. Недарэчнасці абвінавачванняў у адрас Ткачова разбіраў неахвотна. Сведкаў, якія на гэтыя недарэчнасці ўказвалі, перапыняў.

Затое другому боку — прадстаўнікам адміністрацыі і прафкома — даваў выгаварыцца напоўніцу. Аўтары абвінавачых заяў на пасяджэнні ад іх адмовіліся. Але суд не надаў гэтаму значэння. Прайшоў, маўляў, час. І хлопцы, мажліва, «пасталелі». У просьбе аб аднаўленні на працы Ткачову адмовілі. Але выйшла няўвязка. Адзін з народных засядацеляў, слесар Аляксандр Чычэрын, такое рашэнне падпісаць адмовіўся. Парушэнне? Мог жа выкласці асабістую думку, але падпісаць дакумент быў абавязаны. На нявопытнасць тут не спішаш: быў дэпутатам гарсавета, у судзе засядае не першы год. «Памылку» народнага засядацеля ў судзе паправілі лёгка. Спачатку выклікалі і прапанавалі: падпішы, павінен. Але Чычэрын сумленна стаяў на сваім: «Лічыце мой адказ пратэстам супраць дзеянняў суда».

Ды толькі рашэнне перапісалі нанова, і подпіс... падрабілі. Паперы пайшлі ў канцылярыю. Аднак ткачоўскія выхаванцы не палічылі справу спісанай. Раздабылі стары нумар раённай газеты «За коммунистический труд» з нататкай пра настаўніка.

«Чатыры гады таму назад Васіль Мітрафанавіч Ткачоў стаў нашым класным кіраўніком. А сёння мы можам сказаць, што навучыў нас Васіль Мітрафанавіч працаваць, марыць, не баяцца цяжкасцей, рабіць дабро. Навучэнцы чацвёртага курса, група ІГ—39».

Пасля выпускнога вечара фармальна ткачоўская група існаваць перастала. Але навучэнцы арганізавалі яшчэ адзін сход, разам з бацькамі. Запрасілі «трохкутнік»: дырэктара Галаганюка, загадчыцу аддзялення і сакратара партыйнай арганізацыі К. Трашчову, старшыню прафкома С. Гісюка. Тыя адмовіліся. Цэлая дэлегацыя прыйшла ў дырэктарскі кабінет.

— Тэхнікум скончылі. Што трэба?

Але група, на жаль, не была скансалідаванай. Не толькі Трусаў не прыйшоў на сход, нехта ад імя групы пісаў ананімкі ў міністэрства. Паехалі выпускнікі ў Мінск, каб дапамагчы вышэйшай педагагічнай інстанцыі знайсці ісціну. Але і там атрымалі катэгарычны адказ: «Не ваша справа!»

Нехта пайшоў у армію, нехта паехаў па накіраванні, нехта пайшоў вучыцца далей. Тыя, што засталіся ў Барысаве, па-ранейшаму заходзілі ў тэхнікум. Помніліся цёплыя словы, якія казаў на развітанне на выпускным вечары дырэктар. Штосьці пра родны дом, дзверы якога адчыненыя. Але ў вестыбюлі гэтага дома іх спыняў стары: «Што вы тут сноўдаеце?»

**«...Вера ў людзей у нас пахіснулася. Мы яшчэ можам зразумець тых, хто заблытаўся, хто робіць нядобрую справу праз уласную дурасць, не разумеючы. Але тымі, хто робіць подласці наўмысна, каго ў дасягненні мэты не можа спыніць ніякае пачуццё, хто гатовы на любую хлусню, двудушша і нават злачынства — дзеля ўласнага дабрабыту, мы будзем пагарджаць усё жыццё...»**

Жорсткія-жорсткія словы. Напэўна, яны пра тых, хто процістаяў Ткачову. Але дырэктар Галаганюк непахісны і ўпэўнены, што праўда на ягоным баку, упэўнены, што мае права судзіць Ткачова. І — судзіць, хоць (высветлена пракуратураю!) сам падымаў руку на навучэнцаў. Процістаіць Ткачову і суддзя Л. Вінаградзенка, якая падрабіла подпіс народнага засядацеля. Яна таксама выглядае спакойна і ўпэўнена. Процістаіць, здаецца, і старшыня пасяджэння абласнога суда, дзе (які ўжо раз) слухаецца справа.

Чаму, пытаецца адвакат Ткачова, вы не зважаеце на падробку подпісу ў Барысаўскім судзе? Вось фатаграфія — зірніце.

— А якое права вы мелі фатаграфаваць судовыя дакументы? — пытаецца старшыня ў адказ.— Спадзяюся, вы будзеце за гэта пакараны.

Урэшце ўсё стане на свае месцы. Прэзідыум абласной калегіі не знойдзе ва ўчынку адваката проціпраўных дзеянняў. Затое абласная пракуратура кваліфікуе падробку подпісу суддзёй Вінаградзенка як службовае злачынства. І не знойдзе фактаў, якія даказваюць збіванне Ткачовым навучэнцаў.

Па просьбе «Комсомольской правды» з асаблівай руплівасцю правядзе работу следчы А. Абчынец, разашле строгія службовыя паперы выпускнікам у розныя канцы краіны. Нават Сяргей Трусаў прызнае, што з Ткачовым абышліся несправядліва. Ну, а суд, натуральна, назаве звальненне незаконным і адновіць Ткачова на рабоце.

А засяданне, а сведкі? Сведкі прызнаюцца, што заяву пісалі пад дыктоўку Н. Галаганюка і К. Трашчовай. Выяўляецца, у Сяргея Трусава былі матывы затаіць зло на Ткачова. Але Ткачоў пайшоў у міліцыю і папрасіў: «Не трэба ламаць жыццё хлопцу. Самі разбяромся. Зразумее».

— Міліцыя справу спыніла, а вы на ўвесь тэхнікум мяне зганілі, стыпендыі пазбавілі,— кінуў Трусаў Ткачову.

Вось і «зразумеў».

Вярталіся з поля. На сталах — абед. Адзін хлопец, рагочучы, апаласнуў рукі ў бачку з пітной вадою. Азірнуўся — ззаду Ткачоў.

— Цяпер вып'еш...

А сказалі ж, што акунуў у ваду галавою.

Яшчэ была гісторыя з кампотам. Таксама ішлі з поля і адразу — за стол, за хлеб. Ткачоў нёс у руках поўны паднос.

— Усім мыць рукі.

Нуль увагі.

— Чакайце!

Ніякага выніку. І паднос паляцеў на зямлю. Падзейнічала. Выпадак гэты, напэўна, пры жаданні таксама можна было б вытлумачыць як наўмыснае нанясенне шкоды маёмасці тэхнікума. А можна інакш.

Без Ткачова, скажа потым маці Сярожы Трусава, нам было б цяжка справіцца з выхаваннем сына. З такім педагогам, дадасць выкладчык Т. Паўлава, я спакойна адпусціла б сваіх блізнятаў і на бульбу, і куды хочаце. Але чаму ж тады толькі навучэнцы не скарыліся са звальненнем настаўніка? Хлуслівыя пратаколы, стосы бюракратычных адпісак, дзесяткі кабінетаў, бясконцыя паездкі ў Мінск...

**«Нельга адыходзіць убок, калі такое дзеецца. Мы ніколі не думалі гэтак дрэнна пра нашых настаўнікаў. Яшчэ раз хочам сказаць, што падтрымліваем вас, Васіль Мітрафанавіч. Нікіфараў, Пронін, Бураў».** Гэта напісалі той самы Нікіфараў, які нібыта бачыў, як Ткачоў збіваў Трусава, той самы Пронін, якога Ткачоў нібыта вышпурнуў за каўнер, і той самы Бураў, якога ён нібыта акунаў галавою ў ваду.

Але чаму ж адміністрацыя выжывала выкладчыка фізічнага выхавання Ткачова з тэхнікума, падштурхоўвала хлопцаў да лжэсведчання? Сутыкнуліся дзве процілеглыя педагагічныя пазіцыі. Хоць у дачыненні да адміністрацыі слова «педагагічная» гучыць ненатуральна. Выпускнікі далі ёй ацэнку. Цяпер справа за Міністэрствам народнай адукацыі БССР. Толькі б не ўзяўся даваць гэтую ацэнку той самы работнік, які ўстаў некалі ў навучэнцаў на дарозе: «Не ваша справа!»

Але судовую справу Ткачоў выйграў. І зможа зараз працягваць галоўнае — больш доўгае і цяжкае, у чым прайграць ніяк нельга. Бо педагогіка, як і прынцыповасць, як і праўда, павінна перамагаць кожнага дня.

Хіба гэта справа аднаго Ткачова?

**Віктар ПАНАМАРОЎ**

г. Барысаў,
Мінская вобл.

Фота Аляксандра УГЛЯНІЦЫ



Юрый
ЦЫБІН

# КАРАВУЛ, НЯЧЫСТАЯ?!

## ПРА РОК-МУЗЫКУ, САТАНУ І ЯЖОВЫЯ РУКАВІЦЫ

— Патэлефанаваць! Ну што ж, патэлефануйце,— самотна згадзіўся хворы і раптам з імпэтам папрасіў: — Але малю вас на развітанне, паверце хоць у тое, што д'ябал існуе! Пра большае я ўжо вас і не прашу. Майце на ўвазе, што на гэта існуе сёмы доказ, і ўжо самы надзейны! І вам ён зараз будзе прад'яўлены.

М. БУЛГАКАЎ.
«Майстар і Маргарыта»

### 1

Яна трапіла мне ў рукі амаль выпадкова, гэтая кніга. Дакладней, нават не сама кніга, выдадзеная на Захадзе і кімсьці рупліва перакладзеная на рускую мову, а яе ксеракопія.

Ужо на другой старонцы я зразумеў, што стаў уладальнікам унікальнага дакумента!

Процьма выкладзеных аўтарам фактаў і высноў бянтэжыла. Яму, напрыклад, удалося расшыфраваць сапраўдны сэнс дзейнасці рок-музыкантаў. Выяўляецца, «звышзадача», якую яны ставяць перад сабою, проста жахлівая: любой цаною прышчапіць слухачам любоў да ...нячыстай сілы. Так-так, да самога сатаны! Бо ўсе «значныя вытворцы рок-н-ролу» прадалі свае душы д'яблу, стаўшы актыўнымі членамі тайнай «сатанінскай царквы», і ўсе створаныя імі опусы, перш чым трапіць да слухача, падвяргаюцца ўздзеянню цёмных сіл. І вось уявіце: «Калі вы купляеце ці прыносіце да сябе альбом зачараваных такім чынам пласцінак, вы ў значнай меры наклікаеце на сябе чараўніцтва і дэманаў, звязаных з гэтым творам. Значыцца, няма нічога дзіўнага, што аўдыторыяй адчуваецца дэманічны ўплыў у наступных формах: раздражнёнасць, імкненне да бунту, непрыстойная гамонка, схільнасць да самазабойства...»[1]

Раздзел, у якім можна знайсці гэтае адметнае меркаванне, называецца проста: «Чараўніцтва і рок-музыка». А ў самой кнізе назва нашмат больш мудрагелістая: «Рок-н-рол: гвалт над свядомасцю падсвядомымі паведамленнямі». Напісаў яе святар з Канады Ж.-П. Рэжымбаль, ці, як піша пра сябе ён сам, «прапаведнік на спачынку і кіраўнік радыёпраграм».

Але якім жа ўсё-такі чынам музыканты могуць прышчапіць слухачу любоў да сатаны? Няма нічога прасцейшага, сцвярджае святы айцец: яны вынайшлі вельмі хітры прыём — устаўляюць у твор, які выконваюць, некалькі спецыяльна падабраных фраз, запісаных не з пачатку, а з канца. Выявіць іх можна толькі пракруціўшы пласцінку менавіта ў такім парадку. Гэта ж трэба!

Пакорпаўшыся ў каталогах буйнейшага кнігасховішча рэспублікі — Дзяржбібліятэкі БССР імя У. І. Леніна, пагартаўшы бібліяграфію работ па рок-музыцы, змешчаную ў замежных даведніках і энцыклапедыях, і выявіўшы, што афіцыйна ў нас у краіне кніга «канадскага святара» не выдавалася, а замежныя спецыялісты на яе не зважаюць, я і вырашыў залічыць гэты «твор» у разрад кур'ёзаў. Мала што ўзбрыдзе каму-небудзь у галаву...

Ды не!

Сляды канадскага цемрашала-аматара, «прапаведніка на спачынку», сталі раптам трапляцца ў працах айчынных публіцыстаў і крытыкаў. Паходжанне іх іншы раз камуфліравалася, выдавалася за агульнапрыняты пункт гледжання, і чытач са здзіўленнем даведваўся, што, напрыклад, назва амерыканскай групы «Кіс» азначае зусім не «пацалунак», а расшыфроўваецца як «Каралі на службе ў сатаны» (англійскае «Кінгз ін сатанз сэрвіс»)[2] — цалкам у адпаведнасці з Рэжымбалем. А часам, наадварот, аўтар не толькі не лічыў патрэбным маскаваць сляды вялебнага, але і ўсяляк гэтую акалічнасць падкрэсліваў, дапаўняючы высновы Рэжымбаля ўласнымі высновамі.

Пачытайце леташнія нумары часопіса «Наш современник». Там выступіў М. Дунаеў з артыкулам «Роковая музыка», з якога вынікае — штандар «вучэння» канадскага прапаведніка ў надзейных руках!

Аб'явіўшы рок сатанінскай сілаю, напорысты прапаведнік на гэтым не супакойваецца, выяўляючы надзвычайную шырыню поглядаў. Для яго рок — яшчэ і важнае звяно ў ланцугу масонскай змовы, што аблытала ўвесь свет, змовы, мэтаю якое з'яўляецца стварэнне на зямлі такога грамадскага ладу, пры якім цяперашнія маладыя (стаўка ж робіцца менавіта на іх) будуць адчуваць сябе «грамадзянамі свету без веры і закону, без якіх-небудзь абавязкаў перад іншымі гаспадарамі, апроч ілюмінатаў[3] і сатаны».

Вось гэта бліжэй. Пра змову — гэта мы ўжо чулі. Ад тых, хто яшчэ нядаўна размахваў (а можа, размахвае яшчэ і цяпер) сумна вядомымі «Пратаколамі сіёнскіх мудрацоў» — фашысцкай фальшыўкаю. Ці не заадно з гэтымі «пратаколамі» падпольна тыражавалася нашымі змагарамі з «іншаверцамі» і «праца» Рэжымбаля? Вельмі ўжо выразная звязка атрымліваецца: масоны — сіяністы — рок-музыканты. У выніку — сусветная змова... У славу сатаны?

І што самае галоўнае — адразу робяцца зразумелыя прычыны багата якіх сацыяльных бедаў і нягод, што апанавалі чалавецтва. Рок-музыцы, дарэчы, сярод гэтых прычын адведзена зусім не апошняе месца.

«Сёння на Захадзе рок-разбэшчванне набыло нябачны размах,— чытаем у леташняй кастрычніцкай кніжцы «Нашего современника»[4].—...і тым, што сёння кожны другі (?!.— *Ю. Ц.*) амерыканец наркаман, алкаголік, спажывец транквілізатараў ці псіхічна хворы, альбо і тое і другое разам,— Амерыка ў значнай ступені абавязана рок-музыцы».

Вось гэта па-нашанску: секчы — дык ужо з пляча! Не пашкодзіла б хоць трохі растлумачыць, адкуль шаноўныя аўтары ўзялі гэтыя лічбы наконт псіхічна хворых амерыканцаў... Дый наконт іхняга «зялёнага змея» надта ўжо яны размахнуліся... Пацвердзіць бы чым-небудзь гэтакія катэгарычныя высновы!

Але паколькі самі аўтары пошукамі лічбаў не дужа заклапочаныя, зробім за іх гэта мы, балазе ў разрад дзяржаўных і іншых тайнаў яны не ўваходзяць. Спынімся, напрыклад, у папулярным штотыднёвіку «Аргументы и факты» (№ 22 за 1988 год) на цікавай табліцы з дадзенымі Дзяржкамстата СССР (ён ужо маніць не стане!) пра ўжыванне алкагольных напояў усіх відаў на душу насельніцтва ў асобных краінах. Спынімся і здзівімся: выяўляецца, за перыяд з 1980 па 1986 год ужыванне алкаголю ў ЗША не толькі не ўзрастала, але, наадварот, пастаянна зніжалася. Як і ў Англіі, Канадзе, ФРГ, Швецыі і некаторых іншых краінах. Во як: з аднаго боку, нібыта лютуе рок-распуста, з другога — зніжаецца ўжыванне алкаголю на душу насельніцтва. Кампаній па барацьбе з п'янствам і алкагалізмам у названых краінах, наколькі я згадваю, не аб'яўлялі, вытворчасць пласцінак, відэакасет, магнітафонных запісаў узрастае — дык як тады, ці-

кава, тлумачаць аўтары тоўстага часопіса такі парадаксальны, калі прытрымлівацца іхняе логікі, феномен? Слушна: ніяк. Яны яго проста ігнаруюць.

У тым самым нумары «Аргументов и фактов» апублікавана вартае ўвагі інтэрв'ю з вучоным — старшынёю секцыі сацыялогіі анармальных паводзін ленінградскага аддзялення Савецкай сацыялагічнай асацыяцыі, доктарам юрыдычных навук Я. І. Гілінскім. Вучоны гаворыць пра тое, што ўсе негатыўныя з'явы — і самазабойства, і п'янства, і наркаманію, і злачыннасць — спараджае нішто іншае, як сукупнасць супярэчнасцей грамадска-эканамічнага развіцця. **Сукупнасць супярэчнасцей**!

Прыслухацца б да гэтае думкі некаторым таропкім у меркаваннях нашым публіцыстам. А то ж яшчэ трохі — і будзем сцвярджаць, што і адылаўшчыну, і рашыдаўшчыну, дый увогуле застойны перыяд справакавалі рок-музыканты. А то сумна жыць без казла адпушчэння. Тут на самай справе час ужо заклікаць у саюзнікі Рэжымбаля, узнагародзіўшы яго эпітэтам «вядомы даследчык». Праўда, Рэжымбаль лічыць, што ў змове супраць свету аб'ядналіся не толькі рок-музыканты, але і марксісты. Гэта, вядома, можна апусціць... А ўсё астатняе — падыдзе.

## 2

Гэты артыкул — зусім не спроба адгарадзіць рок ад крытыкі. Аўтар — за крытыку. Але супраць таго, што іншы раз спрабуюць за яе выдаць. Супраць высакамерных папярэджанняў накшталт: «Рок — гэта рок. З усімі адпаведнымі вынікамі».

Дарэчы, пра вынікі. Якое ўсё ж такі ўздзеянне робіць рок-музыка на сваіх слухачоў? На іх псіхафізіялагічны стан? Здагадак і меркаванняў, часта задужа катэгарычных, на гэты конт выказваецца багата, але зазвычай яны не падмацаваны сур'ёзнымі даследчыцкімі распрацоўкамі. Пераканаўшыся ў тым, я стаў шукаць людзей, якія такімі б даследаваннямі займаліся.

Дапамог, як бывае, выпадак. У тым самым «Нашем современнике», які вінаваціць рок у разбуральным уздзеянні на арганізм чалавека, рабілася спасылка на працы мінскага вучонага-псіхолага Л. П. Навіцкай. Ларыса Паўлаўна, як выявілася,— вельмі цікавы суразмоўца, гутарку з ёю варта было б, напэўна, апублікаваць цалкам, бо шмат нечаканых і неардынарных меркаванняў, заснаваных на канкрэтных даследаваннях, давялося мне пачуць асабіста ад яе. А напісаная ёю дысертацыя мае самае непасрэднае дачыненне да тэмы, якую мы разглядаем. (Рызыкуючы быць абвінавачаным у злоўжыванні спецыяльнай тэрміналогіяй, прывяду ўсё ж назву дысертацыі: «Псіхафізіялагічнае даследаванне эфектыўнасці ўздзеяння музыкі як складанага гукавога сігналу».) Дык ці ж сапраўды праведзеныя даследаванні сведчаць аб разбуральным уздзеянні рок-музыкі на мозг чалавека, пра што паспяшаліся праінфармаваць чытача некаторыя выданні, у тым ліку і беларускія?

— Такая фармуліроўка прынамсі некарэктная,— адказала на зададзенае пытанне Ларыса Паўлаўна.— Праведзеныя даследаванні далі нам магчымасць супаставіць уплывы музыкі розных жанраў на функцыянальную дзейнасць кары галаўнога мозга. Так мы прыйшлі да высновы, што праслухоўванне класічнай музыкі актывізуе мысліцельны працэс, а праслухоўванне рок-музыкі такога стымулюючага ўздзеяння не аказвае. Калі называць такі эфект разбуральным, тады прыйдзецца лічыць падобным да яго і ўплыў многіх іншых аспектаў нашай жыццядзейнасці. Напрыклад, існуючай сістэмай навучання, якая — а мы праверылі гэта эксперыментальна — таксама зусім не ўздымае ўзровень мыслення нашых школьнікаў і студэнтаў.

— А як вы ставіцеся да сцвярджэння Рэжымбаля пра магчымасць перадачы падсвядомых паведамленняў праз рок з дапамогаю тэхнічных прыёмаў?

— Я вельмі скептычна стаўлюся да опуса Рэжымбаля ўвогуле. З майго пункту погляду гэта не навуковая праца. У ёй няма пераканаўчага эксперыментальнага матэрыялу, не названы даследчыкі, працы якіх маглі б пацвердзіць аўтарскую думку. Рыхтуючы дысертацыю, я вывучыла масу літаратуры па дадзенай праблеме. Магу сказаць з упэўненасцю: прац, якія пацвярджаюць высновы Рэжымбаля, няма — ні на Захадзе, ні ў нас.

...Не, не спяшаюцца сур'ёзныя вучоныя рабіць катэгарычныя высновы ў дачыненні да року, імкнуцца грунтоўна ва ўсім разабрацца. У адрозненне ад аўтараў разгромных і зубаскрышальных публікацый, у якіх веды і аналіз замяняюцца крыкам.

«З аднаго боку — акадэмічныя народныя ансамблі, з другога — рок... Ды калі ж мы зразумеем, што рок — не мастацтва, а антымастацтва!» — патэтычна ўсклівае на старонках аўтарытэтнага часопіса вядомы мастак М. С. Савіцкі. Амаль ва унісон з ім выступае і ўжо ўпамянёны М. Дунаеў, заяўляючы пра несумяшчальнасць рок-музыкі з рускай культураю. У чым прычына несумяшчальнасці? Ды ў тым, выяўляецца, што «высокаразвітая мова не можа ўкласціся ў рок-рытмы першабытных рытуалаў». Хвацка! Так і карціць удакладніць: а мова, на якой гаварылі Шэкспір, Байран, Хемінгуэй і спявалі «Бітлз» — яна што, залічана цяпер у разрад недаразвітых? І як жа моцна трэба заціскаць вушы і заплюшчваць вочы, каб не заўважыць працэсаў, якія адбываюцца ў нашым песенным жанры апошнія 15—20 гадоў?

Так, у шасцідзесятыя гады рок развіваўся ў нас у краіне выключна пад замежным уплывам. Беручы ў рукі гітары, сваёй гадоўлі «бітлы» і «ролінгстоўнзы» спявалі толькі з англійскім акцэнтам. Але ж у сярэдзіне сямідзесятых — пачатку васьмідзесятых сітуацыя пачала мяняцца, і мяняцца радыкальным чынам. Вызначылася магутная ўнутраная крыніца ўздзеяння на рок-жанр: аўтарская песня, сучасны гарадскі раманс. У кампазіцыях «Машыны часу», «Акварыума», «Навуцілуса Пампілівуса», такіх папулярных сёння, адчуваецца ўплыў не толькі «класікаў року», але і — у значна большай ступені — творчасці Акуджавы, Высоцкага, Галіча. І зусім невыпадкова, напрыклад, апытанне аўдыторыі канцэртаў папулярнай музыкі, праведзенае маскоўскімі даследчыкамі ў чатырох гарадах краіны (Ленінград, Свярдлоўск, Барнаул, Бійск) паказала, што сённяшні малады слухач у асноўным аддае перавагу савецкай, а не заходняй рок-музыцы, бачачы ў першай своеасаблівую з'яву нашага культурнага жыцця. Ці можна сёння ігнараваць гэтую акалічнасць, ставячы любімы моладдзю жанр па-за рамкамі агульнага працэсу нашага культурнага развіцця?

Ці можна, папракаючы маладых слухачоў у няўвазе да класікі, забывацца на тое, што залы на філарманічных канцэртах пустуюць яшчэ і таму, што іх не спяшаюцца запоўніць і людзі іншых узроставых катэгорый? І што, як высока ні ўзносілі б мы класіку над усімі іншымі музычнымі жанрамі, яна ўсё-такі нам цалкам гэтыя самыя жанры не заменіць? «Танцаваць жа таксама пад нешта трэба!» — аргумент, мажліва, і не самы пераканаўчы, ды ва ўсякім разе досыць законны.

Так што не прымусовае вынішчэнне адных жанраў і насаджэнне іншых (няхай і самых цудоўных) — шлях вырашэння праблем музычнага жыцця, якія непакояць нас, а іхняе суіснаванне, узаемаўзбагачэнне (так, так!) і развіццё — у плыні натуральнай эвалюцыі ўсяго музычнага мастацтва.

## 3

Рок — з'ява не толькі музычная, але і сацыяльная. Гэта сёння прызнаюць, здаецца, усе — і ягоныя прыхільнікі, і ягоныя праціўнікі. Пра гэта сведчаць і ацэнкі, якія даюцца яму ў друку. Наколькі яны дакладныя і аб'ектыўныя, гэтыя ацэнкі? У чым спрабуюць пераканаць чытача аўтары, што выказваюць іх?

Разгорнем яшчэ раз адрасаваную школьнікам брашуру «Сваё і чужое» мінскага аўтара У. Бегуна. Адшукаем старонку, на якой апісаны вечар у дыскатэцы брэсцкага парку культуры і адпачынку. Чытаем: «Грымнуў пярун — гэта праз магутныя ўзмацняльнікі ўдарыў ва ўсю сваю забойчую сілу джаз. Бліснулі маланкі — паўзмрок праціяла электронна-музычнае святло. І нейкай дзіўнай лавінаю пакаціліся, разрываючыся і лопаючыся, гукі. І зараўлі, захрыпелі, забляялі на чужой мове галасы...» Як вам усё гэта? Канец свету, дый годзе. Асабліва, калі джаз — ды раптам ва «ўсю сваю забойчую сілу»! Гэта ж трэба такое сказаць! Зрэшты, аўтару не да тонкасцей музычнай тэрміналогіі. Галоўнае, карцінку намаляваць як мага больш выразную, каб уразіла напавал, каб не панадна было маладым такія нядобрыя месцы наведваць. Фантасмагарычная, трэба сказаць, атрымалася карціна: «...Зірнуў на ахопленага канвульсіямі хлопца і тут усё роўна як шэпча мне на вуха сам Дастаеўскі: «Увесь танец яго, увесь прыём яго адно ў тым, што ён з нейкім амаль зверствам, нейкімі сакадамі круціць сваю даму і можа перакруціць трыццаць-сорак дам запар і ганарыцца гэтым; але якая тут прыгажосць? Танец — гэта ж амаль прызнанне ў каханні... а ён нібыта б'ецца». Ну скажыце, як тут — пакарыстаюся слоўцам з лексікону аўтара брашуры — не «взопреть» беднаму чытачу, наведніку танцавальных вечароў? Калі сам Фёдар Міхайлавіч нашэптвае аўтару пра шкоднасць цяперашніх дыскатэк?

А вось Я. Краўцоў, артыкул якога надрукаваны ў леташнім 10-м нумары часопіса «Политический собеседник»[5], падступае да тэмы з іншага боку. «Каб разабрацца ў якой-небудзь з'яве,— паведамляе ён,— да яе трэба падыходзіць не з «пазіцыі культуры і бескультурнасці», а з прынцыповых класавых пазіцый».

Што ж, давайце паспрабуем разабрацца, з якіх жа «прынцыповых класавых пазіцый» падыходзіць да ацэнкі з'явы сам аўтар.

«Мастацтва павінна быць блізкім і зразумелым людзям, а не






наганяць туман ідэйны, славесную бязглуздзіцу і выдаваць беззмястоўныя абстракцыі за палёт думкі,— вяшчае ён.—...Пра тое, «як не трэба жыць», ужо сказана аж занадта багата, а вось дзе б паслухаць пра тое, «як трэба жыць»? Адказу на пытанне «як трэба» ў нашых «разумных» рок-камандаў не знаходжу...»

Ну як не замілавацца, чытаючы непісьменныя меркаванні аўтара — «члена гарадскога студэнцкага клуба», як значыцца ў подпісе? Вось у чым, выяўляецца, прынцыповы класавы падыход: не толькі разжуйце, у рот пакладзіце, але і навучыце, як праглынуць! Жыць навучыце! «Пад гэтым лістом,— паведамляе Я. Краўцоў у пастскрыптуме,— падпісалася б мноства маіх сяброў і знаёмых, якія думаюць гэтаксама ж».

Тут я ўжо з аўтарам згодны. Прывычка шукаць гатовыя адказы на ўсе складаныя пытанні нашага быцця — гэта, мажліва, самая страшная спадчына, пакінутая нам камандна-адміністратыўнай сістэмаю, якая столькі гадоў прывучвала нас да таго, каб усё і ўсюды, у тым ліку і ў мастацтве, павінна быць дакладна раскладзена па палічках: тут — чорнае, там — белае. І ніякіх паўтонаў, ніякай недагаворанасці, ніякага падтэксту — інакш не мастацтва гэта, а так, «беззмястоўная абстракцыя».

А было ж ужо такое, было: гучныя абвінавачанні ў беззмястоўнасці разам з абвінавачаннямі ва ўпадніцтве, ачарніцельстве і спаўзанні з класавых пазіцый, пасля якіх аўтараў «абстракцый» надоўга адлучалі ад усялякай творчай дзейнасці. Потым, здаралася, што і каяліся перад імі — больш, праўда, тады, калі самога мастака ўжо і не было.

Так што неафіт ад крытыкі Я. Краўцоў, хоць і старанна вучыцца па старых жданаўскіх падручніках, але з трактоўкаю «класавага падыходу» да мастацтва зусім не арыгінальны. Было, некалі і Шастаковіча высакамерна вучылі, што ёсць галоўнае ў музыцы, і пісьменнікаў з сусветным іменем вучылі азбуцы. Усё гэта было...

Адно зусім ясна праглядвае за ўсімі гэтымі крытычнымі эскападамі: нястрымнае жаданне іхніх аўтараў павярнуць кола гісторыі назад, у тыя самыя прыемныя ім часы, калі не было ў нас не тое што року, які «ўлез, як злодзей, у акенца і пачаў сваю работу», але і «элітарнага мастацтва» (фільмаў Таркоўскага? музыкі Шнітке? карцін Шагала?). «Хто не з намі — той супраць нас!» І вось ужо нехта Б. Гунько з пафасам пытаецца ў «Нашем современнике»: «Ці ж не таму, у прыватнасці, не хварэлі на падобны авітаміноз юныя будаўнікі даваенных пяцігодак, і салдаты сорак першага года, і нават — я сцвярджаю гэта! — беспадстаўна рэпрэсіраваныя, што не былі так па-хрыстапрадаўніцку апляваны іх сцягі?»[6]

Улоўлівайце, па чым сумуюць бясстрашныя крытыкі року?

Па іх, па іх самых, па яжовых рукавіцах! Нібыта і ведаць не ведаюць, якім авітамінозам узнагароджвала сталіншчына мільёны людзей, што асмельваліся ісці не ў нагу з астатнімі, думаць не так, як вучыць «бацька народаў»...

Вось куды можа завесці паляванне на нячысціка! Так далёка, што і зусім не да музыкі стане.

---

[1] **Цытата даецца з захаваннем стылю першакрыніцы.**

[2] **Гл.: Бягун У. Свое и чужое.— Мн., Юнацтва. С. 28.**

[3] **Адна з плыняў масонства.**

[4] **Артыкул В. Чысцякова і І. Саначова «Троянский конь». С. 138.**

[5] **Краўцоў Я. Замкнуться в «прокуренной кухне».— «Политический собеседник», 1988. № 10. С. 29—30.**

[6] **Гунько Б. Две эстетики.— «Наш современник», 1988. № 10. С. 121—125.**



Джорджыа дэ Кірыка — 1917 год.

# СЕЗАМ, АДЧЫНІСЯ!

насцю дзіцяці, для якога кожны прадмет — таямніца. Творчасць Магрыта — гэта «не тая рэальнасць, якую ўяўляюць, а тая, якую можна ўявіць», рэальнасць, полюсы якой ён вызначае паняццямі «думка» і «тайна». «Тайна, — пісаў мастак, — зусім не адна з магчымасцей рэальнасці. Тайна абсалютна неабходная дзеля таго, каб рэальнасць існавала».

Палатно «Ключ да палёў» — на аскепках шкла выява таго ж краявіду, што за акном — ілюстрацыя да яго-ных слоў: «Менавіта такім мы бачым свет. Мы бачым яго вакол сябе і ў той самы час бачым ягонае адлюстраванне ў сабе. Такім чынам, мы іншы раз часам змяшчаем у мінулым тое, што адбываецца цяпер, тым самым час і прастора вызваляюцца ад трывіяльнага сэнсу».

Нямецкі сюррэаліст Макс Эрнст шырока выкарыстоўваў розныя прыёмы жывапісу: калаж, вынайдзены раней, фратаж і гратаж, прыдуманыя ім самім, дэкалькаманію, уведзеную ва ўжытак Аскарам Дамінгесам. Спосабам дэкалькаманіі (накладвання чыстага аркуша паперы на аркуш, толькі што пакрыты фарбаю) выканана прадстаўленая на выставе работа «Адзінокае дрэва і з'яднаныя дрэвы». Мастак любіў маляваць лес. Яшчэ ў дзяцінстве яго зачароўваў малюнак драўнянага зрэзу — ён нараджаў фантазіі, спрыяў яе гульні. Рэльеф драўлянае падлогі наштурхнуў Эрнста на адкрыццё метаду фратажу: ён прыклаў да няроўнасцей падлогі аркуш паперы і нацёр яго графітам — атрымалася копія драўнянае структуры. Гэтую тэхніку мастак выкарыстоўваў у графіцы, а затым і ў жывапісе, беручы самыя разнастайныя рэчы: манеты, лісты, радно... У фактуры матэрыялу ён шукаў нечаканы вынік, «аб'ектыўную выпадковасць».

Макс Эрнст нястомна ўводзіў ва ўжытак новыя метады, напрыклад тэхніку дрыпінгу. Амерыканец Джэксан Полак, адзін з лідэраў абстрактнага экспрэсіянізму, таксама стаў выкарыстоўваць яе. Ягонае палатно са збору Тысена — ілюстрацыя гэтага метаду «аўтаматычнага жывапісу»: распырскванне фарбы на палатне, раскладзеным на падлозе. Галоўная роля тут адводзіцца падсвядомасці: «Калі я знаходжуся ў працэсе творчасці, я не ўсведамляю, што раблю... — прызнаваўся мастак. — Толькі пасля пэўнага «перыяду азнаямлення» я бачу, што менавіта хацеў сказаць». Полак спасылаўся таксама на Платона, які лічыў, што кожная рэч мае ўласную ідэю, інакш яна проста не існуе. «Жывапіс дзеі» Полака — адзін з напрамкаў абстракцыянізму, заснаваны на фіксацыі жэстаў мастака, ягонай манеры працы над палатном.

Абстракцыянізм, магутны рух у выяўленчым мастацтве, вядомы савецкаму гледачу па карцінах суайчыннікаў: аднаго з заснавальнікаў абстракцыянізму Васіля Кандзінскага і стваральніка супрэматызму Казіміра Малевіча. На жаль, большая частка твораў Кандзінскага знаходзіцца за мяжою, у тым ліку ў калекцыі Тысена — некалькі цудоўных работ. Адна з іх — «Вакол лініі» — напісана мастаком у Парыжы ў 1943 годзе, за год да смерці.

Форму і колер Кандзінскі ўзвёў у абсалют. «Колер,— пісаў мастак,— гэта сродак, якім можна непасрэдна ўплываць на душу. Колер — гэта клавішы; вока — малаток; душа — шматструнны раяль».

Кандзінскі, як і ўсе прадстаўнікі абстракцыянізму, імкнуўся тэарэтычна абгрунтаваць свае прынцыпы. У 1910 годзе ён напісаў кнігу «Пра духоўнае ў мастацтве», дзе сцвярджаў, што аснова сапраўды новага мастацтва — вызваленне жывапісу ад выяўлення рэчы. У гэтай кнізе ён разглядаў духоўную сутнасць колеру, разважаў пра яго сімволіку. У другой кнізе «Кнопка і лінія на плоскасці» — пра лінію і форму.

Кандзінскі з 1922 года выкладаў у Баўхаўзе, інстытуце, заснаваным у 1919 годзе архітэктарам Вальтэрам Гропіусам у Германіі. Ён працаваў тут на працягу дзесяці гадоў да закрыцця гэтага архітэктурна-мастацкага цэнтра. Разам з ім выкладаў і швейцарац Пауль Клее, які таксама пісаў абстрактныя кампазіцыі. Яны пазнаёміліся яшчэ ў 1900 годзе, а праз дванаццаць гадоў Клее ўвайшоў у створаную Кандзінскім групу «Сіні вершнік».

Мастак — толькі медыум, настойваў Клее, праз якога выяўляе сябе ў мастацтве касмічны дух. Адсюль ягоная формула: «Знешні свет — карані дрэва, твор мастацтва — крона, мастак — ствол». Місія мастака — у стварэнні свету, які адрозніваецца ад таго, што вакол яго. Клее належыць славуты афарызм: «Мастацтва не ўзнаўляе таго, што мы бачым вакол сябе, яно робіць яго бачным». З глыбінь уяўлення мастак вынаходзіць матэрыял для стварэння свайго сусвету. На ягоных палотнах мы часта бачым месяц, зоркі, стрэлы, караблі, што плывуць, рупліва выпісаных выдуманых істот, якія нагадваюць рыб, птушак... Пашыраючы межы свайго фантастычнага слоўніка сімвалаў і знакаў, Клее далучаўся да многіх плыняў сучаснага жывапісу — ад кубізму да сюррэалізму. Гэта быў майстар, які валодаў вострым пачуццём лініі і колеру. «Колер валодае мною, — запісваў Клее ў дзённіку. — Колер і я адзіныя. Я — жывапісец!» Мастак імпэтна верыў, што мастацтва — гэта працэс, а не канчатковы вынік творчасці, што жывапіс можа перадаць рух і час. Прафесійны скрыпач і знаўца музыкі, ён шукаў у ёй эквівалент выяўленчаму мастацтву. Клее называлі «Моцартам жывапісу».

Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар. вокладкі





Хуан Міро — 1928 год.

Стваральнікамі геаметрычнага абстракцыянізму лічаць Казіміра Малевіча і галандцаў Піта Мандрыяна і Тэа ван Доўсбурга. Нішто не прадвяшчала, што 36-гадовы Мандрыян, які пісаў традыцыйныя пейзажы, стане рэвалюцыянерам у жывапісе. Геаметрызацыя выявы, звядзенне яе да гарызанталяў і вертыкаляў — асноўных каардынатаў архітэктуры — вось прынцып мастака, які стварыў новы выяўленчы стыль — неапластыцызм. Кампазіцыі Мандрыяна — мазаіка з найпрасцейшых геаметрычных формаў: квадратаў, прамакутнікаў, акрэсленых контурам, напоўненых чыстым колерам. «Вертыкалі і гарызанталі — выяўленне дзвюх узаемапроцілеглых сіл; гэтая раўнавага процілегласцей існуе ўсюды і падпарадкоўвае сабе ўсё»,— сцвярджаў мастак.

Мастак і паэт, сябра Маякоўскага, «бацька рускага футурызму», адзін з заснавальнікаў таварыства «Бубновы валет» Давід Бурлюк карыстаўся ў свой час шумнай вядомасцю. У ягонай карціне «Пейзаж» (1912) — рысы экспрэсіянізму, блізкія да творчае манеры Кандзінскага і мастакоў групы «Сіні вершнік» у Мюнхене. Ягоны брат Уладзімір Бурлюк захапляўся неапрымітывізмам, які распрацоўвалі ў гэтыя гады Наталля Ганчарова і Міхаіл Ларыёнаў.

«Руская сялянка» Уладзіміра Бурлюка і «Рыбная лоўля» Наталлі Ганчаровай бяруць пачатак у народным лубку. Эфрос пісаў пра Ганчарову: «Гэтая піша ўсё роўна, як воз гаршкоў вязе. Сілы ў яе цераз край, уся яна моцная, ядраная, вынослівая, задзірлівая і жвавая».

Вользе Разанавай, наадварот, неўласцівыя грукат і раз'юшанасць футурыстычнага разбурэння. За сваё кароткае жыццё яна прайшла шлях ад захаплення кубізмам, футурызмам, супрэматызмам, пісала абстрактныя кампазіцыі, маляўнічыя і манахромныя. Мастачка і паэтка, Разанава афармляла кнігі футурыстаў, разам з Аляксандрам Родчанкам багата сіл аддала прыкладному мастацтву. «На фабрыкі, на заводы, у прамысловыя школы і майстэрні!» — такі быў рэвалюцыйны заклік мастакоў, якія распрацавалі грандыёзную праграму развіцця мастацкае прамысловасці.

На выставе мы знаёміліся са стварэнным Ларыёнавым «прамянізмам», які Гіём Апалінэр назваў «цудоўным эстэтычным адкрыццём», і з айчыннымі беспрадметнікамі: Любоўю Паповай, Іванам Пуні, Іллёю Чашнікам, з іх максімальнай эканомнасцю выяўленчых сродкаў, працейшымі геаметрычнымі формамі — квадратам, трохкутнікам, кругам — сімваламі «вечнага нішто», з іх імкненнем да архітэктуры, прыкладнога мастацтва.

Сёння, калі з адлегласці ў паўстагоддзя мы акідваем позіркам каласальную і стракатую мазаіку мадэрнізму, які стаў сімвалам XX ст. мы заўважаем унутраную роднасць самых розных яго напрамкаў, якія пасвойму адлюстравалі складанасць і драматызм эпохі.

Мастацтва інтэрнацыянальнае. Яно не залежыць ад межаў і палітычных сістэм. Мастакі дыхаюць адным паветрам, адлюстроўваюць адзін час, ягоныя сполахі і зацьменні. Рэвалюцыя ў мастацтве, пачатая ў першых гадах нашага стагоддзя, стала сусветнаю, і радасна ўсведамляць, што і нашы мастакі ішлі ў яе авангардзе. Іхні ўклад у сучаснае мастацтва вялікі, гэта выклікае гонар за Айчыну. Але як мы распарадзіліся нашым багаццем?! Будзем жа ўдзячныя замежным калекцыянерам — Г. Кастакі, Г. Г. Тысену, А. Хамэру за тое, што яны захавалі за нас і для нас частку гэтага багацця.

**Ала ГРАЧОВА**



Тэа ван Доўсбург — 1918 год.



КАШКАРАЎ А. «Свята катоў»



ХМЫЗНІКАЎ Д. «Двор»

Андрэй
РАДЗІВОНАЎ

# СВЯТА Ў ШКОЛЕ

## «ПОНІ-БАШ—88»

## НАТАТКІ НАСТАЎНІКА

12 кастрычніка 1988 года ў Рэспубліканскай школе-інтэрнаце па музыцы і выяўленчым мастацтве імя Ахрэмчыка адбылося адкрыццё невялічкай выставы пад назвай «ПОНІ-БАШ — 88». Назва паходзіць ад прозвішчаў удзельнікаў, «ПОНІ» — Шапо Алесь, Хмызнікаў Дзіма; «БАШ» — Эдзік Бохан, Алесь Кашкараў. Тры жывапісцы, адзін разбяр. Тры з іх у 11-м класе, адзін — у 10-м. Я звярнуўся да іх ужо пасля выстаўкі і не як выкладчык, а як чалавек, якому проста спадабаліся палотны і скульптуры. Як высветлілася з размовы, ідэйна выстава аформілася ўжо ў 10-м класе, але «па тэхнічных прычынах» не атрымалася яе правесці. На пытанне: «Чаму абраны менавіта такі кірунак?» — хлопцы адказалі, што цікавіцца авангардам пачалі раней, але ў чыстым выглядзе авангарда для іх не існуе, што проста ёсць добрыя і благія мастакі, і што «ПОНІ-БАШ» — гэта вобраз іх думак. Доўга не думалі і над пытаннем «У каго б хацелі вучыцца?». У настаўнікі адразу былі запісаны Босх, Брэйгель, мастакі ранняга Адраджэння. Шапо не адмовіўся б папрацаваць з афрыканскімі разбярамі і наведаць Мірана ў Грэцыі. Ну, і безумоўным для ўсіх быў пачатак XX стагоддзя, так моцна, па іх словах, насычаны мастакамі-настаўнікамі.

З усіх асноўных прадметаў «ПОНІ-БАШ» вылучаюць кампазіцыю, бо, на іх агульную думку, малюнак з жывапісам — анахранізм, а кампазіцыя — думкі прыгожых формаў. Тое, што да формы ставяцца з павагай, можна прасачыць і на акадэмічных кампазіцыях Шапо з Хмызнікавым, і на перыядычнасці, згодна якой голяцца іх галовы. Яны пішуць вершы. Любімыя паэты — Маякоўскі, Уітмен, Багдановіч. Ім падабаюцца Бах, рок і Моцарт. Але для адкрыцця «ПОНІ-БАШ» музыка была непатрэбная, бо, як было напісана ў іх маніфесце, «Мир спасет музыка наших холстов!». Маніфест меў назву «Адмиралы сожженных материков». Цытую два сказы: «Соцреализм умер! Мы утверждаем это, стоя на его обломках!» Канечне, на першы погляд занадта рэзка і многім не даспадобы. Але аўтары не адмаўляюць рэалізм увогуле. Яны выступаюць супраць той яго часткі, якую не могуць зразумець. Між іншым, я таксама не разумею і не падзяляю памеры, пафас і мастацкасць сацрэалізму 30—70-х гадоў. Дарэчы, Надзея Канстанцінаўна Крупская пасля 1924 года неаднойчы прыгадвала нашым партыйным лідэрам, у прыватнасці Луначарскаму, што Ленін, калі гаварыў пра партыйнасць, меў на ўвазе толькі партыйную публіцыстыку[1]. Але «наш бацька» ведаў, што рабіць, і таму значная частка нашага сацрэалізму не адпавядала настрою рэчаіснасці і была папросту прадажнай. Узгадаем, напрыклад, колькасць і памеры карцін са скульптурамі вакзальна-пляцовачнага тыпу сталінскіх сустрэч і прагулак, Налбандзянаў, Шылавых, Глазуновых...

Дык хіба не маюць рацыі нашы школьнікі, калі з'яўляецца жаданне зламаць такому рэалізму форму, не пагадзіцца з ім і не разумець яго? Ці мала сёння ў іх падстаў для гэтага?

А хто перакрыў шлях савецкаму авангарду і рэалізму 20-х, як не сталінскі монстраізм? Хто задушыў футурызм Маякоўскага і разбіў рэвалюцыйныя канструкцыі Татліна і Малевіча? Каб потым доўга стаяць і пасля бясконцага сну «народных благосостояний» зноў вяртацца да жыцця, але пры гэтым асцярожна называць авангард «модным», бо ў свой час ён быў надоўга забаронены. Дык што, можа, яшчэ рана думаць аб авангардзе? Канечне, карцінка не новая, выпрацаваная гадамі і вельмі надзейная. У школе рана! У інстытуце рана! А далей усё робіцца нармальна зразумелым. Але праблема ўсё ж застаецца. Што рабіць з вучнем, які з 9-га класа самастойна пачынае цікавіцца пазапраграмным, тым, што доўгія гады называлася буржуазным і таму было забаронена?

Ці мае права выкладчык «біць па руках» і забараняць? Мне гэта здаецца педагагічнай памылкай. Можна не перашкаджаць. Але ёсць і другі варыянт. Стаць побач і дапамагчы зразумець метад, стыль або эпоху, якая цікавіць, і паралельна з акадэмічным заданнем увесці «новае». Я за такі варыянт, бо лічу, што так будзе больш справядліва і ў адносінах да вучняў, і ў адносінах да мастацтва. І што больш разнастайны і глыбокі падыход да колеру, кампазіцыі і формы не пашкодзіць нашаму школьнаму «акадэмізму», а, наадварот, упэўнены, зробіць яго больш якасным і выразным.

На самай справе, хутка канец XX стагоддзя, а нашы студэнты і вучні так і не ведаюць сучасных стыляў мастацтва. Бо ў інстытуце таксама не прынята выкладаць адваротны бок медаля. Хаця многія студэнты ўсё ж карыстаюцца ім, але, на жаль, і з іх не кожны здольны назваць, што гэта такое і як называецца.

На маю думку, можна нешта прымаць або не прымаць толькі тады, калі ты ведаеш, што гэта. А каб зразумець штосьці новае, мала пачытаць, паслухаць, трэба паспрабаваць яго зрабіць самому.

І «ПОНІ-БАШ» паспрабавалі. А мы павінны падтрымаць школьнікаў і зрабіць так, каб такія рэдкія нечаканасці сталі нашай нормаю.

Вядома, гэтая невялічкая выстава чатырох — з'ява ў мастацтве не новая. Але для школы імя Ахрэмчыка — падзея, на мой погляд, даволі значная і вельмі нечаканая. Нечаканая яна і для мяне, былога вучня. Летась школа святкавала сваё 25-годдзе. І за гэты тэрмін, наколькі мне вядома, нічога падобнага не было. Справа тут вось у чым. Выставу рыхтавалі не як заўсёды, пад кіраўніцтвам выкладчыка, а самастойна — самі вучні. Больш таго, усё рабілася тайна. Але наш інтэрнат — не месца для тайнаў, таму чуткі ўжо хадзілі па яго кутах задоўга да адкрыцця выставы. І вось ужо перад самым адкрыццём у кабінеце дырэктара мяне пытаюць: «А як гэта вы, выкладчык, не ведаеце, што рыхтуюць вашы вучні? Вы не пацікавіліся, а яны не расказалі? Мы, напрыклад, былі б пакрыўджаныя!» Я адказаў, што не крыўдую на Хмызнікава са сваёй групы і, больш таго, не імкнуся падглядзець, што там за сакрэт. Але пераканаць адміністрацыю ў тым, што, калі рыхтуюць падарунак, не гавораць наперад які ён будзе, не атрымалася. Кожны застаўся пры сваіх думках. А што думаюць на гэты конт самі дзеці? А дзеці заўсёды супраць звычкі недаверу, якая прымушае адміністрацыю паўсюль шукаць небяспеку. А раптам там штосьці такое!.. Ці які кубізм? А мы недагледзелі. Інструкцыі ж па мастацтву ў нас няма, але затое насцярожанасць ёсць. А ў канчатковым выніку выпускаецца «обученная беспомощность»[2]. Ні хвіліны сам-насам, і каб ніводнай «белай вароны».

Дык ці патрэбная такая насцярожанасць да свята? Не! Патрэбна свята. І свята атрымалася. Па-мойму, дастаткова было паглядзець на агульную радасць на адкрыцці, на вочы арганізатараў, каб усё стала зразумела.

«Ці задаволены самі тым, што зрабілі?» — пытаю ўдзельнікаў. У адказ у адзін голас: «Так! Нягледзячы на маленькія тэхнічныя цяжкасці арганізацыі, накшталт таго, каб два тыдні чакаць ад завуча фіранкі на вокны і потым усё ж такі заклейваць іх паперай, каб учатырох выскабліць ад фарбы і крэйды жахлівую падлогу...» (А у нас усё праблема прымусіць прыбіраць майстэрні!) Далей. Школьная выстаўка была непраграмнай, спрэчнай і, безумоўна, не шэрай са сваім смелым (з выпраўленымі памылкамі) маніфестам. Здавалася б, усё для закліку на спрэчку. Вось дзе самы раз пацікавіцца, паслухаць, выказацца. Але ўсё ў лепшых балотных традыцыях. Навошта абмяркоўваць, дарослым і так усё зразумела. Незразумелая толькі абыякавасць, пасля якой шукаем разуменне. Я не крытык, і разгорнуты аналіз прац для мяне не галоўнае. Але многае з таго, што рабілі хлопцы, мне спадабалася, а для тых, хто быў на выставе і не ведае, дзе, напрыклад, можна было б вывесіць іх работы, з задавальненнем падкажу: у любой бальніцы нашага горада, нават у радзільным доме для сардэчнікаў, дзе акрамя сцен, адважна пафарбаваных у шызафрэнічна-зялёны колер, больш нічога няма. І менавіта там мандрыяна-хмызнікаўская сетка «Ціхая радасць», «Дворык» або «Кашачае свята» з «Парасонамі», як нідзе, адыгрывалі б сваю функцыю — быць лекамі і будзіць самыя добрыя і прыемныя пачуцці.

Пэўна ж, у сваім маніфесце школьнікі не першыя ператвараюць рэкі ў блакітную «ФЦ», але яны першыя ў сваім інтэрнаце, хто самастойна зрабіў маленькае свята для ўсіх, першую спробу выказацца без дапамогі.

Вось чаму я вырашыў падтрымаць «Адмиралов сожженных материков» і звярнуўся ў рэдакцыю часопіса «Крыніца», каб надрукаваць творы школьнага вернісажу.

---

[1] Гангнус Аляксандр. На руинах позитивной эстетики.— «Новый мир». 1988, № 9. С. 158.

[2] Бітаў А. Пушкинский дом.

БОХАН Э. «Парасоны»



ХМЫЗНІКАЎ Д. «Натуршчыца»





*Было. Былі. Была!*
*Мне маска не да твару.*
*Я тая, што прайшла*
*Трагедыяй пажару*

*І жар сухой вярсты*
*Да сэрца прытуліла,*
*Хоць за сабой масты*
*Ўсе — начыста! — спаліла.*

*У полымнай журбе,*
*Дзе шлях з вачэй знікае,*
*Я тая, што цябе*
*З усіх вятроў чакае.*

*Як град шалёна б'е,*
*Нібыта травы косіць.*
*...Я тая, што ў цябе*
*Палёгкі не папросіць.*



# Яўгенія ЯНІШЧЫЦ

## ВАМ!..

*Нібы рэха ў далёкіх гарах,*
*Я вагання лаўлю амплітуду.*
*...Вы, што з праўдай на слізкіх губах,*
*Прынародна! — пабойцеся люду.*

*Адмысловы вянец і фасад,*
*Але вее труха і палова.*
*Вы, што ўжо прыраслі да пасад,—*
*Абясцэнілі клятву і слова!*

*Ані кроку. Ні кроку назад!*
*Што з таго, як ні кроку — наперад?*
*Адмысловы вянец і фасад —*
*Брацкі могільнік зжоўклай паперы.*

*Ценю бойся: а раптам Варлам,*
*А у храме — махлярская крама.*
*Вы, што знішчылі вернасці храм,*
*Павярніцеся тварам да Храма!*

## НАД ХРОНІКАЙ 30-х ГАДОЎ

*Які разгул шалёным капытам,*
*А здзекаў жах, нібы ў сярэднявеччы!*
*І Д'ябал у Суддзі перапытаў:*
*— Таленавіты? Значыць, небяспечны!*

*Ці не з жалезнай д'яблавай рукі*
*Пісьменнікі запісаны ў шпіёны?!*
*Ужо ляцелі кнігі на шматкі,*
*І граззю пакрываліся імёны.*

*Ужо вучоны кроў сваю глытаў,*
*Бяззубы ў сорак, шмыгаў па-старэчы,*
*А Д'ябал у Суддзі перапытаў:*
*— Не размаўляе? Значыць, небяспечны!*

*Даносчыкам да твару ліпкі бруд,*
*Пры дапамозе іхняе брыдНечы*
*Выносіліся словы, як прысуд:*
*«Таленавіты — значыць, небяспечны!»*

*Паміж травы трагічнай і груддзя*
*Стаю ў журбе і думаю аб вечным:*
*Таленавіты — сам сабе суддзя,*
*А для паскуд — заўсёды небяспечны.*

## ЧАША

*Ад бяды суровай — да бясстрашша,—*
*Толькі вочы ў неба падымі!*
*...Ды стаіць перада мною чаша*
*З кроўю і салёнымі слязьмі.*

*Дзе ж твая, народзе, ўсемагутнасць? —*
*У палоне, у патоку слоў?*
*Колькі часу думаю пра сутнасць,*
*Так і не прыйшоўшы да высноў.*

*Горка на чарнобыльскім Палессі,*
*Хоць збірай майно на Калыму,*
*Наступіць на горла ўласнай песні?*
*А за што, прабачце, і чаму!*

*Жураўы гуртуюцца журліва,*
*І чарнее корань у сасны.*
*Бачу, як хістаецца жахліва,*
*Як трымціць на вагах шар зямны.*

*Як дрыжыць сляза ў вачах сірочых,*
*Як гудзе агонь на небясі.*
*...«Калі толькі можаш, Ойча,*
*Чашу гэту міма пранясі»![1]*

## АПОШНІ АПОСТАЛ

*«Няўжо й цяпер патонеце ў бяссіллі*
*І след пакрые жорсткая трава...*
*На згоне кроз, на цёмным небасхіле,*
*Куды, на схіле,— ваша галава?*
*Я пра парадак звычны, а не новы:*
*О колькі іх прапала ў мітусні!..»*

*І мігам павярнуліся галовы*
*На голас, што пачуўся з глыбіні.*

*Падціснуў нехта хвост юрлівай*
*кошцы —*
*І мацалі прайдохі кашалі...*
*На шахматнай узорна-труднай дошцы*
*Другіх часоў ігралі каралі.*

*О гэтыя найграныя усмешкі*
*І пальцы ў кіпцях хвацкіх крумкачоў!*
*А ў наступ шлі адны, бадай што, пешкі,*
*Апешыўшы шаноўных гледачоў.*

*«Няўжо й цяпер патонеце ў бяссіллі?»*
*А дзень світаў у змроку на мяжы,*
*І чортава усіх круціла сіла!..*
*І рагатаў апостал на крыжы.*



Хто і калі пазнаёміў нас?.. Дзе?.. Ці мы самі пазнаёміліся?.. Успамінаю — і ніяк, і ні за што не можа зачапіцца памяць ні ў прасторы, ні ў часе. Аніякай мяжы з таго боку, аніякага дня. Там нібыта нябыт, але няхай сабе так яно і застаецца, не ўспомніцца — з гэтым няцяжка зміpáыцца. Куды цяжэй зміpыцца з думкай, прывыкнуць да падрабязнай памяці пра тое, што з другога, з процілеглага боку нябыту, які дакладней было б назваць вечнасцю, і дзень быў прабіў, і пралягла мяжа...

Калі я кажу цьмяна і невыразна, дарма намагаючыся давесці тое, што словамі не выказваецца, тады ўявіце:

з фотакарткі, на якой вы бачыце Яўгенію Янішчыц, яна, Жэня, на вашых вачах раптам сышла назаўсёды, пакінуўшы над сабою акенца ў зорна-чорнае неба, дзе з двух бакоў шчыльна самкнуліся, спрасаваліся нябыт і вечнасць. І ўявіце яшчэ, што там, на рубяжы, дзе яны самкнуліся, засталася толькі кардыяграмная лінія чалавечага лёсу, шляху паэта — як след зламанай маланкі...

Можна, вядома, і прасцей сказаць: са стратай Яўгеніі Янішчыц у нашай паэзіі... Але горла сціскае.

*«Вунь першая хмара павісла бянтэжна Над краем. Легальна зусім і зусім незалежна Знікаю. Вось першая кропля апала над борам, Над гаем. З гасцінных канапаў і з пышных убораў — Знікаю. Знікаю з усмешак на тварах ліслівых, Няверных. Знікаю. Хай будзе на момант шчаслівым Той бераг, Дзе мроя збылася, дзе кветка ўзнялася, А явы не стала. Знікаю, пакуль я сама у сабе не знайшлася Цвяроза і стала. Вунь нечая зорка, начная ільдзінка плыве па-над гаем. З люстэркаў усіх і з усіх фотаздымкаў — Знікаю, Знікаю...»*

У светла-азяблай, як верасёвая рака, кнізе «Ясельда», дзе

*«Над полем, над гасцінцам, Мінаючы зямлю, На тонкай павуцінцы Адчайнае «люблю»,—*

слова «з н і к а ю» яшчэ не набывае вечнага, незваротнага сэнсу. Тут пакуль звычайныя ўцёкі, ч а с о в а е знікненне, але ўжо відно, што яно на адных вагах з незваротнасцю, якая ў наступных кнігах — «На беразе пляча», «Пара любові і жалю», «Каліна зімы» — стане ўсё больш пераважаць. Намаганні асілка неабходныя былі для таго, каб супакоіць расхістаныя вагі — і вось сведчанне гэткіх намаганняў:

*«Я так над пакутай шчырую і так над свабодай лячу, Як быццам адолець сырую І мёртвую глебу хачу».*

Не адолела. Не стала сіл. Не дапамаглі, як маглі б. І нехта. І сябры-таварышы. І я сярод іх.

*«Друг далёкі, што з табою? Не чутно. І не відаць. І апроч*

## АНТЫФОН [2]

*Цяпер — нябачна і далёка,*
*Як дым нейтральнай паласой.*
*Навошта ўзяў яе так лёгка*
*І ў славе выкупаў сваёй?*

*А ці капрызы меламана*
*Сыгралі лепшы свой настрой?..*
*Дзе гнеўны дух, дзе смех вулкана,*
*Дзе непадкупны геній твой?*

*Як плошчаю пасля парада,*
*Ідуць аціханыя дні.*
*Дзе — тройчы горасная праўда*
*Тваёй балючай вышыні?*

*Ты скажаш мне: жыццё, што карта,—*
*Не дзеля складнага слаўца.*
*Яна й пяты тваёй не варта.*
*А ты шчаслівы. Да канца.*

## КАЛІНА ШУКШЫНА

*Суцішыцца, нахмурыцца, нахлыне*
*Той пракаветна блаславёны міг*
*У гордае шукшынскае каліне,*
*Што па-зямному днела на дваіх.*

*А ціш не паспяшаецца з адказам...*
*Здалося, цэлы свет да іх прывык.*
*Ах, як яны спявалі ў пары разам!*
*(Ён быў яе і муж, і праваднік.)*

*Што ж кадры запаволены ў трывозе,*
*Што ж горка, як у сцішаных палях?*
*Яшчэ баліць народнае дарозе*
*Яго былінны голас і размах.*

*А розум не правесці на мякіне,*
*Не заглушыць патлатым віскам слых.*
*...Яшчэ шчыміць надломленай каліне*
*Яго апошне-нечаканы ўздых.*

*Ёй той, хто бег ад бруду і бравады,*
*Ды час не за гарамі паўстае:*
*Паэт у самым лепшым сэнсе праўды!*
*Дзе другі і паплечнікі твае?*

*Няўжо і брат не пазнае ўжо брата,*
*Няўжо былінпай песні — грош цана?*
*...Як жудасна: жанчыну-бюракрата*
*Іграе сёння жонка Шукшына!*

## ФЕДЭРЫКА ГАРСІЯ ЛОРКА

*Здрыгануўся балкон*
*Праз дажджынкі касыя.*
*Можа быць, гэта сон*
*Федэрыка Гарсія?*

*Можа, гром у гарах*
*Прагучаў стоязыка...*
*Можа быць, гэта птах,*
*Гэта ўзлёт, Федэрыка?*

*Толькі песня з табой,*
*Толькі страсць і жаданне.*
*Сёння прыйдзе канвой,*
*Каб закрэсліць світанне.*

*Не змагчы аднаму*
*Адзіноты пачвару,*
*Зараз прыйдзе...*
*Таму*
*Ты настроіў гітару.*

*Хай заплача пра край,*
*Запяе пра ўлюбёнца,*
*Апельсінавы гай*
*Запаліў свае сонцы.*

*Жыць — як плыць праз раку,*
*Не адчуўшы бяссілля...*
*Дай, Гранада, руку,*
*Вышай голаў, Севілья!*

*Рэзка ўздрыгнуў курок.*
*Дзе ж прарок? Дзе — Месія?*
*Абрываецца крок...*
*Федэрыка...*
*Гарсія...*

*Хто павернецца стуль —*
*Воран чорны ці хмара?*
*Ды чакае й дасюль*
*На балконе гітара.*

[1] Радкі Б. Пастарнака.

[2] Антыфон (грэч. музычны тэрмін) — насуперак гучанню.



*сябе самое. Мне няма з каго спытаць».*

Я разумею, што падуладны зараз пачуццю запозненай віны, што менавіта на яе сураву нітку нанізваю і вершы і ўспаміны — свае і чужыя. Але нічога не зробіш, вельмі ж нядаўняе ўсё... І што ёсць — тое ёсць, і што было — тое было.

Яна мела звычку «знікаць», пакідаць непрыкметна кампаніі, нікому і нічога не тлумачачы. На гэтую звычку, як цяпер відавочна, трэба было б звярнуць асаблівую ўвагу, а да яе з часам рытуальна прызвычаіліся. «Дзе Жэня?..» — «Як звычайна, пайшла».

Так яна знікла аднойчы з кампаніі ў нумары маскоўскага гатэля, дзе не стала некалі Купалы. Адзін з блізкіх ёй людзей занепакоіўся — і адшукаў яе на высозным балконе, амаль сілком пацягнуў назад, на што яна сказала: «Пакінь. Тут я гэтага не зраблю. Я зраблю гэта ў іншы час і ў іншым месцы».

Шмат гадоў яна жыла на першым паверсе. На паверсе ж восьмым новую сваю кватэру нават абставіць як след не паспела. І дзень нараджэння ў ёй чамусьці не стала справіляць...

*«Жывіце і любіце. Свой беражыце дом. Як птушку у блакіце, Мяне застане гром. Зямля — мая калыска, Табе адной відаць, Што немагчыма нізка Ні падаць, ні ляцаць».*

І тут усё — адно да аднаго. Хоць можна было б і інакшыя вершы згадаць.

А вонкава яе жыццё выглядала, што называецца, на зайздрасць і на дзіва. Прыгожая — і не проста прыгожая, а ўзнёсла, грацыёзна, нібыта не сялянскае яна дзяўчо, а князёўна, блакітная кроў. Таленавітая — і не проста таленавітая, а пазначаная боскім дарам. Пры славе, у еўропах і амерыках бывала, лаўрэат высокіх прэмій, заўсёды на відавоку...

Душа яе не хацела і не магла жыць па звыклых законах большасці. Як гэта ні банальна.

Я не думаю нават, што ёй шчасна жылося, хораша пачувалася ў паэзіі. Бо яна была абраным, сапраўдным паэтам. Гэта староннім і выпадковым дазваляе Паэзія балбатаць пра творчыя радасці. А абраннікаў сваіх раўнуе і мучае. З дня ў дзень, з ночы ў ноч. Да безвыходнасці...

Зрэшты, застаўся і зараз нацягнутым шнур на балконе, на які вешала яна ў той дзень, у тую раніцу памытую кашулю сына; таму можна ўсё ж думаць, што аступілася, нахілілася неасцярожна, выпадкова сарвалася... Няхай бы яно так і было.

*«Жыццё маё, і там, на схіле, Ты ўсё — загадкавы палёт».*

Няхай яно так і будзе.

Уладзімір НЯКЛЯЕЎ







# ЗАЛАТАЯ ГОРКА

Заканчэнне. Пачатак на стар. 11



Віцю і ўзяць грошы... Яна жыла ў Архірэйскай Слабодцы. Цягнуцца туды пешшу праз горад і парк Скарга не рызыкнуў. Ён перайшоў вуліцу, пастаяў ля пад'езда гасцініцы «Адэса» і праз некалькі хвілін сядзеў у свабоднай пралётцы. Адразу звярнулі на Магазінную [19], з яе — на Скобелеўскую [20], каля парку пераехалі Свіслач, а далей, па Слабодцы [21], Скарга вырашыў прайсціся. Рыпеў пад нагамі драўляны тратуар, і рыпеў вельмі прыкра, палохаючы. За восем месяцаў шмат што магло тут памяняцца: і дом мог згарэць, і Віця магла з'ехаць, і хто-небудзь мог пакапацца на гарышчы. Дай бог, каб не паліцыя. Бо калі б паліцыя знайшла партфель, дык і бязвінную Віцю пасадзілі б за саўдзел у эксе, ці паздзекваліся б з яе Астровіч з Новакам, як з Вольгі. Сярод пакутлівых уяўленняў, якія не давалі спакою Скаргу ў камеры, было і такое . вобыск у Віці, паліцэйскія лезуць на гарышча.

Дом быў зачынены, але ключ, як і раней, ляжаў за шалёўкай. Гэта азначала, што Віця на працы, а магчыма, падумаў Скарга, азначала яшчэ, што ключ чакае яго, прызначаны яму, менавіта яму. Ключ за шалёўкай — знак чакання. У сенях ён паставіў на стол табурэт, адкрыў лаз у столі і забраўся на гарышча. Ступаючы па бэльках, ён дайшоў да коміна, адмераў ад яго паўсажня і пачаў раскопваць пласт попелу, перамешанага з пяском. Партфель быў на месцы. Скарга радасна ўсміхнуўся. Ён адчыніў партфель і пералічыў пачкі: пачкаў было адзінаццаць, а грошай у іх — дзевяноста дзве тысячы. Ён распіхаў іх па кішэнях, закінуў партфель у кут, зараўняў раскапанае ўцяпленне і спусціўся ўніз. Тут ён загарнуў грошы ў ручнік, перавязаў матузком і схаваў пакунак у саквояж.

Потым ён паблукаў па пакоях, разглядваючы фотаздымкі Віці, яе бацькі, які жыў у Варшаве, і маці, даўно памерлай. Нічога ў жыцці Віці быццам не змянілася, але яго жыццё стала іншае. Скарга з журботнай яснасцю ўсведамляў, што ён сюды не вярнуўся — ён сюды забег. І, пэўна, добра зробіць, калі наогул не пакажацца на вочы Віці. Што можа прапанаваць ёй ён, збеглы палітычны злачынец, якому за ўцёкі, напад на наглядчыка, гвалт над доктарам, крадзеж зброі дадуць сорак гадоў катаргі? Калі, зразумела, схопяць. Калі не схопяць, ён будзе жыць на нелегальным становішчы, але гэта, зноў жа, жыццё пад пагрозай штодзённага выкрыцця. Нашто Віці несці такі крыж? І самы лепшы варыянт — з'ехаць у эміграцыю. Калі пусцяць, калі камітэт дасць грошы і адрасы. Невядомасць ахутвала будучыню, і якімі словамі запрасіць у гэтую невядомасць маладую жанчыну, Скарга не ведаў...




Ён зачыніў дзверы і паклаў ключ за ліштву. Да сустрэчы з Антонам заставалася дзве гадзіны. Разгульваць па горадзе, трымаючы ў руках сотню, Скарга не асмеліўся. Ён успомніў пра старога. Праз паўгадзіны ён апынуўся на Праабражэнскай [22], ныр-

нуў у падваротню, папятляў у лабірынце павецяў і выйшаў на Багаяўленскую каля кніжнай крамкі. Зірнуўшы ў акно, ён убачыў старога і дзяўчыну ў капялюшыку. Гэта яго супакоіла. На рыпенне дзвярэй дзяўчына павярнулася. Светленькая сукенка і капялюшык з белай стужачкай нагадалі яму Вольгу ў дзень іх знаёмства на Прывакзальнай плошчы. Ён, Пан і Святы ў чырвоных кашулях пад пінжакамі праштурхваліся да трыбуны. І ён звярнуў увагу на прыгожанькую дзяўчыну ў светлым жакеце на светлай сукенцы. Раптоўна з пераходнага моста, занятага салдатамі, грымнуў залп. Адчыніліся буфетныя вокны вакзала, высунуліся рулі вінтовак і таксама выбухнулі залпам. Тысячны натоўп людзей рынуўся ў вузкія вулачкі, дзе заслоны з гарадавых расстрэльвалі іх ва ўпор. Пачала страляць рота ад дэбаркадэра, і Вольга ў сваім светлым жакеце і светлай сукенцы кідалася пад перакрыжаваным агнём, як жывая мішэнь. Ён ірвануўся да яе і зваліў на брук. Расстрэл цягнуўся хвілін дзесяць. Навокал стагналі параненыя. Нарэшце стрэлы змоўклі. Яна ўбачыла на ім чырвоную кашулю і закрычала — ёй здалося, што ён заліты крывёй і памірае. Ён адказаў, што чырвоныя кашулі носяць эсэры, бо чырвоны колер — колер народнай крыві. Яе калаціла ад жаху; ім прыйшлося ступаць у крывавыя лужыны, яна самлела. Ён данёс Вольгу да чыгуначнай царквы, дзе ёй далі панюхаць нашатыру. Потым ён правадзіў яе дадому, у Грыгор'еўскі завулак, і яны пачалі сустракацца. А потым яна ў яго закахалася, а ў яе закахаўся Белы, а ён пакахаў Віцю, а Белы, не ведаючы пра Віцю, знемагаў ад рэўнасці. Шкадуючы сябра, ён пачаў пазбягаць Вольгі, а яна, наадварот, яго шукала. Выпадак звёў іх у канцы, калі ён ехаў у дэпо. Дажджыла ў той вечар, халодны вецер біў у твар, ён спяшаўся, а Вользе не хацелася з ім расставацца. Дэпо пачыналася за пераездам, а Грыгор'еўскі завулак размешчаны перад ім. Вольга прайшла лішнія сто метраў...

Дзяўчына разлічылася за набытую кнігу Сянкевіча і пакінула крамку. Стары зачыніў дзверы і паклікаў Скаргу за перагародку, дзе стаялі вузенькі тапчан, стул і глыбокія паліцы з кнігамі. Скарга адчуваў да старога пяшчоту. Стары даводзіўся яму сваяком, ступень сваяцтва цяжка было вылічыць, але яно захоўвалася ў сямейным паданні. Сваяцкасць гэтая ажыла для Скаргі летам пятага года, калі ён вяртаўся з Маньчжурыі цягніком Чырвонага Крыжа. Старога ён успомніў на Чыцінскай станцыі — дзесьці недалёка пан Вінцэсь адбыў тры гады катаргі і сем гадоў ссылкі. Столькі каштавала яму стычка з казакамі пад Ігуменам у шэсцьдзесят трэцім годзе. Прыгадваць мінуўшчыну ён не любіў, ніводнай палітычнай партыі не верыў, бо лічыў, што ўсе яны замяняюць сэнс мэтай, а да сваіх сяброў ставяцца як да сродку дзеля дасягнення мэты. «Ну і што вы пабудуеце? — казаў ён.— Новую дзяржаву? Без гвалту і прымусу? Хрыстос не змяніў, куды ўжо тым, што з наганамі». Неабходнасць змагання ён прызнаваў, бо і Хрыстос змагаўся. Але ў перамогу не верыў. Барацьба і вынікі, на яго думку, былі злучаны крывакаленным механізмам. Пан Вінцэсь быў высокага росту, грузны, сівы, выглядаў старэйшым за свае шэсцьдзесят пяць гадоў, і словы ягоныя Скарга да турмы ўспрымаў як узор старэчага нежадання мяняць звыклыя абставіны. У камеры ён разважыў, што ў старога іншы, больш цяжкі вопыт. Ён шкадаваў старога, калі яму прыгадвалася такое прызнанне: «Ведаеш, што мне не ўдаецца ўспомніць? Хоць забі мяне, не ўдаецца ўспомніць, што ў сваім жыцці я зрабіў па ўласнай волі».

— На ўцёках? — спачувальна сказаў стары, разглядаючы Скаргаў маскарад.

Скарга зразумеў, што спачуванне адносіцца да яго з'яўлення ў Мінску. «Давялося»,— кіўнуў ён.

— Магу адрас даць,— прапанаваў стары.— У мяне пад Вільняй добры сябар жыве.

— Дзякуй, пан Вінцэсь, не трэба. Я з іншай просьбай.— Скарга дастаў з саквояжа пакунак.— Дазвольце пакінуць у вас вось гэта.

Стары, не цікавячыся, што ў пакунку, паказаў на паліцы:

— Хавай. Калі спатрэбіцца?

— Не ведаю. Можа, праз дзве гадзіны, можа, уначы.

— Калі ўначы — вазьмі,— стары зняў з цвіка ключ.— Заходзь з двара. Дзверы абабітыя бляхай.

— Замест мяне,— сказаў Скарга,— можа прыйсці чалавек, які назавецца Антонам.— Ён падумаў, што невядома яшчэ, калі ён сустрэнецца з Антонам, і прапанаваў больш надзейны варыянт: — Калі заўтра пакунак будзе тут, вельмі прашу, пан Вінцэсь, зайсці ў першую гімназію, спытаць Гурына і апавесці, што ёсць перадача ад Скаргі. Ён возьме.

Стары выйшаў у крамку і вярнуўся з маленькай бляшанкай з-пад ледзянцоў.

— Трымай,— ён паставіў бляшанку на стол.— Тут шэсцьдзесят рублёў золатам. На дарогу.

Скарга зразумеў, што гэта развітальны падарунак. Верыць у новую сустрэчу ім не даводзілася. Ён падняўся і абняў старога. Абодва ўздыхнулі, зазнаючы горыч разлукі і безабароннасці перад часам.

Праз дзесяць хвілін ён ішоў па Захар'еўскай у Александраўскі сквер [23]. Ля ўвахода разносчык прадаваў газеты. Скарга ўзяў адну і сунуў у кішэню. Вакол фантана бегалі малыя. Гарадавы адзінока сядзеў на лаўцы ў цяньку і, трымаючы на жываце рукі, глядзеў, як з горла лебедзя б'е струмень. Скарга прысеў ля гарадавога. Той крыва зірнуў, але не запярэчыў. Мяккае шамаценне вады навейвала супакой. Відаць, гарадавы быў заміраны. Скаргаў позірк таксама прыкаваўся да струменя. Калі ён нарадзіўся, гэты фантан ужо стаяў. Як сведчанне далучэння губернскага Мінска да такой адзнакі цывілізацыі, як водаправод. Хлопчык і лебедзь — сентыментальны сімвал глухмені. Тут усе ведаюць, што яны правінцыялы. Нават на ўласныя газеты паставілі кляймо гэтага глухога кутка. Вось, калі ласка,— Скарга зірнуў назву газеты,— «Окраина». А яшчэ была газетка «Голос провинции». Ён усміхнуўся. Але зараз жа падумаў, што ў правінцыі можа быць вельмі гулкі голас. Уся імперыя адчула гэта, калі Грынявіцкі кінуў бомбу ў цара. Прыехаў правінцыял і шпурнуў у цара бомбу. І партыя эсэраў была створана тут, у правінцыяльнай Мінскай губерні. А зараз не толькі цар, усе яны запалоханы. Ім не будзе літасці. Яны зразумелі гэта, калі сацыяліст-рэвалюцыянер Балмашоў пакараў смерцю міністра ўнутраных спраў Сіпягіна, калі магілёўскі эсэр Карповіч пакараў міністра народнай асветы Багалепава, а мінскі баявік Ваня Пуліхаў шпурнуў зарад у Курлова, а адважная дзяўчына Спірыдонава страляла ў народаненавісніка Лужаноўскага. А сацыяліст-рэвалюцыянер Сазонаў пакараў смерцю Плеве — яшчэ аднаго міністра ўнутраных спраў. А колькі палкавых камандзіраў і чарнасоценцаў адправілася ўслед за генералам Мінам! Лятучы атрад баевікоў пакараў Аўрамава. У Магілёве член баявой пяцёркі Ліда Язерская параніла губернатара. І памочнік паліцмайстра Мізгайла атрымаў тры стрэлы ў грудзі. А тут, у Мінску, нашыя баевікі вызвалілі з турмы Кацю Ізмайловіч. І наглядчык Кржывіцкі, які спрабаваў перашкодзіць уцёкам, быў застрэлены. Мінскія баевікі паўганялі па кулі ў прыстава Гогаля і паліцэйскага Шымановіча. Зараз не толькі эсэраў, бундаўцаў і эсдэкаў вязуць на могілкі, зараз і жандарскі рад там хутка расце. Таму жандары і не ўзялі яго ў Смаленску. Яны баяцца, што дзевяноста дзве тысячы баевікі ператвораць у наганы і дынаміт. Ім патрэбна забраць грошы ў партыі. Але ўжо не забяруць. Скарга адчуў гордасць, што галоўную справу ён зрабіў.

Тым не менш, падумаў ён, расседжвацца ў геаграфічным цэнтры Мінска рызыкоўна. Ды і справа зроблена толькі на палову. Ён пакінуў сквер і ўладкаваўся за агароджай Крыжаўзвіжанскай царквы [24], дзе сярод кустоў стаяла некалькі лавак. Ніхто на іх




не сядзеў: наогул, нікога за агароджай не было. Гэта яго парадавала, але думка, што ён радуецца адсутнасці людзей, імгненна павярнула радасць у злосць. «Сволачы!» — падумаў ён. Слова азначала для яго ўсіх службовых чыноў, ён адчуваў яго як цяжкі агромністы камяк з тысячы сытых мордаў. Сволачы! Чаму ён павінен хавацца, вышукваць месцы, дзе няма жывой душы? Карыстаюцца тым, што людзі не вытрымліваюць катаванняў, вар'яцеюць ці, растаптаныя паліцэйскімі ботамі, кінутыя на касталом, трацяць волю. Хто гэты Клім? А гаспадар смаленскай яўкі? Памыліўся, выдаў сябе з галавой, калі ляпнуў, што камітэт даўно чакае суму эксу. Але што мог чакаць краявы камітэт, калі Скарга сядзеў у турме, а апроч яго ніхто не ведаў, дзе захаваны грошы? Ні Антон, ні Пан, ні Святы. Інакш яны ўжо даўно былі б аддадзены ў касу. Ён схаваў іх у Віці на гарышчы, а павінен быў пакінуць у капліцы на Залатой горцы. Так атрымалася. Адразу пасля эксу ён зайшоў да Віці і застаўся там на два дні. А на трэці яго схапілі з адозвамі. Шмат няпэўнага з гаспадаром яўкі і Клімам. Магчыма, і не было масткі і здрадніцтва. Адчуванне, што трапіў у пастку, прыйшло ўначы. Раптам прачнуўся з выразным усведамленнем — ускочыў. Раніцай ён сказаў гаспадару, што яму, уцекачу, неабходна дапамога, патрэбны смелы баявік, пажадана легалізаваны; ён і павязе грошы з Мінска. Гаспадар яўкі пажадаў параіцца з «таварышамі». Раіўся ён цэлы дзень, а ўвечары з'явіўся ў кватэры з Клімам. «Вось наш надзейны таварыш!» А ў цягніку выявіліся два філёры. Для каго ён надзейны?

Падманлівы мінскі спакой. Стомленыя змаганнем страляюцца. Прыязджаюць уцекачы. Філёры павінны рыскаць па горадзе. А ў турме наглядчыкі гвалцяць якую-небудзь нявесту бундаўца, эсэра ці адраджэнца. А потым Астровіч цнатліва гуляе з жонкай па вуліцах, прыводзіць яе да фантана, у гарадскі тэатр, да сваякоў. Яны ведаюць, кім ён працуе і, напэўна, любяць паслухаць аповяды пра крымінальнікаў, катаржнікаў, баевікоў. Нават спачуваюць: цяжкі хлеб — лёгка атрымаць каменем па галаве. А разбуранае жыццё нейкай дзяўчыны, знаёмай баевіка, схопленага з адозвамі і наганам?.. Нашто расказваць жонцы і сваякам пра такіх жанчын? Ды і ці грэх тое, што робіцца на шкоду ворагам дзяржавы? Наўрад ці гэта грэх, хоць, вядома, і не заслуга. А калі грэх, дык — не смяротны. Але ў ніякім разе не злачынства. Для супакаення сумлення можна даць яму прыстойную дэфініцыю — сродак дазнання... Каб Вольга супакоілася, падумаў Скарга, тыя трое жывёлін павінны памерці. Ёй трэба даведацца, што іх няма, што яна ніколі іх не сустрэне і не закрычыць ад жаху. Яе крык пачуўся Скаргу, быццам ён зноў сядзеў у катоўні на жалезным стуле. Яго білі, адлівалі вадой і зноў білі, і калі Жывінскі пераканаўся, што катаваннямі не зламае Скаргу, ён загадаў прывесці Вольгу. Вось твая сяброўка, ты кажаш, што яна нічога не ведае, недатычная да зброі і адозваў. І зароў: «Ды пашкадуй яе!» І выйшаў. А Новак і Астровіч падышлі да Вольгі, і Новак ударыў яе ў жывот, садраў блузку, спадніцу, і, напаўголую, самлелую, пачаў гвалціць. Падышоў Астровіч і, ухмыляючыся, спытаў: «Ну як, успомніў». А ён сабраў сілы і ўсадзіў яму ў пахвіну бот. Тады Новак з Астровічам пастараліся... Як пасля гэтага слухаць людзей, якім не даспадобы, што эсэры-баевікі караюць смерцю забойцаў? «Тэрор — не сродак рэвалюцыйнай барацьбы». Утапісты. Адзіночны тэрор — няправільна, а масавы тэрор, якім непазбежна становіцца грамадзянская вайна, як паказаў пяты год, хіба не тое самае? Масавы тэрор складаецца з сумы індывідуальных тэрактаў. Што, трэба было чакаць перамогі рэвалюцыі, каб прыцягнуць да суда генерала Міна?

Скарга зірнуў на гадзіннік — набліжаўся час сустрэчы. Ён пакінуў падвор'е і ўздоўж драўлянай агароджы сквера пайшоў да тэатра. Вядома, думаў ён, няцяжка знайсці мноства доказаў супраць цяжкай работы. Палітычны тэрор — абавязак, які слабому духам не вытрываць. Сацыялісты-рэвалюцыянеры ўзялі гэтую працу на сябе. Таму яны і рэвалюцыянеры, у адрозненне ад сацыялістаў-эвалюцыяністаў. Таму эсэры і абралі сабе чэсны дэвіз: «У змаганні знойдзеш ты шчасце сваё». Сволачы, не баяцца слоў, яны палохаюцца арганізаванага тэрору. Пагромаў стала менш, калі ў Ветцы нашы пакаралі чарнасоценца Кухарава, а ў Шклове ўвагналі нож у грудзі пагромшчыка Бурага, а ў Дзвінску паранілі прыстава Дзегцярова і паліцмайстра Булыгіна, а ў Брэсце забілі фабрыканта Палеўскага, а ў Мінску — паліцмайстра Шклярэвіча. Жыццё за жыццё. Толькі за спробу замаху на паліцмайстра Норава мінскі эсэр Аксенбург атрымаў пятнаццаць гадоў катаргі. І ўсё роўна іх страляюць...

Каля тэатра ён перасек вуліцу, прамінуў аднапавярховы дом і ў пад'езд наступнага, двухпавярховага, увайшоў. Тут ён прастаяў хвіліны дзве, гатовы ўцячы чорным ходам, пакуль зверху не пачуўся ціхі голас Антона: «Чыста!» Ён узляцеў па лесвічным пралёце і трапіў у абдымкі таварыша. «Ну, дзякуй богу, выбраўся! Жывы! Здаровы!» — прыгаворваў Антон. Цалуючы Скаргу, ён абвясціў, што часу ў яго дзесяць хвілін — на адзін урок яго падмянілі, а на наступны замены няма. Скарга паведаміў, дзе ляжаць грошы, аддаў ключ, расказаў пра смаляніна і смаленскую яўку. Антон пагадзіўся, што такой яўцы давяраць нельга, а кур'ера трэба праверыць. Тады Скарга сказаў пра смерць Пана. «Шкада,— спахмурнеў Антон.— Добры быў хлопец. Але нашто? — дабавіў ён.— Неразумна. На зло ворагу?» Скарга ў душы падзяліў такую ацэнку. «Што ж,— сказаў Антон,— увечары пагамонім. Заставацца табе тут нельга. Сам разумееш. Дакументы ў цябе таксама, думаю, ліпавыя?» Скарга кіўнуў. «Паспрабуем зрабіць. Дакументы і адрас. Грошы,— ён усміхнуўся,— ты сам дастаў. Толькі будзь асцярожны. Хоць да вечара не ўскоч. Сустрэнемся ў дзевяць».— «Дзе?» — спытаў Скарга. «Дзе хочаш. На Залатой горцы задаволіць?» — «Цалкам»,— сказаў Скарга. Яны развіталіся, і Антон пакінуў пад'езд чорным ходам. Скарга крыху пачакаў і выйшаў на вуліцу праз парадны, кудою ўваходзіў.

Каля кавярні Венкжэцкага ён адчуў, што да яго прыліп філёр. Скарга спыніў шляхетнага пана і пацікавіўся, якая гадзіна; пакуль пан даставаў бірульку, ён паспеў разгледзець філёра. Гэта быў бляклы дзяцюк у модным гарнітурчыку і ў кепачцы з гузікам на вяршку. Трымаўся ён за дзесяць крокаў ад Скаргі. Скарга ўвайшоў у кафэ і зірнуў на вуліцу праз акно — філёр прыкурваў цыгарэтку. «Ну, папалі!» — падумаў Скарга, нырнуў у кухню і апынуўся ў двары. Адсюль вакольным шляхам, на які прыйшлося затраціць каля чвэрткі гадзіны, ён выйшаў на Хрышчэнскую [25] да Пушкінскай бібліятэкі. За бар'ерам, які аддзяляў кніжныя фонды ад наведвальнікаў, сядзела знаёмая Скаргу бібліятэкарка; шмат разоў яна трымала ў руках ягоны фармуляр, прымала і выдавала кнігі, неаднойчы яны размаўлялі аб кніжных навінках. Безумоўна, яна ведала, што адукаваны пан Булевіч знаходзіцца ў турме. Яна добразычліва адказала на прывітанне, і на твары яе адлюстравалася жаданне прыгадаць прозвішча наведніка, каб без пытанняў і падказкі дастаць з шуфляды яго фармуляр. Але атаясаміць таго прыемнага чытача з гэтым чалавекам у вопратцы майстравога ёй не ўдавалася. Скаргу гэта парадавала.

— Вера Сямёнаўна,— спытаў ён,— не падкажаце, дзе знайсці Вікторыю Пятроўну?

Яму здавалася, што яна адкажа: «Зараз паклічу». Але яна адказала:

— Вікторыі Пятроўны сёння не будзе. Яна паехала да жаніха.

Куды паехала Віця, хто яе жаніх, Скарга распытваць не стаў.

**(Працяг у наступным нумары.)**

---

**1 Ляхаўка — дарэвалюцыйны раён Мінска (сучасныя Лодачная і Кастрычніцкая вуліцы).**

**2 Пецярбургская — цяпер вул. Ленінградская.**

**3 У былым будынку ўпраўлення цяпер размешчаны адзін з карпусоў медыцынскага інстытута.**

**4 Сацыял-дэмакрат.**

**5 Нова-Маскоўская — цяпер вул. Мяснікова.**

**6 Нямецкая — цяпер вул. К. Лібкнехта.**

**7 Пратэстанцкія могілкі ў 70-я гады рэканструяваны пад сквер.**

**8 Захар'еўская — цяпер вул. Савецкая, а далей — Ленінскі пр.**

**9 Драўляная царква чыгуначнікаў стаяла на рагу вуліц Мяснікова і Савецкай. Разбурана пад канец 60-х гадоў.**

**10 Будаваўся Чырвоны касцёл.**

**11 Трубная — цяпер вул. Берсана.**

**12 Турэмны завулак — цяпер зав. Берсана.**

**13 П.С.-Р.— партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў (эсэраў).**

**14 Раманаўская — цяпер вул. Рэспубліканская.**

**15 У гэтым будынку і сёння знаходзіцца пажарная каманда.**

**16 Багаяўленская — цяпер вул. Камсамольская.**

**17 Траецкі шпіталь — цяпер шпіталь на вул. Горкага насупраць Траецкага прадмесця.**

**18 Грамадаўцы (адраджэнцы) — члены Беларускай сацыялістычнай грамады, якая стаяла за нацыянальнае адраджэнне Беларусі.**

**19 Магазінная — цяпер вул. Кірава.**

**20 Скобелеўская — цяпер вул. Чырвонаармейская.**

**21 Слабодка — цяпер вул. Пуліхава.**

**22 Праабражэнская — цяпер вул. Інтэрнацыянальная.**

**23 Сквер ля тэатра імя Янкі Купалы.**

**24 Крыжаўзвіжанская царква знесена ў 30-я гады. На яе падмурку пабудаваны Дом Чырвонай Арміі (цяпер — Дом афіцэраў).**

**25 Хрышчэнская — цяпер частка вуліцы Інтэрнацыянальнай ад плошчы Свабоды да вул. Янкі Купалы.**





ДЭТЭКТЫЎ

# АБ'ЕКТЫЎНА!









**ФОТАРЭПАРТАЖ**

**Яўгена КОКТЫША**





Учора
яны былі
разам з намі,
мільгацелі
ў вулічным натоўпе.
Сёння
іх не сустрэнеш
на вуліцы,
у аўдыторыі,
ля прахадной завода...
Гэтыя людзі —
за кратамі.
У кожнага з іх
свая віна
і сваё апраўданне.
Але бяда —
агульная.
І гэта
не толькі іх бяда,
але і наша.
Гэтую бяду
не адолець аднаму.
Яе не папярэдзяць
ні суд,
ні міліцыя,
ні пракуратура,
калі
абыякавым да яе
будзе той,
хто побач...
Статыстыка
раўнадушна канстатуе,
што
колькасць злачынстваў
павялічваецца.
Але нам
нельга
быць
раўнадушнымі...

# «БЕЛАЯ ПЛЯМА», або ПОЗІРК ЗА РЫСУ АДЧУЖЭННЯ

«Процьма грызуноў гатовая захапіць новыя тэрыторыі. Яны размножыліся ў выніку ўздзеяння радыяцыі. Як спыніць іхняе ўварванне ў населеныя пункты, прадухіліць успышку інфекцыйных захворванняў!» — «А кажуць, што там, за рысаю, нічога жывога не засталося...» — «Сам бачыў: каноплі страху падпіраюць...»

Чуткі пра тое, што робіцца ў сярэдзіне 30-кіламетровай зоны, казычуць нервы.

І на самай справе, што ж там, за рысаю адчужэння, адбываецца з лесам, зямлёю, жывёльным светам нарэшце! Ці ёсць мутацыі, як складваецца экалагічная сітуацыя! Журналісты ў першую чаргу звяртаюць сваю ўвагу на калязонныя праблемы, сочаць, у меру сіл і магчымасцей, за жыццём населеных, забруджаных радыяцыяй раёнаў. І гэта правільна. Але і «нежылая» радыеактыўная пляма на карце рэспублікі і ўсё, што адбываецца ў ёй, не могуць, не павінны заставацца «белай плямаю».

Гэты матэрыял пра тое, як адчувае сябе хворая зямля сёння. Зазірнуць за рысу адчужэння нам дапаможа вядучы навуковы супрацоўнік інстытута заалогіі АН БССР Юрый Анастасьевіч Вязовіч, які не раз выязджаў у зону для правядзення навуковых даследаванняў.



Аўтар інтэрв'ю ў цэнтры зоны. Сёння непасрэдна ля саркафага — ад 0,5 да 1 мілірэнтгена ў гадзіну. На іншых участках зоны адчужэння ўзровень радыяцыі значна вышэйшы.

— Пра экалогію цяпер можа меркаваць кожны чытач. Але ўсё ж, паколькі пытанні радыеэкалогіі ў сувязі з аварыяй у Чарнобылі адасоблена падымаюцца ў беларускім друку ўпершыню, ёсць сэнс нагадаць, што ўваходзіць у сферу ўвагі гэтае навукі.

— Радыеэкалогія — навука пра асаблівасці існавання арганізмаў, раслін і жывёл у асяроддзі пражывання з павышанай (у параўнанні з нормаю) радыеактыўнасцю — узнікла адначасна з пачаткам выкарыстання атамнай энергіі ў розных мэтах.

Бадай, у першую чаргу варта вылучыць лясную радыеэкалогію. Лес — вялікі прыродны акумулятар радыеактыўных рэчываў. Яго радыечуллівасць, асабліва хвойных парод, выключна высокая. Невыпадкова ў выніку моцнага ўздзеяння абпраменьвання першага перыяду сосны і елкі ў радыусе 6—7 кіламетраў ад станцыі пацярпелі больш за ўсе астатнія дрэвы. І пакуль няма цвёрдых гарантый, што плошчы лясоў, якія загінулі, не будуць павялічвацца. Мяркуецца, што за ўсе пасляаварыйныя гады загінуць сотні гектараў лесу.

— А што чакае лясныя масівы, якія не загінулі і не загінуць, але атрымалі немалую дозу абпраменьвання!

— У «параненых» лясах адразу ж пасля аварыі пачаўся працэс самаачышчэння. За тры тыдні палова радыенуклідаў з крон перайшла пад полаг лесу. Праз паўтара года іхняе размеркаванне стала такое: у падсцілцы прыкладна дзевяноста працэнтаў, у глебе — чатыры і шэсць працэнтаў у драўняным ярусе. У залежнасці ад атрыманай дозы там цяпер назіраюцца незвычайныя працэсы. Напрыклад, на мяжы з мёртвым, так званым «рудым» лесам, ёсць гіганцкія зялёныя хваіны.

— Выходзіць, адбылася стымуляцыя росту!

— Так, праявіўся гігантызм у шэрагу раслін. У суседстве з нармальнымі сустракаюцца лісты дуба — на паўліста лапуха, у акацыі лістовыя пласцінкі — з дзіцячую далонь. Вось паглядзіце: ліст таполі, які я сарваў у «зоне»: ягоная даўжыня — 19 сантыметраў, шырыня — 18. Расліны адчуваюць ужо адзін мілірэнтген у гадзіну, але праяўляецца гігантызм пры ўзроўні радыяцыі ад 4 да 7 мілірэнтген у гадзіну, ад страты раслінаю пазіцыйнай інфармацыі. Што гэта такое! У нармальных умовах развіцця раслінная клетка «ведае», колькі ёй «можна» зрабіць дзяленняў. Павышаная радыяцыя здымае «забарону»— кантроль з гэтага працэсу. З'яўляюцца і іншыя змены: галінаванне пылковай трубкі, абуджэнне «спячых» пупышак, своеасаблівыя «вядзьмарскія мяцёлкі» і плакучыя парасткі ў ліставых дрэў, змяняюцца формы лістоў.

Што будзе з лесам і іншай раслінасцю далей — пры хранічным абпраменьванні слабымі, але шматгадовымі дозамі — пакуль невядома. Магчыма, што праявяцца другасныя фактары змяненняў, звязаныя з аслабленнем дрэвастою.

— У такіх лясах звярам, напэўна, не асабліва ўтульна!

— Радыечуллівасць жывёл адрозніваецца ў асобных відаў у сотні і тысячы разоў. Вывучаючы глебавую мезафауну (шматножкі, дажджавыя чарвякі, цвердакрылыя, павукі, мурашы), вучоныя інстытута заалогіі АН БССР выявілі, што пры дозах вышэй за адзін мілірэнтген у гадзіну назіраецца амярцвенне глебавых гарызонтаў і падсцілкі.

Здавалася б, ну і што! Падумаеш — казяўка ў глебе! Аднак гэта не так. 95 працэнтаў відавога складу ўсіх жывёл — менавіта глебавыя, на долю якіх прыходзіцца 99 працэнтаў усёй заамасы. Пад нагамі ў нас мільён відаў. Гібель іх — катастрофа для глебы, бо яны вызначаюць урадлівасць зямлі. На шчасце, падземныя жыхары выявілі здольнасць хутка аднаўляць сваю колькасць. Праз год пасля аварыі яна стала расці. А на поўнае аднаўленне спатрэбяцца яшчэ гады два. У сувязі з гэтым хацеў бы звярнуцца да тых кіраўнікоў сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, якія любяць «прамываць» палі празмернай колькасцю ўгнаенняў і ядахімікатаў: падумайце! Які «Чарнобыль» ладзіце вы глебавым жывёлам — стваральнікам урадлівасці на вашых палях — і як дорага абыходзіцца ён зямлі.

— А як адчуваюць сябе насельнікі падводнага свету!

— У донных адкладах узровень канцэнтрацыі радыеактыўных рэчываў досыць высокі. Аднак дакладна вызначыць дозу абпраменьвання складана. Беларускія гідрабіёлагі, іхтыёлагі правялі абследаванне водных беспазваночных і рыб на тэрыторыі Гомельскай, Магілёўскай і Мінскай абласцей у басейнах рэк Прыпяць, Днепр, Сож, Бярэзіна, у васьмі сажалках рыбгасаў. Найбольшая колькасць радыенуклідаў выяўлена ў целе рыб з рэк, найменшая — з азёр і сажалак. Высокая ступень канцэнтрацыі радыеактыўных рэчываў у драпежных відаў: шчупакоў, акунёў, роўная з імі доза адзначана ў вадзяных клапоў, п'явак. У ляшчоў і плотак моцна забруджана пячонка, менш скура, шкілет і мышцы. У 1986 годзе самымі «бруднымі» па цэзіі-137 былі судакі — у пяць разоў вышэй, чым карпы і карасі. А яшчэ праз год колькасць радыенуклідаў у драпежных відаў рыб павялічылася амаль у 10 разоў.

Цяпер у вадаёмах падрастае пакаленне рыб 1986 года. Паглынутыя дозы радыяцыі, пры якіх магчымае з'яўленне бачных змяненняў, у іх досыць высокія. Ёсць верагоднасць другасных экалагічных эфектаў, інакш кажучы, драпежнікі, «назапашваючы» больш радыенуклідаў, чым іхнія «ахвяры», пачнуць пакутаваць праз гэта, страцяць сваю агрэсіўнасць, і «ахвяры» вызваляцца ад іхняга «тэрору», што адразу зменіць сітуацыю ў вадаёмах. Як! Пачакаем — убачым. А пакуль у раёнах, што пацярпелі ад радыяцыі, нельга лавіць рыбу.

— Ці не знойдзецца ў вас парады і аматарам грыбоў!

— Да «назапашвання» радыенуклідаў найбольш схільныя таўстушка, польскі грыб, маслякі, ваўнянка, гаркуха, падбярозавік, рыжык, грузд чорны, сыраежка зеленаватая, зялёнка. Больш стойкія — белы грыб, лісічка, махавік, апенькі, падасінавік. А парада адна: рупліва правяраць на радыеактыўнасць увесь лясны «ўраджай». Зрабіць гэта, як сцвярджаюць супрацоўнікі Дзяржаграпрома БССР, ужо не праблема. У кожным сельскім савеце, які знаходзіцца на забруджанай тэрыторыі, павінны быць адпаведныя прыборы для дозакантролю.

— Працягваючы тэму нашай гутаркі, скажыце, як адчуваюць сябе звяры і птушкі, якія адчулі на сабе ўздзеянне павышанай радыяцыі!

— Нашы вучоныя вывучылі і ацанілі ступень радыеізатопнага забруджвання арганізма ва ўсіх асноўных груп наземных жывёл. Найбольш высокая канцэнтрацыя радыеактыўных рэчываў у вожыкаў і буразубак звычайных, а таксама ў рудых палёвак. Але нават пры некаторых генетычных адхіленнях, адзначаных у грызуноў у зоне, якіх-небудзь прыкметных змен у іхнім стане і паводзінах пакуль не выяўлена. Гэта пацвярджаюць вынікі даследаванняў, праведзеных у нашым інстытуце. Аднак рабіць пасля іх канчатковыя высновы аб «няўплыве» радыяцыі нельга. У праведзеным яшчэ да Чарнобыля доследзе нават змены сарака пакаленняў мышэй не хапіла, каб вызначыць усю паўнату магчымых змяненняў і фактаў прыстасавання. Неабходны час. Эвалюцыйная адаптацыя — працэс працяглы, біялагічныя з'явы не паскорыш.

Сярод птушак зоны лідзіруюць па «назапашванні» радыенуклідаў чыркі, крыжанкі і лысухі. На жаль, частка моцна забруджаных вадаплаваючых птушак з Гомельскай і Магілёўскай абласцей мігрыравала на 100—200 кіламетраў у чыстыя раёны, а ў сярэднім, як паказалі нашыя работы, кожная трэцяя птушка, забітая паляўнічымі ў рэспубліцы, была забруджана радыеактыўнымі рэчывамі вышэй межаў, якія дапускаюць яе ўжыванне ў ежу. Таму ў 1986 годзе і было забаронена летне-восеньскае паляванне «па пяры» на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Цяпер паляванне на птушак дазволена, трэба толькі абавязкова правяраць здабычу.

Сярод млекакормячых найбольшая колькасць радыенуклідаў адзначана ў дзікоў, лісіц, зайцоў, менш у ласёў, аленяў, касуль, ваўкоў.

— У сумежных з зонаю раёнах ходзяць чуткі і небыліцы пра змены ў стане, паводзінах жывёл у сувязі з радыяцыяй.

— Спецыялісты пакуль не заўважылі анамалій у іхніх паводзінах, якія можна было б звязаць з захворваннямі радыяцыйнага характару. Змены ж, якія адбыліся ў колькасці або відавым складзе птушак і звяроў, выкліканы спыненнем гаспадарчай дзейнасці ў зоне. Напрыклад, здзічэлі шпакі, менш стала вераб'ёў у вёсках. Але ёсць пакуль і загадкі: у беларускай частцы зоны прыкметна ўпала колькасць маладняку ласёў і дзікоў.

— Як будуць развівацца далей даследаванні ў зоне!

— Дзяржаўны камітэт БССР па ахове прыроды і Акадэмія навук БССР падрыхтавалі праект стварэння на тэрыторыі зоны Палескага дзяржаўнага экалагічнага запаведніка. Мяркуецца, што запаведнік будзе знаходзіцца ў распараджэнні рэспубліканскага дзяржаўнага камітэта па ахове прыроды, а агульнае навукова-метадычнае кіраўніцтва даследаваннямі будзе ажыццяўляць Акадэмія навук рэспублікі. Але Мінатамэнерга прапануе ўзяць запаведнік пад свой кантроль. Улічваючы вялікую колькасць спецыфічных пытанняў, ведаючы пра ўнутрыведамасныя сакрэты атамшчыкаў, беларускія вучоныя выказваюцца супраць такога кіраўніцтва. Але раз ужо за аварыю на ЧАЭС вінаватыя арганізацыі, якія ўваходзяць у Мінатамэнерга, а фірма гэтая багатая, дык няхай яна, хоць бы і часткова, фінансуе работы па вывучэнні і ліквідацыі вынікаў аварыі ці хоць выдзеліць сродкі на стварэнне запаведніка.

**Аляксандр Крыжаноўскі**

# ЮБІЛЕЙ КАБЗАРА



**Жыццёвы шлях Тараса Шаўчэнкі быў цяжкі, горкі і цярністы. Разам з ім гэтым шляхам прайшла і яго Муза, што стала паэтавай доляй. Нездарма, звяртаючыся да яе, ён пісаў: «Мы проста йшлі. У нас няма няпраўды зерня за сабою».**

**Веліч Шаўчэнкавага таленту і чалавечага подзвігу сёння стала неаспрэчнай. 175-годдзе ад дня нараджэння Т. Шаўчэнкі ўнесена ў каляндар памятных дат ЮНЕСКА. Сёлетняму юбілею Вялікага Кабзара Украіны, што святкуецца ў кожнай цывілізаванай краіне, прысвячае сваю публікацыю і часопіс «Крыніца».**

Дух збудзіў свайму народу
Сваім гучным словам,
Навучыў любіць свабоду,
Родны край і мову.

Яго «бацькам» ахрысціла
Памятна Украйна.
Эх! і нам будзь бацькам мілым,
Украінча слаўны!

**Янка КУПАЛА**

Тройчы адарыла Шаўчэнку шчодрая прырода: дарам спевака, дарам мастака, дарам пісьменніка (паэта і празаіка).

Менавіта як мастак звярнуў на сябе ўвагу інтэлігентных сучаснікаў прыгонны — вучань у малярскай справе, сын беднага ўкраінскага селяніна, калі па волі памешчыка трапіў у Пецярбург, менавіта гэты дар мастака і адчыніў перад ім дзверы, каб увайсці ў кола гуманных людзей, якія дапамаглі юнаку атрымаць адукацыю і якія дамагліся выкупу яго з прыгону. Значэнне Шаўчэнкі як жывапісца, графіка, гравёра ўжо само па сабе магло б забяспечыць яму пачэснае месца ў гісторыі мастацтва.

Тыя з сучаснікаў, хто чуў Шаўчэнкава выкананне народных песень, сцвярджаюць, што нічога роўнага па сіле яны не чулі. Музыказнаўцы нашых дзён на падставе выказванняў Шаўчэнкі ў «Дзённіку» і аповесцях і на падставе таго, як ён славесна перадае свае пачуцці ад музыкі, кажуць, што і ў гэтай галіне Тарас Рыгоравіч быў глыбокаталенавіты і меў вялікія, хаця і не сістэматычныя веды.

Але, несумненна, Тарас Шаўчэнка ўвайшоў у гісторыю нашай і сусветнай літаратуры як паэт — і як паэт здабыў сабе неўміручасць.

<...>

Дабралюбаў, Чарнышэўскі, Луначарскі, Горкі, Франко, Леся Украінка рашуча ставілі яго ў адзін рад з найвялікшымі паэтамі свету.

**Максім РЫЛЬСКІ**

Есть звезды, которые так близки друг к другу и так ровно сливают свой свет, что кажутся нам одним неразрывным целым. «Двойными звездами» называются эти светила. Их судьба стала судьбой музы Шевченко в украинской народной поэзии: двойной звездой сияют они в мире искусств и красоты.

**Максим БОГДАНОВИЧ**

...новый опыт **спиваний** г. Шевченко, привелигированного, кажется, малороссийского поэта, убеждает нас еще более, что подобного рода произведения издаются только для услаждения и назидания самих авторов: другой публики у них, кажется, нет. Если же эти господа **кобзари** думают своими **поэмами** принести пользу низшему классу своих соотчичей, то в этом очень ошибаются: их поэмы, несмотря на обилие самых вульгарных и площадных слов и выражений, лишены простоты вымысла и рассказа, наполнены вычурами и замашками, свойственными всем плохим пиитам,— часто нисколько не народны, хотя и подкреплены ссылками на историю, песни и предания,— и, следовательно, по всем этим причинам,— они непонятны простому народу...

**Виссарион БЕЛИНСКИЙ**

Словы **вялікі** і **народны** сталі нібы пастаяннымі эпітэтамі пры імені Тараса Шаўчэнкі.

Самае ўжывальнае і самае пашыранае вызначэнне Тараса Шаўчэнкі — **народны** паэт. На гэтым вызначэнні трэба спыніцца. «Совершенно народным писателем» называў Шаўчэнку Герцэн. Часта цытуюцца словы Дабралюбава: «Он — поэт совершенно народный, такой, какого мы не можем назвать у себя. Даже Кольцов не идет с ним в сравнение, потому что складом своих мыслей и даже своими стремлениями иногда отдаляется от народа. У Шевченка, напротив, весь круг его дум и сочувствий находится в совершенном соответствии со смыслом и строем народной жизни. Он вышел из народа, жил с народом и не только мыслью, но обстоятельствами жизни был с ним крепко и кровно связан». ...Тут паняцце **народны** зближаецца з паняццямі **нацыянальны** і — **вялікі.**

**Максім РЫЛЬСКІ**

Это была натура страстная, необузданная, сдавленная, но не сломанная судьбою, простолюдин, поэт и патриот...

Самолюбие в Шевченке было очень сильное, без этого самолюбия, без веры в свое призвание он неизбежно погиб бы в своем закаспийском изгнании; восторженное удивление соотчичей, окружавших его в Петербурге, усугубило в нем эту уверенность...

**Иван ТУРГЕНЕВ**

З Тарасам Рыгоравічам я пазнаёміўся ў Кіеве ў 1845 годзе... Мы сышліся і пасябравалі. Тарас Рыгоравіч прачытаў мне свае ненадрукаваныя вершы. Мяне апанаваў жах... Я ўбачыў, што муза Шаўчэнкі раздзірала заслону народнага жыцця. І страшна, і соладка, і балюча, і чароўна было зазірнуць туды!!! Моцны зрок, дужыя нервы трэба мець, каб не аслепнуць ці не ўпасці без прытомнасці ад раптоўнага святла ісціны, прыязна прыхаванай ад спакойнага натоўпу, што ідзе па ўезджанай каляіне паўз таямнічую заслону, не ведаючы, што схавана за ёй!

**Мікалай КАСТАМАРАЎ**

Ён быў сынам мужыка і стаў валадаром у царстве духу.

Ён быў прыгонным і стаў волатам у царстве чалавечай культуры.

Ён быў самавукам і паказаў новыя, светлыя шляхі прафесарам і кніжным вучоным.

Дзесяць год ён пакутаваў пад цяжарам расійскай салдацкай муштры, а дзеля волі Расіі зрабіў больш, чым дзесяць пераможных армій.

Доля праследавала яго ў жыцці як толькі магла, але яна не змагла ператварыць золата ягонае душы ў іржу, ні ягонай любові да людзей у нянавісць і пагарду, ані веры ў Бога ў паняверку і песімізм.

Доля не шкадавала яму пакут, але і не пашкадавала ўцех, што струменілі са здаровай крыніцы жыцця.

Найлепшы і найкаштоўнейшы скарб доля дала яму толькі пасля смерці — неўміручую славу і квітнеючую радасць, якую ў мільёнах чалавечых сэрцаў зноў і зноў будуць абуджаць яго творы.

Вось такім быў і ёсць для нас, украінцаў, Тарас Шаўчэнка.

**Іван ФРАНКО**

...Шевченко в украинской литературе является не тем, чем был Кольцов в русской или Бернс — в английской. Нет, охват его поэзии много шире и ставит его на то место, которое в России, например, занимает Пушкин, а в Польше — Мицкевич.

...под их (стихов — *У. Р.*) своеобразным чеканом кроется полноценный металл духовной культуры, общей всем цивилизованным людям.

**Максим БОГДАНОВИЧ**

Тарас Рыгоравіч Шаўчэнка, чыя Муза была цалкам аддадзена народу, непахісны змагар за народную справу, паэт, які меў поўнае права сказаць, звяртаючыся да сваёй суровай долі:

Не хітравалі мы з табою,
Мы проста йшлі. У нас няма
Няпраўды зерня за сабою,—

у нашы дні вырысоўваецца на ўвесь свой гіганцкі паэтычны рост перад шматнацыянальным, шматмільённым савецкім чытачом. Ён па дастоінству і па праву займае месца побач з Пушкіным, Міцкевічам і Гётэ, з Някрасавым і Шата Руставелі.

**Якуб КОЛАС**

Калі б Тарас Шаўчэнка пражыў богам адведзены чалавеку век, культура Украіны і Еўропы была б у іншым вымярэнні. Ён ніколі не дазволіў бы здзекавацца са сваёй Бацькаўшчыны, нішчыць Задняпроўе, каламуціць воды Дняпра Вялікага. Пакіньце ў спакоі хоць бы святыя для народа мясціны, сучасныя варвары, згадайце пра тое, што на магілах вялікіх людзей трэба маліцца міру і прасіць прабачэння, а не спрыяць пагібелі нашай культуры і яе пакутнікаў. Няхай будзе святасць у душы ўсіх, хто ступае на гэтую зямлю!

**Віктар АСТАФ'ЕЎ**

**Матэрыял падрыхтаваў
Усевалад РАГОЙША**



## КОЛА ЗНАЁМСТВАЎ

— Мне 22 гады, адслужыў у радах Савецкай Арміі, цяпер студэнт БПІ. Захапляюся футболам і радыёэлектронікай. У вольны час люблю хадзіць у тэатры, музеі, на выстаўкі, а таксама слухаць музыку. Хацеў бы пазнаёміцца з добрай дзяўчынаю, якая б стала блізкім чалавекам.

220100, г. Мінск, вул. Сурганава, 47-3, кв. 532. ПЯТРОЎСКІ Руслан.

— Мне 16 гадоў, вучуся ў матэматычнай школе. Захапляюся нумізматыкай, люблю музыку, пішу вершы. Больш за ўсё ў вольны час чытаю. Хачу мець шмат сяброў.

370132, г. Баку, пас. Разіна, квартал 4088, д. 1, кв. 22. ІВАШКОВА Алена.

— Калекцыяніруго і мяняю паштоўкі і канверты, спецыяльныя гашэнні, мастацкія паштоўкі, маркі, памятныя медалі, кішэнныя каляндарыкі. Тэмы: марскі флот, Арктыка, Антарктыка. У абмене іншыя тэмы.

113186, г. Масква, Нагорны бульвар, 4-3-62. ЦЮЛЬКЕВІЧ Васіль Браніслававіч.

— Мне 17 гадоў, вучуся, займаюся ў хоры, у танцавальнай студыі. Блізкіх сяброў у мяне няма, няма з кім падзяліцца сваімі клопатамі, няма ў каго папытацца парады. Вядома, у мяне ёсць недахопы: я запальчывая і ўпартая. Але ў мяне ёсць і добрыя рысы, да таго ж я не куру і не гуляю.

223710, Мінская вобл., г. Салігорск, вул. Казлова, д. 11, кв. 101. КАРАЛЁВА Людміла.

— Нас пяцёра маладых хлопцаў, працуем у адной брыгадзе, у г. Варкуце, прыехалі сюды з Літвы па камсамольскай пуцёўцы. Вельмі хочам перапісвацца з брыгадай маладых дзяўчат. Нам усім па 21—22 гады, усе адслужылі ў радах Савецкай Арміі, захапляемся спортам, любім сучасную музыку розных накірункаў, а таксама кнігі і кіно. Наш адрас: 169905, Комі АССР, г. Варкута, вул. Лакаматыўная, 5а—14. Дзмітрый МІХАЙЛОЎСКІ, Эдуард БАЗУНОВІЧ, Валерый БАРАНОЎСКІ, Алег КЛЮЧАЎ, Анатоль ЧЫЖАЎСКАС.

— Пішу ў рубрыку «Кола знаёмстваў» не таму, што адзінокая. Проста я вельмі хачу, каб кожны чалавек знайшоў сваё шчасце. Прапаную адзінокім людзям напісаць мне і ў лістах падрабязна паведаміць пра сябе ўсё: недахопы і станоўчыя рысы, асаблівасці характару. Я абяцаю адказаць усім, пастараюся падабраць кожнаму чалавека, які б падыходзіў яму, з падобнымі інтарэсамі і прынцыпамі. Трохі пра сябе: мне 18 гадоў, вучуся ў Мінскім педвучылішчы, хачу быць псіхолагам. Просьба да тых, хто напіша мне: укладвайце, калі ласка, у пісьмо чысты канверт.

220094, г. Мінск, вул. Пляханава, д. 32, кв. 230. Іна ГУРКОЎСКАЯ.

— Вольнага часу вельмі мала, а сапраўдных сяброў амаль няма. Хочацца знайсці аднадумцаў. Асноўныя мае захапленні — праграміраванне і электронна-вылічальная тэхніка.

220040, г. Мінск, вул. Тыражная, 78—2. Алег КІРЫЛАЎ.

— Я жыву ў Польшчы, мне 26 гадоў, жанаты. Хачу знайсці сяброў у вашай краіне. Цікаўлюся турызмам, фатаграфіяй, музыкай.

Польшча, г. Люблін 20-619, вул. Навамейска, 1/30. Кшыштаф ЦАХОЎСКІ.

— Мне 19 гадоў, працую на заводзе слесарам-зборшчыкам, адначасова студэнт-завочнік інстытута фізкультуры, мару стаць высакакласным трэнерам па хакеі з шайбаю, займаюся ўсімі даступнымі відамі спорту. Кола інтарэсаў досыць шырокае: ад палітыкі да псіхалогіі. Не куру і не ўжываю алкаголю, бо гэта не сумяшчальна са спортам. Зараз пра галоўнае. У мяне ёсць фізічны недахоп: я пазбаўлены магчымасці чуць, з-за гэтага нямала пакутую, хоць добра магу гаварыць і цудоўна чую музыку. У мяне шмат сапраўдных сяброў, але любімая дзяўчына здрадзіла мне, і жыццё страціла сэнс. Вельмі хочацца сустрэць верную, добрую, чулую, пакахаць і быць каханым. Хто зразумее мяне, няхай адгукнецца.

220049, г. Мінск, вул. Валгаградская, д. 39-а, кв. 59. БАРОЎСКІ Аляксей.

— Мне 18 гадоў. З задавальненнем пазнаёмлюся з самым звычайным хлопцам, з якім можна было б пагаварыць на любыя тэмы. Пра сябе: працую санітаркаю ў радзільным доме, абраная прафесія — гінеколаг. Любімы пісьменнік — Іван Яфрэмаў. Трохі граю на піяніна, люблю сабак, па натуры чалавек з гумарам, дамаседка.

247400, Гомельская вобл., г. Светлагорск, вул. Ламаносава, д. 80. ЧАБАТАРОВА Вольга.

## ЧАКАЮ ЛІСТОЎ

**— Мне 22 гады, жыву ў вёсцы, маю сваю хату, працую механізатарам, ёсць правы вадзіцеля і пасведчанне зваршчыка. У горадзе жыць не люблю. Характар у мяне мяккі, вельмі люблю дзяцей. Захапляюся боксам, іграю на гармоніку. Хачу знайсці спадарожніцу жыцця. ВАСІЛЬ.**

**— Мне 20 гадоў, вучуся на філфаку педінстытута. Адчуваю сябе самотнай, бо расчаравался ў людзях. Каго вінаваціць у тым, што жывём мы ў свеце, дзе прадаюцца і купляюцца за грошы нават павага і каханне!.. Хочацца верыць, што ўсё-такі ёсць на свеце людзі, здольныя на высокія чалавечыя пачуцці. Дзе вы, адгукніцеся! ВАЛЯНЦІНА.**

**— Я вельмі самотны, хацеў бы знайсці верную дзяўчыну, якая пажадала б звязаць са мною жыццё. Мне 21 год, жыву ў горадзе Слуцку, працую на прадпрыемстве трактарыстам, захапляюся футболам. Па характары спакойны, вясёлы. УЛАДЗІМІР.**

**— Мне ўжо (ці яшчэ толькі) 20 гадоў. Я вельмі люблю жыццё, сонца, дождж, вецер, пах ружаў... Але больш за ўсё на свеце люблю людзей. Напэўна, таму ў мяне шмат сябровак. Толькі здаецца, што яны маглі б жыць спакойна, калі б мяне і зусім не было. А так хочацца быць патрэбнай! Яму, адзінаму і дарагому. Можа, ён адгукнецца на мой ліст! Я вельмі чакаю. ІНА.**

**— Мне 22 гады, адслужыў у арміі. Жыву ў вёсцы, адчуваю сябе адзінокім. Характар у мяне вясёлы, я кантактны, з усімі знаходжу агульную мову. Шмат чытаю, люблю музыку, захапляюся спортам. Хацеў бы пазнаёміцца з дзяўчынаю 18—22 гадоў, можна з дзіцем, дзяцей я вельмі люблю. ВАЦЛАЎ.**

**— Гэта цяжка: быць адной, калі табе 19 гадоў. Няўжо так і не знойдзецца чалавек, які б разумеў цябе і цаніў у дзяўчыне сціпласць, дабрыню, быў бы гатовы дапамагчы ёй у цяжкую хвіліну і радаваўся б разам з ёю! Пакуль я такіх не сустракала. ВОЛЬГА.**

**— Мне 28 гадоў, характар вясёлы, кантактны, захапляюся спортам. Так выйшла, што па волі лёсу я апынуўся за калючым дротам, хаця вінаваты ў гэтым сам. Раней ніколі не задумваўся пра тое, што чакае мяне наперадзе. Можа, гэта прыходзіць з гадамі, але хочацца, каб побач быў чалавек, здольны дапамагчы ў цяжкую хвіліну. ВІКТАР.**

**— Мне 21 год, вучуся ў ВНУ, будучая прафесія — выкладчык рускай мовы і літаратуры. Характар у мяне замкнёны, з людзьмі сыходжуся цяжка. Сяброўак зусім мала, і тыя хутка выйдуць замуж. Хочацца быць некаму патрэбнай, каб мяне чакалі і я некага чакала. Хачу, каб мяне разумелі і бачылі ўва мне чалавека, цанілі не за знешнасць, не за сувязі, а за мяне самую. ЛЮБОЎ.**

**— Хачу сустрэць сапраўдную сяброўку, з якой можна стварыць здаровую, моцную сям'ю. Палова жыцця ўжо пражытая, а так хочацца жыць, любіць, верыць. Мне 35 гадоў, халасты, адукацыя сярэдняя, мастак ад прыроды. Люблю ў людзях гумар, сумленнасць, вернасць. Захапляюся паэзіяй, асабліва творчасцю У. Высоцкага. МІКАЛАЙ.**

**— Мне 30 гадоў, працую токарам. Вельмі стаміўся ад адзіноты, а так хочацца знайсці спадарожніцу жыцця. Я займаюся фатаграфіяй, захапляюся музыкай, кнігамі. Характар у мяне спакойны, вельмі люблю дзяцей. Вось толькі рост невялікі—160 см. Буду рады, калі хто-небудзь адгукнецца. АЛЯКСАНДР.**

**АДРАСЫ РЭДАКЦЫЯ НЕ ВЫСЫЛАЕ.** Калі вы хочаце пазнаёміцца з аўтарам аб'явы, напішыце яму (ёй) ліст і адпраўце ў «Крыніцу», абавязкова ўказаўшы на канверце імя адрасата і нумар часопіса, у якім была апублікавана аб'ява. Ліст будзе адасланы на патрэбны адрас.

КОЛА ЗНАЁМСТВАЎ

ЧАКАЮ ЛІСТОЎ




Заканчэнне. Пачатак на стар. 10

празмернай зарганізаванасці камсамольскага апарату, аб яго няздольнасці весці за сабой маладое пакаленне, узначальваць і накіроўваць працэсы, якія нараджаюцца ў юначым асяроддзі?

Адзначаныя хібы ўласцівы ўсяму саюзнаму камсамолу. Што датычыць беларускага, то ён, апрача ўсяго, ніяк не можа вылечыцца ад задаўненай хваробы, якая пачалася яшчэ на пачатку трыццатых гадоў і па інерцыі працягвае прагрэсіраваць да нашага часу,— нацыянальнага нігілізму. Выразныя праявы хваробы — абстрактна-абагулены падыход да справы, жангліраванне пустымі словамі, няўменне і нежаданне бачыць тое, чым жыў і жыве родны народ, адлучанасць ад яго мовы, культуры, традыцый, гісторыі.

Гаворым пра гэта не толькі для сябе, а найперш зыходзячы з праблем і пытанняў, якія ўздымаюць у сваіх допісах чытачы, хоць, мяркуем, гэтая тэма магла б стаць падставай для асобнай дыскусіі на старонках часопіса, але яна, зразумела, не можа адбыцца без удзелу прадстаўнікоў камсамольскага апарату.

Пэўную трывогу, нават роспач выклікаў у нас і той факт, што сярод карэспандэнтаў амаль зусім няма сённяшніх вяскоўцаў, як радавых працаўнікоў палёў і фермаў, так і інтэлігенцыі — настаўнікаў, інжынераў, аграномаў і г. д. Здавалася б, каму, як не ім, хто звязаны з зямлёю, з першавытокамі жыцця, з тым асяроддзем, дзе яшчэ бруяцца, хоць і прыкметна памялелыя і засмечаныя, крыніцы роднай мовы, сяк-так трывае беларуская школа, выяўляць заклапочанасць лёсам духоўных здабыткаў народа?

У чым жа прычына, што так прымоўкла, нават знямела наша некалі гаманлівая і неспакойная вёска? У яе ж таксама багатыя традыцыі грамадзянскай актыўнасці. Згадаем хоць бы тое, які шырокі палітычны і культурна-асветны рух быў уласцівы Заходняй Беларусі у складзе буржуазнай Польшчы, найвышэйшым узлётам якога з'явілася стварэнне стотысячнай Грамады. Голас селяніна разважна, патрабавальна і гнеўна гучаў тады са старонак прагрэсіўнага друку, на сходах і ў дзяржаўным сейме.

На працягу ўсёй нашай гісторыі, прынамсі навейшага часу, нацыянальна-патрыятычны рух чэрпаў сваё натхненне і сілу пераважна з вясковых вытокаў. Ды сённяшняя вёска, на жаль, не толькі збяднела на людзей, але і духоўна абмялела. Выхадцы з народа, якія набывалі адукацыю і па логіцы рэчаў павінны былі свядома захоўваць і акумуліраваць у сабе народны дух, дбаць пра захаванне набытых стагоддзямі духоўных каштоўнасцей, амаль поўнасцю страчвалі еднасць са сваім народам, драбнелі ў інтарэсах і жыццёвых запатрабаваннях і нават здраджвалі ў духоўным плане свайму герaічнаму і шматпакутнаму народу. Ды ўсё ж не будзем траціць аптымізму. Наша вера ў маладое пакаленне, у тое, што працэс павароту да сваёй па-сапраўднаму інтэлігентнай, гэта значыць духоўнай сутнасці, найбольш выразна пачуўся ўжо ў гарадскім асяроддзі. Будзем спадзявацца, што сённяшнія студэнты (будучыя настаўнікі, урачы, бібліятэкары, інжынеры, лясніцыя) вернуцца ці паедуць у вёску не дзеля таго, каб з пагардай глядзець на спрадвечных працаўнікоў зямлі, якія кормяць нас працай сваіх мазольных рук, а каб шчодра дзяліцца з імі набытым у горадзе і браць ад іх усё тое добрае, вечнае, што вяскоўцы, насуперак нягодам жыцця, данеслі да нас і захавалі ў сваіх думках. Будзем верыць, што гэта, побач з эканамічнымі мерамі па аздараўленні і ўмацаванні сялянскага мацерыка, паспрыяе таму, што беларуская вёска акрыяе, не толькі павысіць матэрыяльную аддачу, але і зойме годнае месца ў духоўным адраджэнні народа, і голас яе дачок і сыноў загучыць на поўную сілу.

Пакуль што найбольшай актыўнасцю вызначыліся жыхары беларускай сталіцы — а гэта, мяркуем, аб'ектыўны паказчык таго абуджэння, той цягі да авалодання роднай культурай, вяртання да роднай мовы, да спазнання сваіх гістарычных каранёў, якое, бясспрэчна, адчуваецца ў Мінску куды выяўней, чым у іншых гарадах Беларусі.

Фактам рэальнага, а не абстрактна-касмапалітычнага інтэрнацыяналізму ўспрымаецца намі тое, што сярод карэспандэнтаў ёсць нямала прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей (рускіх, палякаў, украінцаў), якія жывуць у Беларусі і з праніклівым разуменнем, заклапочанасцю і трывогай, за асобнымі, праўда, выключэннямі, глядзяць на нашыя, здавалася б, адмыслова беларускія беды. Яны ўсведамляюць і да сэрца прымаюць тое, мякка кажучы, незайздроснае становішча, у якім апынуліся наша мова і культура, наша патрыятычная свядомасць. Гэтыя людзі, не менш чым самі беларусы, з боллю ўспрымаюць магчымасць поўнай страты народам сваёй духоўнай самабытнасці, усведамляюць, што каб такое здарылася, то гэта было б не толькі нашай, а агульнаславянскай, агульначалавечай бядой...

На гэтым агульным фоне па-сапраўднаму заклапочанага і па сваёй сутнасці інтэрнацыяналісцкага выяўлення пачуццяў і думак людзей розных нацыянальнасцей, узростаў, прафесій і званняў рэзкім дысанансам гучаць нігілістычныя, духоўна-спустошаныя, а часамі і непрыкрыта варожыя ў дачыненні да роднай культуры, агрэсіўна-ваяўнічыя галасы саміх беларусаў, для якіх самаапляўванне з'яўляецца нормай, а то і дабрачыннасцю. У сувязі з гэтым не магу ўтрымацца, каб не прывесці вытрымкі з надрукаванага ў «Правде» за 29 лістапада 1988 года артыкула першага сакратара СП БССР Ніла Гілевіча, дзе сярод іншых цікавых назіранняў і разваг ёсць і такое:

«Пока в печати публикуются такие заявления молодых белорусов: «Я ненавижу эту свою «родную мову» (!), «Меня просто бесит, когда в моей речи попадаются белорусские слова» (!), а газета даже не объясняет читателям, что это — безнравственно, что это — психологическая аморальность, видимо, нам следует прежде всего подумать о том, как довели до такого позорного состояния человека, нашего современника, и как его из этого состояния вывести, вырвать?»

Праблема, сапраўды, мае выразны трагічны сэнс, бо, на вялікі жаль, не адна гэтая дзяўчына (яе ліст друкаваўся ў рэспубліканскай газеце «Знамя юности») так, кажучы парусху, **лихо** дэманструе сваё дрымучае бескультур'е, з нейкім нібыта **упоением** прызнаецца ў сваёй духоўнай нікчэмнасці, нават не задумваючыся і не здагадваючыся, якой яна паўстае ў вачах звычайных, несапсаваных людзей, выхаваных на традыцыйна ўзаконеных, прынятых усімі народамі, за выключэннем хіба тых, што доўгі час знаходзіліся пад каланіяльным ярмом, прынцыпах самапавагі да сябе і павагі да кожнай іншай нацыі, яе культуры, мовы, традыцый.

Горка і балюча, што не адна гэтая дзяўчына, якая, дарэчы, жыве непадалёку ад радзімы класіка беларускай літаратуры Якуба Коласа, выхавана на падобных «ідэалах» няўвагі і пагарды да свайго роднага, беларускага. Лісты менавіта такога напрамку, хоць іх і няшмат, усяго ля дзесяці, ёсць і ў нашай пошце. У адным з наступных нумароў часопіса некалькі з іх апублікуем, іншыя скарыстаем у аглядзе, паспрабаваўшы разабрацца ў сутнасці з'явы, якую мы называем нацыянальным нігілізмам.

Зазначым адразу: даць рэцэпты, якім чынам можна змяніць псіхалогію і светапогляд людзей, у чыіх галовах ужо сфармаваліся і зацвярдзелі адпаведныя ідэалагічныя клішэ і стэрэатыпы, вельмі няпроста. Ды хоць задача па перавыхаванні і нялёгкая, але, у прынцыпе, усё ж вырашальная. Галоўнае, каб надалей не штампаваць прыхільнікаў падобнай ідэалогіі, а навучаць і выхоўваць людзей культурных, якія будуць ведаць і паважаць тое, што выпакутавана і здабыта родным народам, а заадно і шанаваць сваю ўласную годнасць.

Задачам патрыятычнага станаўлення асобы павінен служыць і друк. Ці ж не памятаюцца нам безыменныя і падпісаныя адным або некалькімі аўтарамі публікацыі, якія па чыёйсьці ўладнай волі перадрукоўваліся амаль усімі рэспубліканскімі і абласнымі газетамі? А між тым колькі ў тых артыкулах нявыверaных фактаў, якой маральнай і этычнай непераборлівасцю вызначалася іх яўная тэндэнцыя, зарыентаваная на ўчарашні і пазаўчарашні дзень пазіцыя! А чаго варты тон — тон трымальнікаў ісціны ў апошняй інстанцыі!

Што можна параіць маладому чалавеку ў такой сітуацыі? Найперш прывучаць сябе думаць самастойна і лагічна, умець аналізаваць і параўноўваць факты, старацца як мага шырэй глядзець на свет, павышаць свой культурны ўзровень і, чытаючы сучасную прэсу, не толькі даваряць, але і правяраць атрыманую інфармацыю тым, што назапашана ўласным вопытам, супастаўляць, як падобныя з'явы асвятляюцца іншымі аўтарамі і ў іншых органах друку.

Працэс абнаўлення ў Беларусі, бадай, найбольш марудна ідзе ў сферы нацыянальнай палітыкі і духоўнага жыцця. Тыя, хто стаіць ці, у кожным разе, па абавязку свайго становішча павінен стаяць на чале гэтых працэсаў, пераважна адгаворваюцца агульнымі словамі, не ведаючы як, не хочучы ці не могучы нешта канкрэтнае рабіць. Ужо сталі, напрыклад, стэрэатыпамі словы пра тое, што трэба вярнуць прэстыж роднай мовы, што яе адраджэнне і пашырэнне — справа надзвычай добрая, высакародная і карысная. А ці многа рэальных крокаў зроблена ў гэтым напрамку? Часам складваецца ўражанне, што ўсё гэта — тыповая бюракратычная гаварыльня, што наша чыноўніцтва хоча патапіць у пустых словах і адгаворках, што яно ўжо неаднойчы бліскуча рабіла ў дачыненні да іншых праблем, і гэтую, кардынальную для існавання нацыі. У палітыцы словы тады нешта значаць, калі за імі ідуць канкрэтныя справы, якіх, на жаль, мы пакуль што бачым вельмі мала. Што-што, а памяняць указальнікі ля населеных пунктаў, шыльды і рэкламу ў гарадах і вёсках — пры жаданні можна было б лёгка і проста. Але, як бачым — тармажэнне! Калі б з такой жа «ўвішнасцю» мы вырашалі і свае эканамічныя праблемы, то ўжо даўно, нібы тыя старцы, пайшлі б з торбамі па свеце. Тое ж, што духоўнае жабрацтва не менш страшнае і зневажальнае для годнасці чалавечай, у нас пакуль што не ўсвядомлена...

Аднак, заўважым сабе і добрым людзям у апраўданне, гэты працэс пачаўся ўжо знізу і куды актыўней, чым па афіцыйных каналах. Менавіта пра гэта сведчыць пошта «Крыніцы» і «Родника».

Зразумела, за адным разам цяжка, нават немагчыма ахапіць, асэнсаваць і данесці да вас, шаноўныя чытачы, усю інфармацыю, усё тое багацце, якое змяшчаюць у сабе дзвесце карэспандэнцый — асобныя з іх нагадваюць артыкулы, нататкі, маналогі, трактаты. Таму, зрабіўшы цяпер агульны агляд пошты і праблем, узнятых ці закранутых аўтарамі, у наступных нумарах часопіса, засяродзім увагу на больш вузкіх, больш канкрэтных гранях, групуючы лісты паводле пэўнай (светапогляднай, узроставай, прафесійнай, геаграфічнай) прыналежнасці іх аўтараў. Так, у адным з нумароў мяркуем паразважаць вакол допісаў, прысланых людзьмі, што жывуць за межамі Беларусі.

Гэты ж матэрыял, як вы, спадзяёмся, пераканаліся самі,— не падсумаванне гаворкі, а запрашэнне да далейшага дыялогу. Мы зусім не супраць, калі хто з вас, як і ў некаторых папярэдніх лістах, з нечым не пагодзіцца, нешта аспрэчыць або і ўвогуле, як гэта здарылася ў двух-трох выпадках, абрушыць на нас свой «праведный» гнеў. Аднак жа старайцеся быць доказнымі, не навешвайце гатовых ярлыкоў, не лайцеся — гэта вас не ўпрыгожвае, а сведчыць пра бескультурнасць і зласлівасць з-за таго, што вам, па-сутнасці, няма чаго сказаць у сваё апраўданне, у апраўданне поглядаў, якія вы абараняеце. На такім узроўні, як асобныя аўтары, брыдка не тое што на старонках друку, але і на бытавым узроўні спрачацца. Ды гэта не абвяргае таго, што кожны чалавек мае права на свой голас, на сваю думку, сваё пачуццё, а ісціна, як вядома, нараджаецца ў спрэчках. Галоўнае, мяркуем, каб людзі навучаліся і прывучаліся думаць, аналізаваць, разважаць, пазбаўляліся інертнасці і абыякавасці, спакваля ператвараліся з бязлікай у грамадзянскім плане аморфнай масы ў тую супольнасць (а гэта і ёсць сведчанне цывілізаванасці і грамадзянскай сталасці кожнага і ўсіх), якая называецца нацыяй, народам са сваёй гісторыяй, мовай, культурай.

Узнікла праблема, якія лісты ў дадатак да нашых разваг апублікаваць у першую чаргу. Вырашылі аддаць перавагу тым аўтарам, якія па розных прычынах (большасць з іх ускладае віну на школу, на працэс навучання і выхавання, пачынаючы ад садзіка і канчаючы ВНУ) аказаліся адлучанымі ад беларускай культуры і мовы у прыватнасці. Гэтыя людзі не бравіруюць сваёй адарванасцю ад родных каранёў, а ўспрымаюць гэта як няшчасце, бяду, нават трагедыю. Яны прапаноўваюць шэраг мерапрыемстваў, якія неабходна здзейсніць, каб спыніць і павярнуць у адваротны бок працэс дэнацыяналізацыі Беларусі.

За аўтарамі гэтых, апублікаваных і неапублікаваных лістоў — той, будзем спадзявацца, незваротны працэс патрыятычнага абуджэння, які, як і на пачатку стагоддзя, а потым у 20-я гады, пачаўся і ў нашым краі. Характэрнай яго асаблівасцю з'яўляецца тое, што большасць ягоных удзельнікаў і прыхільнікаў, рашуча выступаючы за вяртанне свайму народу духоўных каштоўнасцей, самі звычай пакуль што дрэнна ведаюць сваю гісторыю, культуру, літаратуру, не настолькі добра валодаюць роднай мовай, каб магчы свабодна карыстацца ёю ў вусным і пісьмовым ужытку.

У гэтым, улічваючы аб'ектыўны працэс амаль паўсюднага выцяснення беларускай мовы, амаль зусім няма іх віны, а толькі адна бяда і трагедыя. Так, можна сапраўды ўсё спісаць на знешнія ўмовы і заспакоіць сваю душу. Але, мяркуем, высокаразвітаму, з пачуццём уласнай годнасці чалавеку не трэба цалкам ухіляцца ад адказнасці за сябе і стан грамадства, у якім ён жыве. І мы ўбачым, калі справа дойдзе да нашых карэспандэнтаў з замежжа, як яны, жывучы ў далечыні ад Беларусі, здолелі захаваць і мову, і ўсё, што сведчыць пра іх нацыянальную прыналежнасць, пра іх адчуванне свайго абавязку перад Бацькаўшчынай. Нам жа часамі тут, на сваёй зямлі, бракуе настойлівасці, упартасці і адвагі зрабіць першы крок у пераадоленні таго бар'еру, які ўзведзены паміж чалавекам і яго радзімай.

Не з усім, што пішуць і прапаноўваюць аўтары лістоў, можна пагадзіцца. Што ж, іх галасы — гэта таксама запрашэнне да роздуму, да абмену думкамі паміж прадстаўнікамі пакалення, якое не хоча мірыцца з бязлікасцю свайго існавання, са стэрэатыпамі ўчарашняга дня, досыць выразна заяўляючы пра сваю грамадзянскую прыналежнасць да сваёй Бацькаўшчыны.





# Дом, які пабудаваў ФРЫП

Уладзіслаў **АХРОМЕНКА**

**Ён інтэлігент, і таму не любіць прыцягваць да сябе ўвагу — не ўзводзіць на сцэне гільяціну і не палохае слухачоў жывымі змеямі, як Эліс Купер, не размалёўвае сябе пад ваўкалака, як Озі Асбарн, не стварае сабе папулярнасці скандальнай фразаю, як Боб Дзілан.**

**Кампазітар і імправізатар, ён проста піша і выконвае музыку.**

**Крытыкі і калегі лічаць яго замкнёным у сабе інтэлектуалам. Стрыманы ў будзённым жыцці, сапраўдны джэнтльмен-віктарыянец, ён жыве з маці і п'е з ёю вечарамі гарбату.**

Выдатны англійскі рок-гітарыст Роберт Фрып перабраў мноства заняткаў, перш чым стварыў дэмакратычную суполку музыкантаў, якія ўвайшлі ў гісторыю року пад іменем «Кінг Крымсан». Іграў за 10 фунтаў у тыдзень факстроты і танга ў гатэлі, вучыўся ў эканамічным каледжы, акампаніраваў спявачцы ў піцэрыі. У 21 год ён канчаткова вырашыў, што ягоным жыццёвым арыенцірам адпавядае кар'ера музыканта. «З аднаго боку, я хацеў удасканальвацца духоўна,— тлумачыць Фрып.— З другога — зарабляць грошы, зведваць свет, сустракацца з людзьмі. Лічыў, што ў жыцці не будзе нічога недаступнага мне, калі я стану прафесійным музыкантам». Час станаўлення Фрыпа як музыканта супаў з сапраўднай рэвалюцыяй у року. Пасля з'яўлення «Аркестра клуба адзінокіх сэрцаў сяржанта Пэпера» рок-музыка ўжо не магла заставацца той, якой была да 1966 года: яна інтэнсіўна ўбірала ў сябе новыя структуры і музычную мову, што спалучалі класічныя, джазавыя і фальклорныя матывы. Як пісаў гады праз два аўтарытэтны часопіс «Бэст», галоўнай мэтаю некамерцыйнага року канца 60-х гадоў стала імкненне «пераўзысці банальную песеньку, узламаць аковы трохвілінных кампазіцый, узарвацца — ва ўсіх сэнсах слова і ва ўсіх магчымых вымярэннях — і, нарэшце, стварыць дастатковую прастору, здольную ўмясціць надзеі пакалення, якія занадта доўга трымалі ў цесных рамках». Рок рабіўся музыкай, здольнай перадаць найтанчэйшыя нюансы чалавечага духу.

Менавіта ў такой плыні развівалася дзейнасць Фрыпа з самага пачатку ягонай кар'еры рок-гітарыста. У канцы лета 1967 года ён пазнаёміўся з братамі Майклам (ударныя) і Пітэрам (бас) Джайлзамі, з якімі, амаль не маючы грошай, умудрыўся запісаць дыск, названы «Вясёлае вар'яцтва Джайлза, Джайлза і Фрыпа». Гэты альбом з трэскам праваліўся (было рэалізавана каля 600 экземпляраў), пасля чаго адзін «вясёлы вар'ят», Пітэр Джайлз, перакваліфікаваўся з бас-гітарыста ў аператара ЭВМ.

Тым часам Роберт Фрып энергічна шукаў аднадумцаў. Юсцін Хайвард і Грэгары Эйдж з «Мудзі Блюз», а таксама Ян Макдональд, Грэгары Лэйк і Піт Сінфільд знайшлі з Фрыпам агульную мову, і неўзабаве ў музычных колах Лондана папаўзлі чуткі пра цудоўнае, нечуванае раней гучанне новай групы «Кінг Крымсан». Канцэрты, пачатыя ў лютым 1969 года, спрыялі росту вядомасці музыкантаў. У канцы таго ж года выйшаў і першы альбом — «Пры двары барвовага караля», які ўразіў аўдыторыю небачаным раней спалучэннем ідэй класічнай музыкі і року. Музычная крытыка, якая назвала альбом «звышнатуральным шэдэўрам», пісала: «У «Шызоідзе XXI стагоддзя» (адна з цэнтральных па сэнсе кампазіцый.— *В. А.*) джаз імчаўся ў адным эскадроне з хард-рокам, у «Эпітафіі» і «Пры двары...» музыка ўдала спалучала рок і класічны сімфанізм».

Небывалы поспех першага дыска не павярнуў Фрыпа на камерцыйныя рэйкі. Праз 10 гадоў Фрып скажа: «Я заўсёды лічыў, што амерыканская ідэя, якая заключаецца ў тым, каб стварыць хіт і ставіць на яго — ідыёцкая. Я ніколі не дазваляў «Кінг Крымсан» трапіць у пастку камерцыйнага поспеху». Таму тое, што здарылася пасля, стала дужа ўласцівае групе і надалей — з «Крымсан» пайшлі Ян Макдональд і Майкл Джайлз, напэўна, з камерцыйных меркаванняў. Да распаду ў 1974 годзе з «Кінг Крымсан» выбывалі, вярталіся і зноў выбывалі Грэгары Лэйк (з «Эмерсан, Лэйк энд Палмэр»), Білі Брэфард і Ян Андэрсан (абодва з «Ес»), Мэл Колінз, Гордан Хаскел, Кіт Тэпэт і Марк Чарыг, Рык Кэмп і Боз Барэл... Адных не задавальняла «антыкамерцыйная» пазіцыя Фрыпа, іншыя не адпавядалі ягонай індывідуальнасці. Аднак група заставалася своеасаблівай дэмакратычнай суполкаю. «Ніхто ніколі не кантраляваў «Кінг Крымсан». Я, натуральна, пісаў для яе песні і ўплываў на яе, але гэта была дэмакратычная арганізацыя з усімі адпаведнымі вынікамі»,— расказвае Фрып. Дзіўна, але арганізацыйнае бязладдзе не разваліла, а хутчэй умацавала групу. Сведчанне таму — альбомы «Па слядах Пасейдона» (1969), «Астравы» (1971), «Заліўное з языкоў жаўрукоў» (1972), «Бяззорнае і чорнае, як біблія» (1974), «Чырвоны» (1975). Музыка групы адметная і сапраўднай гукавой культураю, і яркасцю, і імпульсіўнасцю («Кашачыя кансервы» з «Пасейдона» і «Лэдзі на дарогах» з «Астравоў»).

Тым часам цэнтрабежныя сілы выбівалі групу з творчае арбіты: выконваючы цудоўную музыку, разлічаную на «элітарнага», падрыхтаванага слухача, «Кінг Крымсан» сталі ўбытачныя. Даходы ад грамзапісу і канцэртныя зборы не пакрывалі расходаў, таму лагічным завяршэннем кар'еры «Крымсан» стаў яе роспуск у 1974 годзе.

Пасля распаду групы Фрып займаўся досыць інтэнсіўнай музычнай дзейнасцю, нібыта магніт прыцягваючы да сябе ўсё лепшае, што ёсць у свеце року, працуючы з Пітэрам Габрыэлам, Браянам Іна, Дэвідам Боўі, «Генератарам ван-дэн Графа». Кола інтарэсаў музыканта досыць шырокае: стварэнне ўласных агульнаадукацыйных сістэм, вывучэнне ўсходніх рэлігій і філасофій, фінансавая дапамога музыкантам-пачаткоўцам...

У 1981 годзе, пасля шасцігадовага перапынку, разбураны будынак «Кінг Крымсан» быў адноўлены. Цяпер «Малінавы кароль» выступіў у такім складзе: Фрып (гітара), Адрыян Бэлю (гітара, вакал), які працаваў раней з «Токін хэдз» і Фрэнкам Запам, Тоні Левін (бас) і Білі Брэфард, вядомы выступленнямі ў «Ес» і «Паўлаўз дог» (ударныя). Спалучэнне інтэлектуалізму Фрыпа, непасрэднасці Бэлю, высокага прафесіяналізму Левіна і Брэфарда прынеслі бліскучыя вынікі — альбомы «Біт» (1983) і «Тройня — ідэальная пара» (1984).

«Іншы раз было страшна думаць пра адраджэнне «Крымсан»,— прызнаецца Фрып.— Але гэтая група жыве сваім, часам вельмі дзіўным жыццём. Мы заўсёды выклікаем супярэчлівую рэакцыю: альбо поўнае разуменне, альбо поўную антыпатыю».

# МУЗЫЧНЫ ТЭЛЕТАЙП




Пасля двух гадоў перапынку Фіёна Фламаган, хардрок-лэдзі першай паловы 80-х, зноў у студыі і на сцэне. У 1985 годзе была выдадзена пласцінка «Фіёна», потым альбом «Па той бок бледнага». Услед за гэтым вакалістка на многа месяцаў перапыніла сваю артыстычную дзейнасць, каб прыняць удзел у здымках некалькіх фільмаў — «Загана Маямі», «Маленькая міс Джэкі» і «Вогненныя сэрцы» з Бобам Дзіланам. Аднак хардрок-лэдзі засумавала па року і цяпер запісвае свой чарговы альбом.

Чарговы рэкорд пабіты ў час канцэртаў Джэні Мод у ЗША. У Пасадэне, у гарадской спартыўнай зале, канцэрт Марціна Гора глядзелі 80 тысяч гледачоў. Гэты факт адзняты на відэастужцы, якая хутка павінна з'явіцца на экранах.

У Саманты Фокс з'явіўся новы жаніх — амерыканскі танцор Рычард Гіерла, з якім яна выступала ў відэакліпе «Гарэзлівыя дзяўчаты». Рычард пастаянна дэманструе свае здольнасці выключна ў элітарнай дыскатэцы «Чыпэндэйлз».

Ці ведаеце вы «Е ке Е ке»! Натуральна! Гэта ж першы сусветны шлягер з Гвінеі! Яго выканаўца Марыс Кантэ, які спецыялізуецца ў этна-попе, выступае з музыкантам Кара, што грае на народных інструментах вобласці Мандзінга. Тым, хто цікавіцца, рэкамендуем таксама альбом Кантэ «Бераг Акваба».

23 красавіка 1988 года дэбютавала «Цукерачная хваля» ў раённым клубе на Хамічоўцы ў Варшаве. У выніку з'явілася канцэртная «Маладзёжная сцэна», якая аб'ядноўвае таксама групы «Паляц культуры», «Паранэк», «Зэ Ангелз», «Вочы чорныя», «Лампы», «Світ Бэйн», «Рэгрэс у Зоа». Лозунг «цукерачнікаў»: «Еш цукеркі — ніколі не станеш дарослым!»

Прэса вельмі любіць Ваніці. Экс-дзяўчына з «Плэйбоя», экссяброўка Прынца, Міс Ніягара, мадэль «эратычных» мастакоў знайшла сабе занятак таксама і ў студыі грамзапісу. У бліжэйшы час павінна выйсці яе першая вялікая пласцінка.

Еўрапейскае турнэ Майкла Джэксана прайшло ўдала. Майкл прапанаваў цудоўнае шоу, няспынна пераадзяваўся, выконваў свае лепшыя хіты, выступаў з двума двайнікамі, якія з'яўляліся ў самых нечаканых момантах і месцах. Перш чым Джэксан узнікаў на эстрадзе, досыць доўга дэманстравала свае здольнасці Кім Уайльд. На жаль, яна расчаравала гледачоў. У адрозненне ад новай Майклавай кампаньёнкі гітарысткі Джэні Батэн.

Крыс Норман, ідал падлеткаў 70-х, экс-лідэр ансамбля «Смокі», які ўжо не існуе, па-ранейшаму запісвае дыскі. Але ці ўдасца Крысу паўтарыць поспех мінулых гадоў!

Віні Вінцэнт (экс-«Кіс») запісаў ужо са сваім новым ансамблем «Інважы» першы альбом. Пласцінка называецца «Усе сістэмы праходзяць».

Пітэр Шыгеці аб'явіў аб нараджэнні сваёй чарговай супергрупы «Этатрыа», у якую ўваходзяць апроч шэфа гітарыст Рудзі Кроненберг і Клаўс Лем.







Група «Майстра»

Фота Сяргея БАРЫСАВА










Цяпер у Невадзе ідзе судовы працэс. Абвінавачаныя — група «Джудас Прыст». Абвінаваўцы — родныя 16-гадовага падлетка, які пакончыў жыццё самагубствам пасля канцэрта групы.

Рэклама спрыяе гандлю. У музыцы знакамітыя зоркі не адмаўляюцца прапаноўваць найноўшыя вырабы музычнай прамысловасці. Напрыклад, Сюзана Хофс рэкламуе апошнюю мадэль гітары Рыкенбэйкер.

Выйшла архіўная канцэртная пласцінка Джэры Лі Луіса, знакамітага выканаўцы рок-н-ролу.

Мадона ўсё больш і больш лянуецца. Нічога новага не запісвае, не з'явілася на здымках двух фільмаў, але яе можна сустрэць у начных клубах.

«Мілі Ваніллі» — новы дуэт у стылі дыска створаны ў ЗША. У яго ўваходзяць Роб Пілатус і Фаб Морван.

Джымі Пэйдж, экс-зорка групы «Лэд Зэпэлін», пасля не дужа доўгага супрацоўніцтва з ансамблем «Зэ Фірм» выдаў свой чарговы сольны альбом, названы «Аўтрайдэр». Цяпер збіраецца за акіян, каб даць 36 канцэртаў разам з сынам Джэсанам.

Аб сваім вяртанні аб'явіла Сузі Кватра, багіня малалетак 70-х. Сузі 38 гадоў, працуе яна з дуэтам «Болед энд Боленд». Вынік гэтай працы — яе новы сінгл «Мы заснавалі каханне».

Яз ужо вядомая па відэакліпах. Гэтая мілая бландзінка сваю кар'еру пачынала ў ансамблі «Кольдкульт», запісаўшы вельмі моцны баявік «Дом доктаркі», потым была фотамадэллю, а цяпер у яе ўжо выпушчаны сольны хіт «Адзіны шлях».

Нік Бэгз (экс-Каягугу) заснаваў новы ансамбль, у склад якога ўвайшлі яшчэ два музыканты: Сімон Эліс і Осцін Хоўард. Група ўжо выпусціла пласцінку пад назваю «Айчына».

**Падрыхтаваў Уладзімір КОНАНАЎ**